УДК 821.161.3-3
ББК 84(4 Беи)-44
М25

**Маракоў, Л.**
М25 Яны не ведалі : Апавяданні / Леанід Маракоў. — Мінск, 2007. — 216 с.

Сапраўднае сучаснае апавяданне — апавяданне XXI біякамп'ютарнага стагоддзя мусіць мець у сваёй аснове востра дынамічны, звышнапружаны, найзаймальны — не адарвацца! — сюжэт, з абсалютна нечаканым непрадбачным фіналам. Разам з тым апавяданне павінна быць добра выпісана, лёгка чытацца, як некаторыя кажуць — улёт!

У меру дадзеных Богам здольнасцяў Леанід Маракоў стараецца выконваць гэты «кодэкс».

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4 Беи)-44**

# ПРЫНЦЭСА

Канец ліпеня выдаўся спякотны да знямогі. Ап'янелыя ад знясільваючай задухі людзі-цені блукалі па зямлі, як па дне акіяна.

Але Люся гэта не заўважала. Яна кружылася, як заведзеная лялька, і дарослым, прыціхлым, разамлелым ад гарачыні за пастаўленым у цэнтры саду сталом, здавалася, гледзячы на яе, што яны бачаць старое паскоранае кіно. Толькі каляровае.

Люся спявала:

— Сонейка, сонейка, у мяне сёння дзень нараджэння! Павіншуй мяне, а я — цябе! Калі ласачка.

Па Люсінай спінцы скакалі дзве змейкі-коскі. Даставалі да пояса. Да яе прыгожага раменьчыка. Раменьчык з зіхоткай спражкаю быў аздобай сукенкі, падоранай мамкай і таткам на дзень нараджэння.

Ах, якая сукеначка!

Люся была шчаслівая, патанала ў шчасці, раставала ў ім. Люсі ж — толькі дванаццаць. У яе ўсё жыццё наперадзе! Усё!

За вялікім дубовым сталом разам з гасцямі знемагалі яе бацькі: чарнабровая з пунсовымі шчокамі пявуння — калісьці салістка вядомага хору — мама і прыгажун-акардэаніст — выкладчык музыкі — тата. Усяго за сталом чалавек з дзесяць. Радня.

Нібы ўлавіўшы ад дачкі зарад энергіі, Люсін тата ажыў, страпянуўся, выдыхнуў-скінуў з сябе млосныя абдымкі спёкі і ап'янеласці, зацягнуў моцным сакавітым басам:

— Ой, моро-оз, моро-оз, не моро-озь меня-а...

Люся любіла, калі тата спяваў. Яна любіла яго і баялася. Баялася: пасля хмельнага застолля тата сварыўся з мамай, біў яе. Мама плакала і прасілася: «Не трэба, Валерык». А тата тузаў яе за валасы, крычаў: «Ты чаго на яго талопілася? Зараз ты ў мяне наглядзішся! — І круціў маме галаву: — Глядзі! Глядзі!»

Тата не мацюкаўся. Тата быў інтэлігент. Ён біў маму.

Яшчэ зусім нядаўна Люся была круглай выдатніцай. Але апошнім часам у яе надараліся і «чацвёркі». Нярэдка яна прыходзіла ў клас змучанай пасля бяссоннай ночы і ўжо на трэцім уроку торкала носам у парту.

Настаўніца папікала: «І з гэтай дзяўчынкі я раіла браць прыклад?!» Трохі супакоіўшыся, цікавілася: «Што здарылася, даражэнькая?»

Люся маўчала. Ёй было сорамна за тату і шкада мамы. «Я больш не буду», — апускала галаву.

Зноў пачулася музыка. Люся схамянулася.

— Ой, моро-оз, моро-оз, не моро-озь меня-а, — падымаўся з-за стала, расцягваючы акардэон, тата. — Не моро-озь меня-а, моего-о коня-а...

Люся паглядзела на неба, ціхенька папрасіла:

— Сонейка, сонейка, выканай, калі ласка, адно-адненькае маё жаданне. — І ўжо зусім шэптам дадала: — Каб татка ніколі не біў мамачку.

І зноў Люся закруцілася, забегала, заспявала. Спявала? Люся плакала, але гэтага ніхто не бачыў. Стаяла задушлівая спёка, а Люсі было холадна.

Горача Люсі была зімою, калі выбягала ў адной сукеначцы на вуліцу, клікала на падмогу суседзяў: татка зноў біў маму.

Так у Люсі прайшлі тры бясконцыя, пакутліва доўгія гады.

Так прайшло Люсіна дзяцінства.

Не было ў Люсі дзяцінства.

А ці ёсць без дзяцінства будучыня?

— Ой, моро-оз, моро-оз, — цягнуў пастаўленым басам тата, перабіраючы клавішы. — Не моро-озь меня-а, — выцер рукавом пот з ілба: — Спякота.

«Холад, холад, холад, — бегала-сагравалася, супыняючы словамі дрыжыкі, Люся. — Сонейка, сонейка, памажы, калі ласка».

— Дачушка, бяжы да мяне! — раскінула рукі, гатовая злавіць Люсю, мама.

Мама прапала ў дзень здачы Люсяй апошняга экзамена за восем класаў. Яе так і не знайшлі — напэўна, і не шукалі. Шмат іх, зніклых і прапаўшых — усіх не перашукаеш.

А Люся скончыла восем з трыма «чацвёркамі». Для яе гэта было зашмат. І яна адчула: да дзесятага ў выдатніцах не дацягне. Стамілася. І Люся кінулася ў тэхнікум — з апошніх сіл у апошні вагон. У самы прэстыжны і цяжкадаступны. Вось так рашыла! Дваццаць пяць чалавек на месца, дваццаць пяць! Тое, што трэба! Была не была!

Усе дні да экзаменаў Люся праседзела перад мамінай фатаграфіяй: з упартасцю тапельца, які хапаецца за саломінку, паўтарала ўсё вывучанае ў школе.

А бацьку спаганяць злосць не было на кім, і ён запіў па-чорнаму. Кінуў работу. Суткамі без прадыху спяваў «мароза», успамінаў маму: «О-ох, навошта ж ты на-ас пакіну-л-ла-а?». Стагнаў, плакаў, апускаўся, паміраў.

А Люся не дарэмна ўпарта рыхтавалася — у тэхнікум паступіла. Здала ўсё на «пяць»! Насуперак лёсу!

Дырэктар, немаведама адкуль дазнаўшыся пра Люсіны нягоды, зрабіў для яе выключэнне: дазволіў ёй, мінчанцы, пасяліцца ў інтэрнаце.

— Вось табе шанец. Бяры яго, трымай моцна-моцна, — пажадаў шчыра. — Лічы, што нарадзілася нанава!

Люся й сапраўды нарадзілася ў другі раз. У яе пачалося іншае жыццё. Непараўнанае.

Выдатніца, стараста, камсорг. А ў выніку — сходы, вечарыны, кавэзэны, дыскатэкі, новыя знаёмыя, сяброўкі, паклоннікі. Жыццё! Шчаслівае, радаснае, светлае. Тое, пра якое яна і не марыла.

З гэтым сінявокім, у модных штанах «клёш», з жоўта-чырвоным прыёмнікам «Альпініст» пад пахай, усмешлівым маладым чалавекам Люся пазнаёмілася ў інтэрнаце. Ён зайшоў да маці-вахцёркі ўзяць ключы ад кватэры, а забраў ключы ад Люсінага сэрца. Звалі сінявокага загадкава — Мішка-Майкл.

«Што ж ён такое сказаў? Як так выйшла, што ў адно імгненне, адразу ж стаў блізкім, родным, дарагім, любімым? — згадвала пазней Люся. — А-а, во! Ён спытаў у маці: «“А гэтая, самая прыгожая на белым свеце прынцэса, тут жыве?”» Люся адразу ўспомніла сваю маму, яе словы: «Маленькая мая красунька! Ты станеш сапраўднай прынцэсай!» Ён так і сказаў: «прынцэса». Ён ведаў запаветнае слова.

Ах, як яны пасля смяяліся!

І якая Люсі (гэтак «па-французску», з націскам на апошні склад, Мішка-Майкл з першае сустрэчы стаў яе зваць) была шчаслівая! І як хутка пабег час! Як паляцеў ён, панёсся, паімчаўся, пакаціўся!

Яны гаварылі пра Таркоўскага, слухалі Марка Болана па «Голасе Амерыкі», прарываліся на «Фантамаса» і «Чынгачгука» і, вядома ж, хадзілі ў такія модныя тады паходы. Лес, п'янкое паветра, возера, востраў, палатка, ноч, зоркі — яскравыя-яскравыя! — і яны ўдваіх. Мішка-Майкл абдымае яе і гаворыць, гаворыць. Ён кахае Люсі. Ён прагне быць з ёю. Заўжды! Вечна! Мішка-Майкл цалуе яе. Доўга-доўга не адпускае. Ох, Мішка, Мішка-Майкл...

Як хутка бег час! І як хутка большаў у Люсі жывот! Здрадліва хутка! З кожным днём! З кожнай гадзінай!

І вырашыла Люсі таксама хутка: нараджаць ёй няможна! Рана! Шаснаццаць!

Люсі не ведала, што другая яе спроба пачаць жыць па-новаму, па-чалавечы, сарвалася, што дарога, якая абышла была бездань, стала віхляць, выгінацца, ператварацца ў круг, паварочвацца ў адваротны бок, назад.

Холад, холад, холад.

Зноў холад, як тады ў ліпеньскую спякоту.

Яна не памятала, як дабрыла да бальніцы.

Сярдзітыя цёткі ў белых халатах сварыліся на чым свет стаіць! Распытвалі, зневажалі, палохалі: «Глядзі, больш ніколі не народзіш! Хто зрабіў аборт у шаснаццаць, ужо не зацяжарвае!»

Як ёй было блага! Як нясцерпна балюча!

А добры, любы, родны Мішка-Майкл да яе так і не прыйшоў.

Мішка-Майкл, збіты да паўсмерці, ляжаў у падвале раённага аддзела міліцыі. Болю не адчуваў: быў без прытомнасці.

Дачушка вялікага начальніка да бяспамяцтва кахала свайго аднакласніка — сінявокага стылягу, але, бачачы, што Мішка-Майкл, які і раней не надта адорваў яе ўвагай, усё больш аддаляецца, адыходзіць ад яе, у адчаі падала на яго заяву: згвалціў. І з Мішам «пагутарылі». Білі прафесійна, з паўзамі. Напачатку патлумачылі сітуацыю. Выбірай: вяселле ці турма? Адно з двух. Пакуль яшчэ не позна павярнуць назад, не ўсе масты спаленыя. Маўчыш? Глядзі, у турме гвалтаўнікам ох як цяжка, ох як… І не кажы пасля, што не папярэджвалі.

Мішка-Майкл быў малады, верыў у ідэалы камунізму і ў непазбежнасць перамогі дабра над злом. Ён выбраў «цяжка» — турму.

Пасля знікнення Мішкі-Майкла і працяглага (садысты ў белых халатах даволі паздзекаваліся з малалеткі) знаходжання ў бальніцы — яшчэ адной школе жыцця — Люсі надламалася, здалася. Ёй усё стала абыякава: вучоба, сяброўкі, іх вясёлая група. Усё! Нават незвычайна спагадлівы дырэктар не змог вывесці яе са стрэсу. Люсі кінула тэхнікум, страціла апошні шанец, збілася з гасцінца на сцяжыну, зламала лёс, самую сябе.

Паўзабытае ўжо былое жыццё зноў забірала яе ў свае абдымкі.

— Дзе ты, любы? Дзе?!

Ён бы дапамог, засцярог, паклапаціўся пра яе. Ён бы… Ах, Мішка, Мішка-Майкл…

Мішка-Майкл загінуў на этапе, не даехаўшы да лагера і ўжо ані ў што не верачы. Ён страціў веру ў камунізм, але не ў чалавечую годнасць. За яе і пайшоў на смяротны бой.

«Чаго гэта шчанюк шаптаў: “Прынцэса!”? — думаў, выціраючы “заточку”, забойца. — Акалеў, а не даўся, сука».

Маларослага, крываногага, з дзікім позіркам цыганчука Люсі напаткала ля гастранома. Яна пераходзіла вуліцу і не заўважыла, што ступіла на дарогу, якая вяла ў бездань.

Спачатку ён яе не чапаў. Прыручаў. Наліўшы да краёў чарку, прапаноўваў: ды выпі, што ўжо там! За кампанію! Расслабся, весела будзе, бесклапотна! Ха-ха-ха! І ідзі да мяне. Ідзі. Што ўжо там... Ха-ха-ха!

Але паступова ваўчынае нутро вылезла наверх. Паказала свой дзікі нораў. Дзень за днём ён катаваў яе, калечыў, мардаваў. І гвалціў, гвалціў, гвалціў. Раздзіраў на кавалкі. Цешыўся, уладарыў. А Люсі гінула. Люсі ператваралася ў Люську. Забітую, зацюканую, пакорлівую, укленчаную.

«Не бі!» — пачула яна сябе аднойчы і ўзгадала маму.

Кроў цыганская, кроў бунтарская.

— Задушу паскуду! — пырскаў слінаю, выплюхваючы ахрап’е мацюкоў. Ён не быў, як тата, інтэлігентам.

Гэта павінна было калі-небудзь здарыцца. Рана ці позна канчаецца цярпенне і ва Усявышняга. Падсумаваў ён усё зробленае цыганчуком і вырашыў: час аддаць па заслугах. Хоць фінал атрымаўся, на першы погляд, нелагічны, дзіўны.

Яна ляжала ў паўзабыцці на бруднай падлозе, а ён гойсаў на ёй. Роў:

— Сёння, курва, я табе зяпу разарву!

Але зяпа разарвалася ў яго. Ён махнуў нажом перад сабою, паказваючы, як будзе рэзаць ёй горла, як будзе мачыць, забіваць сцерву, сучку праклятую. Але не разлічыў — п’яная рука сарвалася, і ён паласнуў па мордзе сябе. Губы распаўзліся да вушэй. Кроў лінулася фантанам. Бруднае цела асунулася на Люську і заціхла. Упершыню.

Яна доўга не магла ўцяміць, што адбылося.

Цыганчук нейкі час яшчэ мычэў, хрыпеў, і Люська хацела ўсцягнуць яго на ложак, можа, ратаваць, але пачула мамін голас: «Не чапай!».

Мама і *там* памятала пра яе.

Люська падышла да магілкі з драўляным нефарбаваным крыжам. Апусцілася на калені. Яна сумавала па ім. Па сваім гвалтаўніку. Цяпер гвалціць яе не было каму. Ды й каму патрэбна змардаваная, скалечаная, бяззубая жанчына, загнаная, запалоханая жывёліна — каму?

Сёння Люська прынесла яму кветкі. Два дні галадала, каб купіць гэты маленькі чырвоны букецік.

Яна схіліла галаву, паклала руку на грудок, заспявала-зашаптала:

— Ой, моро-оз, моро-оз…

І раптам успомніла:

— У мяне сёння дзень нараджэння.

І заплакала — пачула голас Мішкі-Майкла: «А гэтая самая прыгожая на белым свеце прынцэса тут жыве?»

# ЖАКЕЙ

Надвячоркам, перад тым як ісці на працу, Уладзімір клаўся на гадзінку-другую перадыхнуць. Ён вёў дыскатэку, якая доўжылася да глыбокай ночы, і пастаянна недасыпаў. Дыскатэка была эксклюзіўная, дарагая, для багатых, але праграму рыхтаваў і вёў Уладзімір адзін. Дастойнага дублёра знайсці не маглі, і шэф часам непакоіўся, што будзе, калі вядучы захварэе або з ім яшчэ нешта здарыцца. Але Уладзімір не хварэў, на працу выходзіў, і дыскатэка пад апладысменты сталых наведвальнікаў пачыналася заўсёды своечасова.

Тым днём, пасля запісу са спадарожнікавай сістэмы зборкі апошніх шлягераў, стомленасць ад недасыпання ўзяла сваё. Ужо амаль машынальна ён аддаў суседу Лёву, які па звычнай завядзёнцы зайшоў якраз у гэты час перапісаць у сваю калекцыю падрыхтаваную для работы касету, і прылёг, не распранаючыся, на канапу.

Ён не ведаў, што ветлівы да немагчымасці Лёва, адыходзячы, дзверы толькі прычыніў, і замок не зашчоўкнуўся. Жонка Наталля ўкладвала малога спаць і суседа не праводзіла.

Уладзімір знаходзіўся між сном і яваю, калі нешта вострае кальнула ў жывот. Гэта прымусіла расплюшчыць вочы, але сонная свядомасць яшчэ супраціўлялася. Усё ж боль перамог, і ён прачнуўся.

Спачатку Уладзіміру здавалася, што сон працягваецца. Хтосьці ў чорным, з нацягнутай на галаву

панчохай, прыціскаў яму да жывата нож. Проста ў твар Уладзіміру ў гэткім жа маскарадзе дыхаў другі. У руцэ ў яго быў рэвальвер.

Уладзімір ніколі б не падумаў, што нацягнутыя на галаву калготкі могуць ператварыць чалавека ў нешта пачварнае, у монстра.

I

— Заб'ю! — прахрыпеў той, што прыставіў нож.

Другі, з пушкай, дадаў:

— Ляжа-аць!

— Што за клаўнада? — здзівіўся Уладзімір, падымаючыся, але ўдар рэвальверам па галаве зноў абрынуў яго на канапу.

Ён праваліўся ў цемру. Раптам — успышка! Загарэліся зоркі! Сышліся ў круг. Сталіся сонцам. Яно сляпіла. Закружылася галава. Ён паволі паплыў па крузе. Не, не ён — плылі сцены, столь, падлога. Хуткасць кружэння павялічвалася. Цела налівалася свінцом, набухала. Зараз яно ўзарвецца…

Уладзімір ачуўся на падлозе.

Двое ў чорным не зніклі. Але з'явіўся трэці, гэткі ж блізнюк. Ён стаяў у праёме дзвярэй, метры за тры ад канапы, і адной рукою трымаў Наташу за валасы, а другой прыставіў да яе шыі нож. Кончык ляза пракалоў скуру, і з-пад яго сачылася кроў. Перапалоханыя жончыны вочы застылі.

— Заб'ю! — паўтарыў той, з нажом.

Другі, з рэвальверам, прашыпеў:

— Ляжы ціха, не торгайся, тады і дзеўку не зачэпім.

Уладзімір разумеў: цяпер галоўнае — выйграць час, не рухацца, але ўсё ж рашыўся — толькі вачыма — агледзець пакой: колькі іх? Не паспеў і зусім

трошкі, здавалася, непрыкметна павярнуцца, як атрымаў удар па разбітай, залітай крывёю галаве.

Уладзімір зноў праваліўся ў ноч. У цішыню. Ён стаіць. Адзін. Ногі тонуць у пяску. Пустыня. З'явілася Наташа. Заводзіць знаёмую песню:

— Навошта табе такая работа? Я ж казала, папярэджвала. Дабегаешся са сваімі касетамі і дыскамі. Давядуць цябе гэтыя Джагеры ды Глітары. Я адчувала... Цяпер усё...

Міраж знікае. Ён слепне. Раптам — святло! Яркае! Зноў сонца? Не, гэта кінаэкран. Пайшоў фільм. Чорна-белы. Зверху абрынаецца вадаспад. Кадр спыняецца, вадаспад завісае: нехта націснуў «паўзу». Імгненне — і карцінка распаўзлася. Экран страціў межы. Цяпер ён сам у ім, у кадры. Не, не ў кадры — у жыцці. Уладзіміру зноў захацелася агледзецца, але ў свядомасці штосьці спрацавала, і ён не варухнуўся.

Тут жа пачуў:

— Вырадак! Ты кончыш яго! Мабыць, ужо...

Уладзіміра выдалі павекі — здрыгануліся.

Бандыт заўважыў гэта, усміхнуўся:

— Жывы?! Малаток! — І ўжо спакайней: — Сапраўды, такую красуню нельга адну пакідаць, нельга. Добра? А-а? Добра-а... Цяпер — да нашых бараноў. Усім будзе кайф, калі скажаш, дзе бабкі. Капуста ў цябе ёсць, мы ведаем, так што, жакей, не марнуй часу...

Уладзімір глядзеў на расплывістую чорную галаву, якая гаварыла ўсё гэта праз панчоху. За час, пакуль тлумачылі сітуацыю, адчуў — ногі яму цяпер не памочнікі. «Як адняліся, — сцяў губы. — Та-ак, паловы цела ўжо няма. Шанцаў вырвацца ўсё менш».

— Уставай. Толькі ве-ельмі памалу, — загадала чорная галава.

Цела не слухалася. Памяць пра мінулы боль скавала яго. Бандыты, відаць, зразумелі тое і, узяўшы Уладзіміра пад рукі, пасадзілі. Руля рэвальвера перамясцілася ад галавы да шыі, нож — да рэбраў. Шанцаў вырвацца па-ранейшаму не было.

— Дык што з бабкамі?

Яго прыўзнялі, спрабавалі паставіць на ногі.

— Ара, гэтая сука не стаіць, — сказаў адзін з тых, што трымалі Уладзіміра. — Можа, вадой яго?

— Не трэба, пасадзіце, няхай перадыхне, падумае. Куды ён без ног.

Уладзіміра апусцілі на канапу.

«Далі сесці. Добра. Гэта шанец», — прамільгнула ў свядомасці. Агледзеўся зноў толькі вачыма: «Іх трое. У пакоі двое і адзін на кухні, трымае Наташу… Падонак застаўся з жонкаю?» Ірвануўся, але нешта стрымала яго. Нож. Нож, што ўпіўся між рэбрамі.

«А гэты, з рэвальверам? Ён — злева. За ім — балкон. Адчынены. Шанец усё ж ёсць. Левага адшпурнуць паспею…»

Уладзімір сцяўся, гатовы да скачка, але прашыты неданосак — верхавод тройкі — па дрыжэнні нажа адчуў нешта нядобрае: лязо праткнула скуру і ўвайшло ў цела.

— Бачу, ты не зразумеў. Аус! — гукнуў і павярнуўся ў бок кухні. — З красуняй разабраўся? Добра! Цяпер вазьмі коўдру і накінь на мальца. Можа, тады да бацькі дойдзе…

«Божа, як мог забыць. Сынок! Наташка ўкладвала яго, калі засынаў. “Даганяй татку”, — шаптала малому ў вушка».

Цела Уладзіміра сцялася спружынаю, але ён адчуў, што і лязо ўвайшло глыбей. Болю не было, але вырвацца стала немажліва. Нож ці не на трэць быў у ім.

Пачуліся ўсхліпы, і Уладзімір убачыў: малюсенькія ножкі сына ўзняліся ўгору, заторгаліся.

«Усё, хопіць, — загадаў сабе. — Сынам рызыкаваць — не сабою».

— Грошы ў шафе. На верхняй паліцы.

Бандыт кінуў коўдру, падскочыў да шафы, выпатрашыў адну паліцу, пасля другую — грошай не было.

Нервовы, з рэвальверам, размахнуўся, і пасля новага ўдару залітае крывёй цела ўпала перад дзіцячым ложкам. Падаючы, Уладзімір пачуў: «Ёсць!» — і прыхапіў за сабою коўдру, што душыла сына.

Зноў ноч. Усё. Ён сваё адпрацаваў. Было шмат чаго. Можа, і на самай справе хопіць? Бачыў столькі, што хапіла б на два, на тры жыцці! Відаць, і сапраўды выбраў ліміт у Бога?

«Ці так гэта?» — асмеліўся Уладзімір спытаць ва Усявышняга.

І тут яго ахапіла гарачыня. Зноў закружылася галава.

«Дзе я? — спрабаваў спыніць кружэнне. — Чаму адзін? Дзе Наташа, сынок?»

— Божа, калі ты забраў самых блізкіх, забяры і мяне! — закрычаў у адчаі.

Ад крыку вярнулася свядомасць, мацней забілася сэрца, што пачало было спыняцца, пачасцілася дыханне.

Уладзімір расплюшчыў вочы. Навокал усё белае. «Дзе я?» Агледзеўся. Кафля. Ён у ваннай. Не па-

мёр. Толькі рукі… За рукі яго прывязалі да трубы, што ішла да ўмывальніка. Звязаны і ногі. Вусны… Вуснаў не разняць. На іх — ліпкая стужка.

Прыслухаўся. Цішыня.

«Пакінулі жывым? — нібы ў тумане працягваў працаваць мозг. — Не забілі»?

Уладзімір напружыўся — і адразу азваўся боль, абрынуўся на яго, разрываючы цела. Ён зноў ледзь не страціў прытомнасць.

«Асцярожна, — сказаў сам сабе, — асцярожна».

«Думаць, думаць, не спаць», — загадваў розум, калі першыя спробы выбрацца з пасткі не ўдаліся.

Труба. Труба ідзе да зліва. Зліў новы, пластмасавы, ён толькі пафарбаваны белай эмаллю разам з трубою. Трэба падцягнуць вяроўку да зліва і, упёршыся нагамі, ірвануць.

Паволі прыўстаў на калені. Вяроўка нацягнулася. Нешта трымала яе. Канец? Не, не канец. Гэта апошняе мацаванне трубы, самае слабае.

Уладзімір прыціснуўся спінаю да зліва. Уявіў, што разбягаецца, і — рвануў. Ён разумеў, што можа ўдарыцца галавой аб падлогу, але гэта не палохала. Прадчуванне свабоды ўзяло верх над свядомасцю, і спыніць яго было немагчыма.

Падаючы, Уладзімір паспеў павярнуць галаву і тым самым уратаваў свой не вельмі моцны нос ад пералому.

Адляцеў да дзвярэй. Не марудзіў. Націснуў на іх нагамі. Расчыніліся. Зноў прыслухаўся: па-ранейшаму ціха.

Рукі вяроўка рэзала цяпер не так моцна. Відаць, напружыўшыся, ён расцягнуў яе.

Спрабуючы паслабіць вузел, рэзка торгаў рукамі. Яны памалу вызваляліся, але нямелі пальцы.

Падванітоўвала. Час супраць яго. Ён пацягнуў больш моцную правую руку да сябе. Рука з болем пралезла праз путы і вырвалася на волю.

«Цяпер — ногі, — загадаў сабе Уладзімір, але ў галаве стаяў туман, і ён зразумеў: вызваліцца не паспее. — Трэба спяшацца».

І папоўз да кухні.

Жонку прывязалі да батарэі пад абедзенным столікам. Скручаная вяроўкамі, з заклееным ротам, яна глядзела на яго застылымі ад жаху вачыма. Пакуты і боль любімага чалавека выклікалі ў ім лютасць, нянавісць, адчай: «Падонкі, сволачы, гады!» Падпоўз бліжэй. Асцярожна зняў з яе вуснаў скотч. Нічога не сказаў, забыўся, што ўмее гаварыць. Сказала Наташа:

— О Госпадзі!

— Ціха, ціха, — супакойваў яе. — Не глядзі, не трэба, — шаптаў, не разумеючы, што Наталля не заплюшчыць вачэй, бачачы яго акрываўленую галаву, грудзі, усё цела.

— Ты не памрэш, ты ніколі не памрэш, — ажыла яна, адганяючы прэч думкі пра самае страшнае.

— Усё будзе добра, — ківаў Уладзімір, падтрымліваючы жонку, — усё будзе добра.

Узяўся за стол, прыўстаў. Прыборы ляжалі ў шуфлядцы. Выняў нож, апусціўся на калені. У галаву зноў штосьці ўдарыла. Прытомнасць пакідала яго. Цьмяна разумеючы, што робіць, разразаў на жончыных руках вяроўкі. Неўзабаве абмяк і заціх.

«Халаднавата. Шэра-салатавыя сцены. Жалезная спінка ложка. Палата? Так… Я ў бальніцы… — зразумеў Уладзімір. — Жывы».

Пачуліся крокі. Праз імгненне адчыніліся дзверы. На парозе — двое. У форме.

— Ачунялі? — набліжаючыся, усміхнуўся адзін з іх. — Цудоўна. Не хвалюйцеся, вашы жонка з сынам у гэтай жа бальніцы. Даруйце, што турбуем, але — час, як кажуць, не чакае. Чым хутчэй вы адкажаце на нашы пытанні, тым болей застанецца шанцаў затрымаць бандытаў.

Чамусьці ўступаць у гутарку не хацелася, і Уладзімір заплюшчыў вочы.

— Ды што ж гэта такое? — убег, абурана размахваючы рукамі, дзяжурны доктар. — Сястра па лекі выйшла, а яны тут як тут, пакой для допытаў у аддзяленні арганізавалі. Чалавека толькі-толькі з таго свету выцягнулі! Зараз жа пакіньце палату!

Ноччу Уладзіміру не спалася. Нібыта адчуўшы гэта, нячутна зайшла медсястра. Убачыла, што Уладзімір ляжыць з расплюшчанымі вачыма, і амаль узрадавана сказала:

— Даруйце, што турбую. Я вас пазнала: вы дыскжакей, ведзяце начную дыскатэку ў кавярні, што непадалёк ад майго дома. Я некалькі разоў была там, і мне вельмі спадабалася. Працуеце шчыра, ад душы. Музыка — толькі з пласцінак, відэа — кожны раз новае. І голас у вас аксамітавы, такі голас, які проста кліча, зараджае энергіяй. Душа быццам у неба адлятае. Я была на іншых дыскатэках — зусім не тое. Яшчэ раз даруйце за турботы, але хацела, каб ведалі.

— Дзякуй вам, цяпер буду ведаць.

— Ой, ды што вы! Гэта вам дзякуй! І яшчэ пра адно хачу сказаць. Папярэдзіць. Старэйшы з тых, што ўварваліся днём у вашу палату, відаць, загадаў другому застацца дзяжурыць — цяпер ён спіць. Адыходзячы, старэйшы двойчы паўтарыў: «Галоўнае — даведайся, колькі грошай забралі. І яшчэ: па-

спрабуй выведаць, адкуль яны ў яго. Распытай, дзе, маўляў, узяў бабкі на фінскі скураны плашч, японскі тэлевізар з відэамагнітафонам».

«Ясна, — падумаў Уладзімір, калі сястра таксама нячутна зачыніла за сабою дзверы. — Іх хвалюе толькі тое, што грошы не яны забралі, а бандыты. А якая для мяне была б розніца? Нажом не рэзалі б? Рэвальверам бы не глушылі? Дык у іх іншыя цацкі для гэтых жа мэтаў ёсць».

Чамусьці больш за ўсё было шкада повара, які ў кавярню прыходзіў вечарам, адпрацаваўшы змену ў заводскай сталоўцы. Ён апошні, пяты, рашыўся аддаць сабраныя за год працы грошы на новае відэа- і аўдыёабсталяванне. Ён проста мроіў пра сваю піцэрыю.

І праз тры гады яна ў яго будзе.

Ужо бліжэй да заканчэння школы сыну Уладзіміра спадабалася гатаваць, і ён пайшоў да повара вучнем. Наташа не нарадуецца, калі яе «хлопчык пячэ для продкаў нешта смачненькае».

## II

— Заб'ю! — прахрыпеў той, што прыставіў нож.

Другі, з пушкай, дадаў:

— Ляжа-аць!

Уладзімір рэзка махнуў левай, адбіў руку з нажом і, развярнуўшыся, правай адкінуў бандыта з рэвальверам да балкона. Той галавой прабіў шкло дзвярэй, і адзін з празрыстых аскепкаў упіўся яму ў горла.

Рука з нажом на долю секунды затрымалася ў паветры, нібыта выбіраючы, куды ўдарыць. Гэтага Уладзіміру хапіла, каб заехаць бандыту ў жывот — нож выпаў і ўторкнуўся ў край канапы. Верхавод

толькі паспеў прахрыпець: «Сюды-ы!». Удар у галаву аглушыў яго.

Трэці скочыў на жакея ззаду і — памыліўся. Кідкі цераз плячо Уладзімір рабіў лепш за ўсіх у секцыі. Наляцеўшы на тэлевізар, бандыт перавярнуў яго, ударыўся галавой аб сцяну і заціх.

«Цяпер — на кухню!» — пранеслася ў галаве.

Ён кінуўся да дзвярэй, але яшчэ жывы бандыт, які ўрос у балконныя дзверы, — націснуў на курок. Першы стрэл прымусіў Уладзіміра спыніцца, другі — страціць раўнавагу, трэцяга ён ужо не пачуў. Аднак і таго, хто страляў, на большае не хапіла.

Верхавод апрытомнеў, агледзеўся, узяў з падлогі рэвальвер, павярнуўся да тэлевізара і стрэліў у галаву распластанаму перад ім трэцяму. Вярнуўшыся на кухню, нагнуўся, схапіў за валасы жанчыну, што ляжала беспрытомная, прыўзняў, ткнуў ствол ёй у скронь і націснуў на курок.

У дзвярах азірнуўся:

— Наводчыку язык адрэжу.

Дзіця ў ложку не плакала, нібыта разумела, што наперадзе ў яго ўсё жыццё, змагацца за месца ў якім ён будзе адзін. І малы зберагаў сілы.

Праз чвэрць стагоддзя, калі ён стаў жакеем, у адным з элітных начных клубаў кожную раніцу гучала:

ПРАГРАМУ РЫХТАВАЎ І ВЁЎ УЛАДЗІМІР МАРАКОЎ.

# АПОШНІ ВАРЫЯНТ

— Тут не грэх выйсці перад сном прагуляцца, — прапанаваў сусед па купэ, паказваючы на адчыненыя ў тамбур дзверы. — Вугальку наша гаспадыня не шкадуе.

Цягнік спыніўся.

Нас было ў калідоры трое. У канцы яго яшчэ кешкалася правадніца. Ужо ступіўшы ў тамбур, яна зірнула на гадзіннік і захітала галавой: «Ай-я-яй! Ай-я-яй!». Мы адразу ж накіраваліся да яе: «Можа, што здарылася?» Але правадніца, нібыта не заўважаючы нас, павярнулася да выхада, нечакана спрытна для сваёй вагі саскочыла з прыступак і пабегла ў бок станцыі.

— Нічога не здарылася, — усміхнуўся мой спадарожнік, калі прайшоў у тамбур. — Відаць, падыхаць выскачыла. Слушна будзе і нам узяць з яе прыклад.

Мясцовы вакзальчык, хоць і нагадвае размаляваны дзятвою склад-свіранчык, усё ж не будка на паўстанку — стаянка тут пятнаццаць хвілін: буйная вайсковая частка непадалёку дыслацыруецца. Праўда, вагон у нас апошні і да станцыі сотню метраў не даехалі, але гэта і лепш. Цягнікі рэдка парушаюць тутэйшы лясны неруш, і ваякі ад суму не прамінуць лішні раз дакументы праверыць, а то і чамаданы: як-ніяк, памежная зона.

У мяне не было ахвоты саскокваць у цемру і ветраную волкасць, нават захацелася вярнуцца

ў цёплае ўтульнае купэ, але спадарожнік зноў загаварыў, і я застаўся там, дзе стаяў: ён жа да мяне звяртаўся.

— А назва ў станцыі, — спадарожнік кіўнуў кудысьці за акно, — запамінальная — Непылаева. — І дадаў: — Відаць, у той час, калі бальшавікі гэткім імем ахрысцілі яе, тутэйшыя лясы, як цяпер, з года ў год не гарэлі. Відовішча, скажу я вам...

Нечакана захацелася пабачыць «пылаючыя» лясы, і я пагадзіўся:

— А мо й праўда варта размяцца.

Сказаў няўпэўнена: усё яшчэ былі нейкія падсвядомыя сумненні. Але спадарожнік, відаць, не звярнуў на мой сумнеў аніякай увагі, бо адразу ж ступіў у тамбур, а адтуль, завісаючы на парэнчах, хуценька спусціўся ўніз. Мне нічога не заставалася, як услед за ім саскочыць на мокры, чорны і тлусты ад масла і вугальнай смалы шчэбень.

— Можа, усё ж закурым? — страсянуў павесялелы сусед пачкам «Філіп-Морыса». — Суперлёгкія, амаль без нікаціну!

З раскрытай блакітна-белай скрыначкі роўна на трэць вытыркнуліся дзве цыгарэты.

«Спрытнасць рук і ніякага махлярства! — міжволі адзначыў я. — Фокуснік плюс весялун. Не сусед па купэ, а знаходка. Праўда, залішне прыставала. Казаў жа: тытунём не забаўляюся, дык не — закуры ды закуры. І з віном тая ж гісторыя: “Кроплю-другую, для настрою”. Тлумачыў жа: спартсмен, не п’ю. І лес, як бачу, самы звычайны, бадай, толькі пагрозліва густы і праз гэта выклікае трывогу».

Адказаў ужо амаль злуючы:

— Не-не, дзякую! Мне абсалютна ўсё роўна якія: Морыс ці Дорыс, лёгкія або цяжкія, з нікацінам

або без. Лепш раскажыце сакрэт: як у вас усё так спрытна выходзіць?

Да гэтага сусед паспеў адкрыць «вокам» бутэльку ліманаду і назваць карту, наўздагад выцягнутую мною з калоды.

Ён з ходу загаварыў са мною на «ты», што мяне крыху абурыла. Я быў выхаваны зусім па-іншаму. Зыходзячы з агульнапрынятых правілаў, трэба было б і мне тыкаць яму, тым больш што ён выглядаў старэйшым за мяне ўсяго гадоў на дзесяць, не больш. Але тыкаць я не рашыўся. Чамусьці думалася, што гэты жартаўнік-усёвед — чалавек з іншага, незнаёмага і таму небяспечнага для мяне свету. Ягоная актыўнасць прыгнятала і насцярожвала, я не прымаў яе, адчуваў нязвыклай і чужою. Ён нібыта кіраваўся дэвізам: ні хвіліны спакою. Я ж аддаваў перавагу ўраўнаважанасці, нават паважнасці.

— Калі кожны будзе ведаць мае сакрэты, дык якія ж гэта сакрэты? — паляпаў спадарожнік мяне па плячы. — А чалавек, скажу табе, тым і цікавы, што ў яго не на віду. У цябе, нябось, таксама штонебудзь ёсць такога кшталту?

— У мяне? — перапытаў я, паціскаючы са здзіўленнем плячамі. — Не ведаю. Здаецца, няма...

Ён усміхнуўся, але прамаўчаў, не стаў больш нічога выпытваць і ўдакладняць. А мне раптам зрабілася неяк няўтульна і трывожна. Я толькі цяпер адчуў, што халодны вецер пранізвае наскрозь, да касцей. І прапанаваў:

— Прабірае. Можа, вернемся?

Мы, аказваецца, не стаялі на месцы, а адышлі да другога канца вагона — у самы хвост цягніка.

— Як скажаш. І праўда, не май на дварэ, — ён таксама, як і я, толькі што сцепануўся.

Павярнулі назад. Непадалёку зноў засвяціліся агні станцыі.

Нечакана спадарожнік да болю сціснуў мне руку вышэй локця:

— Ціха, не варушыся! Глядзі! У акно, кажу, у акно глядзі! Пазнаеш? От жа дурніца. Адно слова — баба! Глуздоў малавата. Элементарнага не разумее: калі ў памяшканні гарыць святло, дык акно — як экран тэлевізара. Глядзі, глядзі, што вытварае!

Я быў бяссільны паварушыцца. «Кіно» паралізавала: наша суседка па купэ, студэнтка-першакурсніца, што ехала — як яна з гонарам прызналася — пасля паспяховай здачы сесіі дадому на вакацыі, зайшла ў прыбіральню. Зняла лёгкі пуловер, павесіла яго разам з ручніком і то праваю, то леваю рукою ўціскала рычажок-кранік, набірала ў далонькі вады і... апаласквала падпахі. («Афрыка», якую ўстроіла праваднiца, давала пра сябе знаць.) Раптам замерла, паглядзела ў люстэрка, у якім адбіваліся прыўзнятыя поўныя грудзі. Дакранулася пальчыкамі з нафарбаванымі пазногцікамі да вялікіх ружовых смочкаў — быццам пераконвалася ў іх пругкасці. Пад прасторным пуловерам яе грудзі зусім не абазначаліся, а тут... Тут усё выглядала інакш! Гэткім тэнісным мячыкам бюстгальтар не патрэбны. Прыцягвалі і ясныя, вабныя вочы, і пяшчотныя пульхныя вусны, і бездакорная кароткая стрыжка. Задурыў дык задурыў сусед мне галаву сваімі прыгаворкамі ды фокусамі. Такую красуню не заўважыў!

Урэшце спахапіўся: няможна ж так! Падглядваць — што можа быць горшае?!

Павярнуўся да суседа, хацелася сказаць яму «пару ласкавых», але ён не даў і рота раскрыць.

— Глядзі, глядзі! — падштурхнуў, падміргваючы. — Кіно толькі пачынаецца.

Я зноў машынальна падпарадкаваўся і павярнуўся да вагона. Студэнтка, нібы адчуўшы нашы позіркі, закрыла грудзі рукамі, угледзелася ў акно. Нічога ў начной цемры не ўбачыла і супакоілася, глянула некуды ўніз, грэбліва пахітала галавою. «Вядома, брудна! — міжволі пагадзіўся я. — На свеце няма нічога паскуднейшага за грамадскія савецкія туалеты». І раптам яна стала на ўнітаз, павярнулася да нас задам, задзерла кароткую спаднічку, спусціла калготы, за імі вузенькія белыя трусікі…

Аднекуль даляцела:

— …адпраўляецца цягнік «Ленінград — Мурманск»…

Я апамятаўся, крутнуў галавою. Было прыкра і сорамна. Як пасля гэтага вяртацца ў купэ, сустракацца з дзяўчынай вачыма?

А спадарожнік спакойна, нават дзелавіта сказаў:

— Пайшлі! Пара, брат, займаць месцы адпаведна купленым білетам.

Апанавала злосць: «Як ты можаш? Нізка ж, подла ўсё гэта! А з цябе — як з гусі вада. І я, атрымліваецца, заадно з табою».

— Супакойся! — на хаду чытаў фокуснік-тэлепат мае думкі. — Мы што, спецыяльна? Мы тут ні пры чым. Чысцейшая выпадковасць!

— Але ж маглі і не глядзець.

— Ды глупства ўсё гэта! Забылі! — прапусціў мяне наперад, да прыступак. — Халаднавата? — паспачуваў падбеглай да вагона правадніцы. Ён, здавалася, зусім забыўся пра ўсё, што адбылося хвіліну назад. Жалезны чалавек.

Я не адразу пайшоў у купэ, затрымаўся ў тамбуры, каля печкі: ніяк не мог адысці ад убачанага. Хацелася скрозь зямлю праваліцца. І студэнтка таксама добрая цаца. Няўжо не ведала, што карыстацца туалетам на прыпынках забаронена? І куды шторка з акна падзелася? Ды й праваднiца безгаловая! Забылася «дабл» зачыніць, усё кінула і пабегла на станцыю. Прыгадалася: «У яе там дружок у пагонах завёўся». Пікантную падрабязнасць паведаміў мне ўсё той жа ўсёвед-сусед: ён, ці бачыце, выпадкова пачуў яе гаворку з сяброўкай з суседняга вагона. Мільганула: «Выпадкова пачуў… Выпадкова ўбачыў… Выпадкова ўгадаў... Выпадкова пашанцавала... Перабор з выпадковасцямі».

Тым часам у тамбур паднялася задыханая праваднiца. Паспешліва апусціла рыфленую пліту над прыступкамі, зачыніла дзверы. Не паспеўшы аддыхацца, падала голас:

— Сядаем на свае месцы, таварышы, сядаем!

Я прайшоў да купэ, пастукаў. Навошта? Яна ж там не адна, ён таксама там. І ўсё ж, толькі дачакаўшыся дазволу: «Калі ласка, можна», адчыніў дзверы.

Першакурсніца слала пасцель і сустрэла мяне «спінаю» і… знаёмай спадніčкай. Узбіўшы падушку, прысела каля акна. Усміхнулася. У мяне адлягло ад сэрца: ні пра што не здагадваецца! Хацеў адказаць на ўсмешку ўсмешкай — не атрымалася. І на які-небудзь дурнаваты камплімент не хапіла духу — язык нібы адзервянеў: усё яшчэ было сорамна!

Успомніў, што захапіў з сабою томік Роберта Шэклі. Любімы фантаст не раз дапамагаў адключыцца-забыцца, прымушаючы не толькі суперажы-

ваць яго героям, але і мысленна ўдзельнічаць у іх прыгодах. Выручыў мяне Шэклі і цяпер.

Масавік-забаўнік бліжэй да ночы, відаць, знямогся, а можа, і вычарпаў сябе, бо неўзабаве прапанаваў:

— Што моладзь думае наконт адбою?

Моладзь думала станоўча.

На два ніжнія спальныя месцы нас было трое. Дама, зразумела, праходзіла па-за конкурсам, а вось мне і спадарожніку давялося цягнуць запалкі. Фокуснік, як заўсёды, перамог, і я палез на верхнюю паліцу.

Прахалода сыраватай падушкі — яшчэ адна заўсёдная асаблівасць савецкіх вагонаў — вывела мяне з затарможанага стану.

«Божа! Галава адсохла! Грошы! Я ж вязу грошы! Чужыя!»

У Ленінградзе добры цётчын знаёмец перадаў чатыры брыкеты з «дваццацьпяткамі» — дзесяць тысяч! — на шостую мадэль «Жыгулёў». Цётка пасля васьмі гадоў чакання ў чарзе талончык на машыну атрымала, а вось грошай так і не сабрала.

Прыпадняўся, пацягнуўся да курткі. Расцяпа: у туалет ішоў — не забываўся на плечы накідваць, а тут на перон выскачыў без яе. От ёлупень!

Здымаючы куртку з кручка, чамусьці палічыў патрэбным патлумачыць суседу гэтую сваю турботу:

— Падушка пляскатая. Трэба пад галаву што-небудзь падкласці.

— Зразумелая рэч, — усміхнуўся, але неяк холадна, сусед.

Складваючы куртку ўдвая-ўтрая, неўпрыкмет прамацаў: брыкеты на месцы. І страховачныя

шпількі на кішэнях — таксама. Фу-у… Дзякуй Богу! І зноў засаромеўся, але ўжо з іншай прычыны: як я мог пра нармальных людзей такое падумаць? Грошы ў каго хочаш адбяруць розум. Што праўда, то праўда.

Супакоіўшыся, заснуў імгненна. Снілася крамянае маладое цела суседкі, яе мяккі галасок: «Добрае кіно? А? Добрае? А за добрае трэба плаціць, малыш, трэба плаціць…»

— Падымайся, хлопец, пад'язджаем! — правадніца торгала мяне за плячо.

Я спрасонку падскочыў, і мы ледзь не стукнуліся галовамі.

— От шустры! Адразу відаць, адпачыў чалавек! Не тое што ўчора — ледзь жывы па вагоне рухаўся, — засакатала яна. — Папраўдзе, і сама праспала. Дай Бог здароўя твайму суседу: пабудзіў, як да «Паўднёвай» пад'язджалі. Яго там сваякі сустракалі. Ён і студэнтку з вашага купэ прыхапіў. Да іх і хлопчык — ён ехаў у суседнім вагоне — прычапіўся: «Падвязіце, дзядзечка, мне адсюль дадому бліжэй». З усяго цягніка толькі яны ўтраіх і сыходзілі. Утраіх і паехалі. Вясёлы ў цябе быў сусед. Нават мне прыдумаў нейкага палюбоўніка. Гэта ў мяне, замужняй жанчыны?! От выдумляка! А ты паціхеньку злазь ды апранайся — пара.

— Дзякуй, што разбудзілі… кхэ… кхэ… — зламаўся чамусьці мой голас на хрыпенне.

— Пабегла падымаць астатніх! — правадніца паднялася з незасланай пасцелі студэнткі. — А ты ўсё ж паварушыся, займі чаргу ва ўмывальнік. Як будзем пад'язджаць да Цэнтральнага, я ўжо не забудуся яго зачыніць.

Але да ўмывальніка не дайшло. Нешта падштурхнула праверыць пачкі пад шпількамі. Першы ж распячатаны брыкет рассыпаўся васьмушкамі роўна нарэзанай шчыльнай паперы — купюр па дваццаць пяць рублёў было ўсяго дзве: зверху і знізу. Лялька!

Наступную ўпакоўку раскрываць не стаў: усё было ясна, як Божы дзень.

Успомніў, як уручаў мне цётчын знаёмец грошы. Наказваў: «Глядзі, не лічы варон! Даяраю табе сабранае за многія гады працы на Поўначы. А там жыццё — не цукар». Успомніў, як увіваўся тады каля нас кірпаты хлопчык у шэранькім, да пятаў, палітоне. Успомнілася і тое, што спярша, калі заносіў рэчы ў купэ, застаў у ім парачку пенсіянераў, а вярнуўшыся пасля развітання з цётчыным сябрам, наткнуўся на веселуна са студэнткаю. Падумаў нават, што трапіў не ў сваё купэ.

Ясна! Хлопчык расказаў ім пра нашу з жыхаром Поўначы гаворку, і яны, высветліўшы, дзе я кінуў якар, паспяшаліся абмяняцца з пенсіянерамі месцамі. Хутчэй за ўсё сказалі, што сустрэлі земляка ці сваяка. Старыя, вядома, былі не супраць: трэба дык трэба.

Малы і падмяніў брыкеты, пакуль весялун з сяброўкай-«першакурсніцай» мяне, цяля, адрэпетыраванай «клубнічкаю» забаўлялі. А перад гэтым, як цяпер разумею, маю пільнасць вінам спрабавалі прытупіць. Магчыма, і цыгарэты прапаноўваліся не простыя, а з начынкаю. У прынцыпе ўсё было разлічана правільна: хто адмовіцца ад капіталістычнага «Філіп-Морыса» і масандраўскага дэсертнага? А «кіно» — як апошні варыянт. Ён і спрацаваў. Пакуль глядзеў пастаноўку, хлопчык упакоўкі перакладваў.

Што ж, працмокаў — сам вінаваты. Сам і адказваць буду.

Накінуў куртку, якая падалася нязвыкла лёгкаю: грошы, мажліва, і не пахнуць, затое вагу маюць.

Спакойна падумаў пра самагубства: «А што? Расквітаюся з усімі адразу!»

Зноў успомніліся словы, прамоўленыя прыгажуняю ў сне: «За добрае кіно трэба плаціць».

Заплачу!

Як нырнуў у прасвет між платформаю і лакаматывам — ён ужо набіраў ход — не памятаю.

Памятаю, што было потым... Калі ачуўся і ўбачыў трох сваіх старых сяброў.

Не толькі за добрае кіно трэба плаціць.

## ДАРАГОЕ ЖЫЦЦЁ

Сястрычкі-блізняткі былі юныя, як майская раніца, чароўныя, быццам казачныя феі, і дарагія, як Жыццё. Менавіта так. Бо «дарага, бязмерна дарага, — нашэптвала прадчуванне, — абыдзецца табе з Сашкам начная прагулка з феямі». Прыгажуні пад раніцу юркнулі ў акно бацькоўскае хаты, а кавалераў, вядома, не запрасілі:

— Да суботы, салдацікі! Усё было так цудоўна!

Мясцовыя героі сустрэлі няпрошаных кавалераў маўклівым аглядам-канстатацыяй, але задоўжаную паўзу парушылі першыя.

— Любіш катацца? — падаў голас высачэзны, пад неба, у папугайнай кашулі, відаць, галоўны з іх, тыцкаючы ў мяне пальцам. — Любі і саначкі цягаць!

Сашка — малайчына, адразу змікіціў: большага па сіле працаўніка можна адужаць, толькі нечакана ўгрызаючыся яму ў горла. І першы кінуўся ў атаку. Рэмень вінтом верталёта засвістаў над яго пілоткаю і гэтым адразу адцягнуў на сябе траіх.

Двое астатніх, наўздзіў, не разгубіліся — рванулі да мяне.

— Н-а-а!

— Д-а-ай! — ашалела, разрываючы грудзі, маё сэрца.

Закружыўся млын з рук і ног.

Усе забыліся пра дарагое Жыццё. Зараз яно нічога не каштавала.

— Ку-ка-рэ-ку-у! — звонка і проста ў душу заверашчаў певень.

Нехта ў гэту цёплую сонечную раніцу чуў яго апошні раз.

*

Сашка не быў цяжкавагавіком, і я лёгка ўзваліў сябра на плечы. Да часці напрасткі праз лес — з гадзіну хады, і з перадышкамі да пад'ёму паспею. Калі дадуць перадыхнуць. Чатырох мы палажылі, але той, пад неба, што разбіў Сашку галаву, пабег прывесці падмогу. Як прывядзе, дык аддыхацца не дадуць. Не дадуць.

Нічога, як-небудзь дачыкільгаем. І не з гэткага віхру выбіраліся. Ты, галоўнае, Санёк, трымайся! За мяне трымайся, не вешай галавы. Дыхай, як я дыхаю. Як паравоз дыхай…

А цяпер — цішэй, дружа, цішэй. Прытрымай дыханне. Паберажы сілы, а заадно — і нашыя Жыцці. Няхай хлопцы бягуць сабе міма, няхай бягуць. Не вытрывае твая разбітая галава калоў, якімі месцюкі неўтаймоўныя на бягу размахваюць. Ну не стагні, Санёк, не стагні, дарагі. Бачыш, хлопчыкі спыніліся, прыслухоўваюцца? Ну не стагні, родны...

*

— Навошта валок? — азадачыў Сашка. — Без мяне не дагналі б, і жыў бы сабе не тужыў. Можа, доўга-доўга жыў бы.

Сашкава магіла была побач з маёю, і я добра чуў сябра.

— Такія, як я, доўга не жывуць. Так што — усё нармальна, Санёк, усё правільна.

— Эх, братка! — уздыхнулі.
— Загадвай жаданне! — разышоўся Сашка.
— Да феяў! — бухнуў я.
— Толькі дачакаемся месяца! — падхапіў Сашка.
— Як жа без яго! — згадзіўся з сябрам.
Ён яшчэ доўга захлынаўся ад смеху:
— Ха-ха-ха, ха-ха-ха!
І не толькі ён.

# ГЕНА

Гену мне заўсёды было шкада. Хоць і самога лупцавалі не раз, але сябе так, як яго, не шкадаваў. Вялікі і прыгожы (чаго вартыя былі яго добрыя карыя вочы, пышная русая чупрына і гладкія, ружовыя, як у немаўляці, шчокі!), ён панічна ўсіх баяўся, дрыжэў пры любой пагрозе, ад каго б яна ні зыходзіла, замірае, калі бачыў чыюсьці занесеную — а раптам ударыць? — руку. Не ведаю, хто і калі гэтак моцна яго напалохаў, але што нейкая сволач узяла на сябе такі грэх, сумневу не было. Я марыў знайсці гэтую сволач і адпомсціць за Гену. Жорстка адпомсціць! Адбіць падлюгу мазгі, як ён адбіў Гену!

Але мінулі гады. Забыўся Гена, аселі злосць, абурэнне, гнеў…

Учора я прагульваўся каля сваёй школы. Дваццаць пяць гадоў таму, развітаўшыся з ёю, мы ўсю ноч шпацыравалі з аднакласнікамі па праспекце. Тая ноч сталася для мяне апошняй у родным горадзе. Назаўтра давялося з’ехаць, і болей я ў тутэйшых мясцінах не быў. Але жыццё — кругазварот, і рана ці позна мы вяртаемся да вытокаў.

Школа здавалася вымерлай, як, між іншым, і праспект. Вымерлая школа, вымерлы праспект, вымерлы горад. Такое вось атрымалася вяртанне.

Жывым быў… Гена, які паказаўся з-за рага. Ён амаль не змяніўся: такі ж вялікі, нават масіўны, і па-ранейшаму запалоханы, баязлівы да дрыжыкаў.

Гена ўбачыў мяне, замёр. Відаць, думаў: сігануць назад, за рог, ці ўсё ж ісці, як ішоў, далей? А можа, пашанцуе і не зачэпяць?

Я падняў рукі і склаў іх над галавою крыжам, даў зразумець — свой! Памятаеш наш знак?

Гена ўспомніў, ступіў наперад, пасміхнуўся.

Я быў здзіўлены: ён вельмі рэдка ўсміхаўся. I ніколі не плакаў. Дакладней, плакаў па-свойму. Пасля біцця і здзекаў дваровай шпаны ў яго пачыналі торгацца плечы, лыпаць доўгія дзявочыя вейкі, няспынна ліцца слёзы. Ні стогнаў, ні рыданняў, ні просьбы аб літасці — толькі слёзы. Яны быццам вымывалі боль з цела і душы, вызвалялі Гену ад пакутаў.

Гена ўсміхаўся. Толькі цяпер я разгледзеў яго твар, і мяне быццам токам пранізала: ён быў спярэшчаны безліччу рубцоў-шнараў. Гэта ж колькі з яго, з гэтага твару, здзекаваліся, рэзалі яго!

Гена падышоў накульгваючы: відаць, дасталося не толькі твару.

— Прывітанне, дружа, — паспрабаваў я суцешыць яго, падбадзёрыць. — Ты ўсё такі ж — вялікі і дужы!

— Не, не, не! — задрыжаў-спалохаўся Гена. — Я не дужы, я не дужы, я не дужы! — Голас сарваўся на фальцэт.

— Добра, добра… — спахапіўся я. — Не пазнаеш, ці што?

Гена маўчаў, зіркаў-касавурыўся ў адзін бок, у другі, прыкідваючы, куды бегчы. «Што ж рабіць? — думаў я. — Вось дык сустрэча. Не, хлопцы! Сёння я так проста не здамся! Я павінен разарваць гэтае заганнае кола!»

— Генка! — успомніў, як называў яго ў дзяцінстве. — Генка, я — свой! Такі ж біты, як ты, адзін к аднаму. Няўжо забыў Саньку?

Дзявочыя вейкі перасталі торгацца, бровы распраміліся.

— Санё-ок! Ро-од-ны! — ажыў Генка і — заплакаў.

Плакаў ён вось так, наўзрыд, — пры мне ўпершыню. Плакаў, захлынаючыся слязьмі, усміхаўся:

— Санё-ок!

Я абняў сябра, злёгку паляпаў па плячы, падтрымаў — як у тую ноч, дваццаць пяць гадоў назад. Пастаялі. Пасля ўзяў яго за руку, і мы пайшлі.

— Санё-ок! — ніяк не мог супакоіцца Гена, ловячы дрыготкімі пальцамі мой локаць. — Ро-од-ны!

Мы ішлі, смяяліся, нечаму радаваліся. Як у тую выпускную ноч, калі нас забілі.

# ЦІХАЯ ВОСЕНЬ ВОСЕМДЗЕСЯТ ВОСЬМАГА

Група завялася і была ў экстазе, выконваючы бітлюўскую «Come together. Right now». Нават сябра Чэмпіёна Андрэй, які сядзеў насупраць, паклаў відэлец, прыціх. Не вельмі даўно ён зазнаў — прытым, як выявілася, нізавошта — год катаванняў і голаду ва ўнутранай турме КДБ, празванай народам «амерыканкай». Андрэй глядзеў у адну кропку. Акунуўся ў простую, але рэзкую, што з першых акордаў брала за душу, бітлаўскую «together...» Здавалася, цалкам адключыўся. Штосьці ўспамінаў.

Моцнае ўзрушэнне адчуваў і Чэмпіён. Раскацістае «right now», здавалася, пранікала ў душу і гучала ўсярэдзіне.

І таму не адразу, а толькі пасля паўтораных з націскам слоў «Добры вечар!» Чэмпіён спачатку ўбачыў, а пасля пачуў чалавека, што падышоў да іх. Сам сабе ахарактарызаваў яго як караля мясцовых рэкеціраў. У народзе той і сапраўды лічыўся крымінальным аўтарытэтам і галоўным сярод бандытаў, што атабарыліся ў гэтай установе.

— У рэстаранчык да нас зазірнулі? У госці, так бы мовіць, на агеньчык? У госці — гэта добра. Трэба й развеяцца. А тое, што без падарункаў прыйшлі, — несалідна, некультурна, я нават сказаў бы — нахабна. Нахабнікаў жа трэба выхоўваць, вучыць дабру-розуму. Але вы не хвалюйцеся, мы людзі ла-

годныя, сардэчныя і навязвацца нікому не збіраемся. Дый грэх гэта — гасцей крыўдзіць. Але ж, скажам, паўдзельнічаць у дабрачыннасці кожны, хто адпачывае ў рэстаране, мяркую, абавязаны. Бачыце, там, у куточку, хлопцы сядзяць? Яны, між іншым, не проста так лынды б'юць, а вас ахоўваюць. Галодныя, адзначу. Удзячнасці ж — аніякай. А ці справядліва гэта, калі адны шыкуюць, а другія ад недаядання пухнуць? Ці правільна? Па-боску? І апошняе задаю пытанне: ці маеце вы намер выправіць гэтую несправядлівасць?

Чэмпіён уключыўся і дапяў, чаго ад іх хоча змагар за праўду, ці, як гавораць пра такіх у пэўных колах, лідэр злачыннай групоўкі, а з выгляду — лох лохам: прыйшоў у рэстаран у азіяцкай піжаме. Яму, напэўна, хтось са злосці душэўнай падказаў, што гэткая апранаха — арыгінальны варыянт спартыўнага касцюма крутой, элітнай, малавядомай у Саюзе фірмы.

«Ванёк-Ваньком, а гаворыць, як піша, — разважаў Чэмпіён. — Складна гэтак пра даўгі-абавязкі і галадаючых Паволжа распавёў».

Аднак наехаў на гасцей галоўны бандыт дарэмна. Пачуццё страху, уласцівае большасці нармальных людзей, у пераможцы добрага дзесятка міжнародных турніраў па барацьбе дзюдо і самба адсутнічала начыста. У дадатак, ён быў у піку формы, а значыць, на адкрытай, свабоднай пляцоўцы адзін мог змагацца з тузінам ахвотнікаў. Бандытаў жа было сямёра. Праўда, хлопцы нішто сабе, падцягнутыя, плячыстыя. Але гэтая акалічнасць Чэмпіёна не бянтэжыла. Вага для яго не мела асаблівага значэння.

І ён цярпліва растлумачыў «сіняму»:

— Ты, бос, не да тых хлопцаў падышоў. Публікі шмат, а выбар зрабіў не з лепшых. І калі, напрыклад, ты не ведаеш такога слоўца, як іпон[1], лепш перайдзі на другі бок дарогі і там трэніруйся. Тут прышыбіць могуць.

Дагаварыўшы, Чэмпіён на ўсялякі выпадак адсунуўся разам з крэслам ад стала (раптам бандыт занадта нервовым акажацца і кулакамі пачне махаць), трошачкі адкінуў галаву назад і развёў рукамі: маўляў, выбачай.

Бандзюк, відаць, блізка з чэмпіёнамі не сутыкаўся (іх жа адзінкі, гэтых чэмпіёнаў, па белым свеце матляюцца, і яны, як правіла, недаступныя простаму народу, няхай нават і «сіняму»: калі не на зборах адседжваюцца, дык у спаборніцтвах прымаюць удзел) і палез быў на ражон. Але нешта — відаць, ціхі голас і спакойны тон Чэмпіёна — насцярожыла «караля», ён засумняваўся ў сабе, вырашыў перастрахавацца і махнуў астатнім:

— Гэй, братва! З намі пагаварыць хочуць. Ага, з усімі. Герой тут адзін знайшоўся. Проста прагне пазнаёміцца.

Адначасова падняліся шасцёра стрыжаных бясшыйных малойчыкаў і рушылі ў кірунку да гасцей. Ішлі павольна.

Павольна Чэмпіён пачаў мяняцца. На твары ўзнікла ўсмешка. Ён учуў музыку. Сваю музыку. Музыку бою.

«Come together! — заражаючы энергіяй яго цела, прамільгнула ў свядомасці, і ён прыкінуў: — Шэсць. Шэсць плюс адзін — сем. Гэта блізка да мяжы. Усё!

---

[1] Чыстая перамога ў некаторых відах усходніх адзінаборстваў.

— загадаў сабе. — Нікога няма! Я адзін. Увага! Бой! Хаджыме![1]»

Ён пачуў «right now», ускочыў з-за свайго стала, перакуліў рукамі суседні і, вызваліўшы спераду ад сябе прастору, «хукам» у грудзі збіў першага з нападнікаў. Паспеў адчуць: такі ўдар нават для гэтага мацака — бальніца. Адскочыўшы ўбок, апынуўся ззаду самага дужага з бандытаў і рукамі з усіх сіл штурхануў таго ў плечы. Правільней, штурхаў не рукамі, а корпусам. Інакш бугай, які быў вышэйшы за Чэмпіёна на галаву, не праляцеў бы дзесятак метраў і не грымнуўся б усёю тушай на бетонную падлогу.

Астатнія чацвёра (галоўны застыў, як помнік) аказаліся больш жвавымі. Бліжэйшы прыняў баявую стойку.

«Добра стаіць. Прыгожа. Па-баксёрску», — падумаў Чэмпіён і, тупнуўшы нагой, на імгненне вымусіў баксёра апусціць вочы. Гэтага хапіла. Галавой ён баднуў бандыта пад рэбры, і той адляцеў ад яго, як разявака-пешаход ад капота машыны, што збіла небараку. «Слабаваты аказаўся ў хлопца жывот, рыхлы, — зазначыў Чэмпіён, але тут жа прыйшло сумненне: — Штосьці лёгка хлопцы кладуцца», — і на ўсякі выпадак аўтаматычна зрабіў крок управа — там было нібыта вальней.

У патрэбны час спахапіўся. Кулак яшчэ аднаго смельчака замест таго, каб патрапіць яму ў галаву, толькі шмаргануў па шчацэ. Але балюча шмаргануў. «Абпаліў, гад», — мільганула ў Чэмпіёна, і ён зразумеў — гэта першы званок: ён прыпазняецца. Сабрацца! Прадыхацца! Удых-выдых! Наперад! І Чэмпіён ірвануў да галоўнага.

---

[1] «Сыходзьцеся!» — каманда да пачатку бою ў некаторых відах усходніх адзінаборстваў.

Той уцякаць не стаў. Што ні кажы, гаспадар і ўсё такое. Але і біцца «ў тэмпе» не ўмеў, таму абцас і раструшчыў яму пераноссе.

«Ты глядзі, заадно і з кальца вырваўся, — выдыхнуў Чэмпіён і агледзеўся. — О-о, ну гэта нікуды не варта, — пракаментаваў сабе тактычныя захады бандытаў. — Трое і з нажом у дадатак...»

Чэмпіён з дзяцінства баяўся нажоў. Гэтак за яго лёс вырашыў. Яшчэ хлапчуком моцна парэзаўся, калі гуляў з падоранай паўночным сваяком фінкай. І тым не менш, адолеўшы боязь, ён кінуўся на нож. Баяўся, але ведаў: таго, з нажом, атакаваць трэба першым.

Двое прапусцілі ўзброенага наперад. «Сур’ёзны, відаць, таварыш», — зрабіў выснову Чэмпіён.

— Дай! — крыкнуў неспадзеўкі, паказваючы на нож, ад чаго бандыт на нейкі момант разгубіўся.

Скарыстаўшы замінку, левай рукою ўхапіў яго за кісць, правай — за локаць і завучаным болевым рычагом прыгнуў да падлогі. «Не, гэтага шкадаваць нельга», — пранеслася ў галаве, і ён шпурнуў бандыта на падлогу. Той торкнуўся ў плінтус галавой.

— Адпачні, — параіў Чэмпіён, пераводзячы дух.

Апошняя парачка не марудзячы кінулася да лесвіцы. Гэтак спрытна махнуць з другога паверха на першы Чэмпіён, напэўна, не змог бы і сам.

— Прыгожа, — пачуў і зразумеў: ён выходзіць з бою.

— У жыцці такога не бачыў. Як у амерыканскім кіно, — ажыў сябра Чэмпіёна Андрэй. — Та-ак... Не ведаў, з кім таварышую, не ведаў... Да цябе, аказваецца, без пушкі не падыходзь.

— У-у-у... — загула, падтакваючы Андрэю, зала.

За бліжэйшымі столікамі запляскалі ў ладкі.

Чэмпіён падышоў да свайго. Апусціўся на крэсла. «Сем, — чамусьці зноў уварвалася ў ягоную свядомасць магічная лічба. — Штосьці не так. Штосьці не адпускае. Так-так, іх, безумоўна, больш. І хутка прыбудзе падмога! Бой не скончыўся! Увага!»

І тут яму апякло спіну. Цела зайшлося ад болю.

«Нож ці куля», — падумаў. І памыліўся. Гэта аперазаў яго дубінкай мясцовы мент, сяржант, дружбак сямёркі.

— Устаць! — раўнуў ён пастаўленым голасам. — Рукі!

Падскочыў другі мент. З кабурой на баку і наручнікамі на поясе.

— Ёсць пушка, не глядзі, не сумнявайся, — сказаў, перахапіўшы іранічны позірк Чэмпіёна. — Значыць, устаём, рукі падымаем. І ўсё робім вельмі паволі, ве-ельмі. Бачылі, які ты спрытны…

Прыціхлая зала зноў загула. Хтосьці крыкнуў:

— Чаго да чалавека прычапіліся? Лепш бы бандытаў лавілі! Не чапайце хлопца!

— Маўчаць! — раўнуў той, з наручнікамі. — А гэты хто? Такі ж бандыт! Рукі, я сказаў! — павярнуўся зноў да Чэмпіёна.

«Што рабіць? — прыкідваў Чэмпіён. — Паслухаць ці атакаваць? Можа, гэтага, з пушкай, падсячы, а другога — нагой з развароту? Не! — тут жа вырашыў для сябе. — З мянтамі звязвацца — на сваю галаву праблемы шукаць. За мянтоў любы суддзя папросту на “пяцярык” раскашэліцца. Прыйдзецца здацца. Хоць і гэта рызыкоўна. Падмога, калі паспее раней, чым мяне павяжуць, умомант змяце гэтых хамякоў… Але будзем спадзявацца на лепшае».

Мянту Чэмпіён сказаў:

— За ўдар па спіне адкажаш, а пакуль што адзнач і запомні: я не супрацiўляюся. Аднак ведай: калі яшчэ раз махнеш палкай, гэта будзе апошні раз у тваім жыцці.

— Не палохай! Палоханыя. Не такіх крутых бачылі, — сказаў мент не надта пераканаўча. — Пайшлі…

«Шкада Андруся. Слова не вымавіў, а яго таксама забралі, — думаў Чэмпіён, спускаючыся па прыступках. — От жа не шанцуе хлопцу. Толькі што з КПЗ, і цяпер зноў…»

Андрэй жа думаў пра іншае: «Такія баі самі па сабе не канчаюцца. Не да дабра ўсё гэта, не да дабра. Адчуваю, будзе працяг банкету…»

У фае з туалета, што быў насупраць гардэробнай, выйшаў мент-лейтэнант. Мянта гэтага Чэмпіён ведаў, але не пазнаў: у форме раней не бачыў. Кожны чацвер у іх клубе праводзіўся «дзень схватак», і лейтэнант не раз наведваўся да Чэмпіёна ва «Ураджай», бо ў «Дынама», дзе ён трэніраваўся, вартых супернікаў у яго ваге было няшмат. Мент таксама хацеў стаць чэмпіёнам.

— Пятро, — не па статуце звярнуўся сяржант да лейтэнанта, — бандыта злавілі. Рэзкі, сука. Проста вундэркінд. Ты б пабачыў! Цэлы спектакль закаціў. Ну нічога, мы яго…

«Дык гэта ж Пётр! — прамільгнула ў Чэмпіёна: толькі цяпер ён пазнаў свайго спарынг-партнёра. — От змей! Сітуацыю ўсек, а маўчыць. Вырашыў памучыць, паздекавацца, — прыкінуў, па-свойму ацаніўшы кароткі позірк таварыша. — Можа, і мае рацыю. Я ж яго на татамі не шкадаваў».

— Давайце, давайце, цягніце бандыта ў машыну. У аддзяленні разбяромся. Паглядзім, што за птушка, — загаварыў нарэшце лейтэнант.

«Падлюга!» — вылаяўся ў думках Чэмпіён, але апускацца да танных фраз кшталту: «Пятро, ты што, сваіх не пазнаеш?» — не стаў.

І тут заявіла пра сябе падмога.

Чэмпіён убачыў іх першы. Яны ламаліся ў дзверы. Штосьці крычалі.

Загучала «Come together». Нагадала: «Небяспека!»

Уваходныя дзверы з тоўстага шкла былі зачыненыя, але дагодлівы швейцар паспяшаўся да іх.

— Стаяць! — загадаў яму Чэмпіён, рызыкуючы яшчэ раз атрымаць дубінкай. І, магчыма, атрымаў бы, калі б лейтэнант не зрэагаваў:

— Косця, правядзіце «вундэркінда» на другі паверх, прайдзіце праз бар у гасцініцу і выклічце машыну адтуль.

Сяржант не стаў абмяркоўваць загад, штурхануў Чэмпіёна ў спіну:

— Пайшлі, круты. Сёння твой дзень. Халява табе так і прэ.

«Круты ды круты. І што ў яго за манера такая дэбільная: адно слова пяць разоў паўтараць», — думаў Чэмпіён, падымаючыся па прыступках на другі паверх.

— Дваццаты, я восьмы, — пачуў Чэмпіён з рацыі, што раптам ажыла ў машыне. — Затрыманага дастаўце дадому. Ля аддзялення брыгада Крэндзеля дзяжурыць…

— Зноў табе шанцуе, — пракаментаваў сяржант паведамленне. — І адкуль такія ўдачлівыя бяруцца?

Сёння чацвер, дзень схватак. Ён праспаў і цяпер спяшаўся. Ляпнуў дзвярыма. Амаль уляцеў у адчынены ліфт. Не гледзячы, націснуў ніжнюю кнопку.

На першым паверсе дзверы рассунуліся. Чэмпіён зрабіў крок, другі. Адчуў халадок. Небяспека! Справа?! Павярнуў галаву. Выкінуў, пераймаючы ўдар, руку. Позна!

Ён ведаў, што калі-небудзь спозніцца. У дзяцінстве бачыў сон. Бог, ці хто, глядзеў на яго, папярэдзіў: «Ты станеш лепшым, але ніколі не будзеш старым».

Удар быў з-за спіны збоку. Моцны, рэзкі, прафесійны. Чэмпіён скокнуў назад, але яго абхапілі двое. Умела абхапілі, як звязалі, не тузануцца.

— Герой, — сказаў бандыт, што ўдарыў яго, — зараз ты будзеш паміраць. Паміраць паволі і балюча. Ты падняў руку на Крэндзеля. Ведаеш, хто гэта? Ведаеш! — паласнуў бандыт яго па грудзях. — Не хвалюйся. Гэта не страшна, — адвёў руку з нажом зноў...

Уварвалося «Come together». «Нажы — гэта не для мяне, — прыгадаў Чэмпіён. — З нажамі ў мяне праблема. Як жа атаку прамаргаў?» Чэмпіён адчуў пах крыві. «Наперад! — загадаў сабе. — Бой! Хаджыме!»

Адштурхнуўшыся ад тых двух, што трымалі яго, нагамі ўдарыў трэцяга. Той адляцеў і выпусціў нож. «Без нажа працаваць можна, — мільганула ў Чэмпіёна думка. І, зноў адштурхнуўшыся, гэтым разам ад зямлі, кульнуўся цераз сябе, перакаціўся, згрупаваўся, устаў. — Цяпер паехалі», — заклікаў сябе і... замоўк.

Перад ім стаялі двое: сяржант з напарнікам. У цывільным.

Сяржант дастаў пушку:

— Во гад! — не марудзячы націснуў на курок.

Куля трапіла Чэмпіёну ў плячо, прайшла навылёт, дзынкнула аб паштовую скрынку. Ён кінуўся на сяржанта, але той не адпускаў курка. Чатыры кулі ўвайшлі ў грудзі Чэмпіёна.

Чатыры разы апякло. Ён павольна апускаўся, адключаўся, паміраў...

Калі тыя двое падышлі да Чэмпіёна, ён яшчэ чуў «Come together...» Сяржант прыставіў пісталет да ягонай галавы і стрэліў. Музыка абарвалася.

— Усё, — сказаў сяржант. — Сыходзім.

— Справы о'кэй, кажаш? — спытаўся, трымаючы слухаўку, чалавек з заклееным дзвюма шырокімі стужкамі пластыра носам. — Гэта добра, што о'кэй. З мяне падаруначак. Зрэшты, з цябе, літэр[1], таксама належы... — не дагаварыў заклееены і заціх. Убачыў.

Андрэй націснуў на курок. Пластыр, успораны чымсьці нябачным, адарваўся ад твару. Твару не было.

— Што здарылася? — чулася з павіслай на шнуры трубкі. — Што ў вас робіцца?

— Right now... — падняў трубку Андрэй. — My friend is waiting for you[2], — дапеў ён за Чэмпіёна.

Ён не ведаў, што сваім стрэлам паставіў у шэраг тых, хто *там* чакае помсты за сябе, і таго, у каго страляў.

---

[1] Ад слова «лейтэнант» (*жарг.*).

[2] Мой сябра цябе зачакаўся (*англ.*).

## «МАЛЬБАРА-ЛАЙТС»

Накінуў куртку, прамацаў кішэні: партманет на месцы. Вызірнуў у акно: шапік працуе. Спусціўся; «Мальбара-Лайтс» няма. Перайшоў на другі бок вуліцы, дзе бабулі ля кафэ, акупаванага італьяна-туркамі, прапаноўвалі цыгарэты з-пад крыса: ёсць «Мальбара», але без «Лайтса», а каханая ж заказала менавіта лёгкія. Прайшоўся да кавярні на рагу: ні таго, ні другога. Крамка на пачатку бакавой вулкі не свяцілася — зачынена.

Вярнуўся назад, у двор. Падышоў да машыны. Сеў, завёў. На колах — не на сваіх на дваіх: раз-два, і патрэбная рэч у кішэні.

На выездзе з двара прытармазіў. Месца на Нямізе небяспечнае: мост, за ім пад'ём і адразу круты спуск. Двойчы азірнуўся: нікога — можна разварочвацца. Павярнуў руль улева, крануў машыну і… пачуў, адчуў нутром — аж заняло дыханне — віскат тармазоў, удар, скрыгатанне металу. Здавалася, на спіну звалілася рэйка. Тыцнуўся ілбом у шкло. Тут жа адкінула назад. Пацямнела ўваччу. Адключыўся...

Пабудзіў голас-рык:

— Сляпы? Лупы забыў, га?

— Што такое? — ачуньваў. — У чым справа?

— Не ўсёк! — па-ранейшаму наязджаў бас. — Ты, відаць, пацан, нюх страціў?

«Раве, іграе на апярэджанне, — прабегла думка. — Цяпер несці адказнасць буду я, хоць праўда не на баку крыкуна. Я ведаю сваю вуліцу, тым болей

гэтае месца побач з домам. Каб з яго не ўбачыць, што нехта едзе, трэба гнаць кіламетраў сто дваццаць, не меней. А пры ўездзе ж на вуліцу вісіць знак "сорак", з моста пачынаецца вуліца. Та-ак, вінаваты ён, а плаціць буду я».

— Ды нічога я не страціў, — пачаў досыць дружалюбна: для цывілізаванага чалавека незразумелыя сітуацыі вырашаць лепш мірам. — Куды вы ляцелі? Знак жа вісіць! Тут школа непадалёк…

— Гэта хто ляцеў?! — бас відавочна працаваў на публіку. — Ехаў сабе сорак, гора не ведаў. Што я, знакаў не бачу? Гэта табе засляпіла! Хочаш усё пасвойму перавярнуць?

«Ты якраз гэтага і хочаш! Перакінуць з хворай галавы на здаровую!» — вырашыў для сябе. Уголас прамовіў па-ранейшаму спакойна:

— Дарэмна горла дзярэш! Я не глухі. Ад'едзем да ўзбочыны. Тут толькі дадаць могуць.

— Эге, дык ты, бачу, хітрун. У лапці абуць захацеў? «Ад'едзем»! Эйш, прыдумаў.

«Тупы, — зразумеў я. — На тупых мне шанцуе штодня, як па раскладзе».

— Нічога ніхто не прыдумляў, — паспрабаваў патлумачыць сітуацыю. — Тут чым даўжэй стаіш, тым болей шанцаў, што ў азадак заедуць. Што тут незразумелага?

І ў гэты момант узніклі яны. Ягоныя браткі. Як з неба зваліліся. У такіх па ўсім свеце ёсць браткі. Ім адзін аднаго шукаць не трэба. Ехалі міма і ўбачылі: «Ага, дык гэта ж свой з лохам сутыкнуўся. Можна пажывіцца», — узрадаваліся браткі, прытармазілі. Іх было трое. Няспешна выйшлі з новай «BMW». Па-крутому не зачынілі дзверцаў. Рушылі да нас. Адзін вярцеў у руцэ ланцужок з кастэтам.

Упалыя шчокі, шэры твар — копія зомбі. Другі — з прыжмурам, нібыта яму сонца вочы слепіць, відавочна зэкаўская звычка — ухмыляўся. Весяліўся. Трэці, стрыжаны «пад нуль» качок, напэўна, самы здаровы і рэзкі, узначальваў шэсце.

Я разумеў, што бойка пры такіх суадносінах сілаў бесперспектыўная, і выйсце бачыў у адным: трэба яе пазбегнуць.

— Калі зыходзіць строга з правілаў, — апярэдзіў качка, не даў яму — а ён быў ужо раскрыў рот — паздароўкацца з босам, — дык віна за мною. Але ў прынцыпе гэта не так. Знак «сорак» у пачатку вуліцы вісіць не выпадкова. Дарога крута бярэ ўгору, пасля рэзка падае, і машына, што йдзе паперадзе, знікае метраў праз сто. І ўбачыць яе і тым больш зрэагаваць — немагчыма. Але зараз гэта, само сабою, няважна. Калі б ён, — паказаў рукою на «гоншчыка», — не ляцеў больш за сотню, дык я ўбачыў бы яго і дачакаўся, пакуль праедзе. А так выходзіць, што вінаваты я: разварочваўся не там, дзе належыць. Таму не супраць закрыць пытанне, а значыць, разлічыцца, аддаць належнае…

— Ды й што тут разбірацца-святкіцца, — плюнуў на асфальт качок. — Валім на базу… У сэнсе — у гараж, — паправіў сябе. — Гэта побач, у цэнтры. Там укалвае класны кузаўшчык. Ён лішняга не возьме. У яго ўсё па мізэры. Хлопец прыкіне, чым рамонт абернецца, ты разлічышся, і — разышліся, як у моры караблі.

«Побач, у цэнтры, класны кузаўшчык… Цывільная “сінеча” трапілася», — здзівіўся я і, згаджаючыся, махнуў:

— У гараж дык у гараж. Толькі адганю машыну да ўзбочыны.

— Давай, — ухмыльнуўся той, што гуляў з кастэтам. «Ну й лох, цёпленькі спёкся», — чыталася ў яго вачах.

«Паглядзім, хто яшчэ тут лох», — падумаў я, сядаючы за руль. Уставіў ключ. Завялася старушэнцыя, не падвяла. Мільганула думка: можа, гонкі наладзіць? Дакрануўся да педалі газу, машына пакацiла. «Шых, шых, шых», — скроб кола пакарэжаны бампер. Зразумеў: з гонкамі дохлы нумар. Затармазіў, выйшаў. Трымаўся натуральна. Сеў у «BMW».

— Пагналі.

Да гаража, дзе «ўкалвае класны кузаўшчык», дабіраліся чвэрць гадзіны. Усё было культурна і прыстойна (мне распавялі нават некалькі анекдотаў з турэмнага жыцця), але толькі да таго моманту, як заехалі на лодачную станцыю. Яна ўяўляла сабою агароджаны ўчастак зямлі памерам з палову футбольнага поля, на якім стаялі два будаўнічыя вагончыкі, даволі вялікая драўляная халабуда накшталт стадолы і амаль ля берага, на фоне шэрагу перакуленых лодак, — альтанка. Злева і крыху далей знаходзіліся прыбіральня і бочка з пагрозлівым чэрапам і надпісам: «Не курыць!». У ёй, напэўна, трымалі паліва для лодачных матораў. Гаражоў відаць не было. Усё правільна. Так мне і трэба.

— А дзе ж наш умелец-слесар? — падняў я бровы, строячы дурня.

— Не спяшайся, — выйшаў з машыны качок. — Будзе табе ўмелец, і не адзін. І не толькі слесар.

— А чаго адразу на «ты»? — прапусціў я сказанае міма вушэй. — Здаецца, авечак разам не пасвілі, — але не дагаварыў, азірнуўся на гул за спінаю.

Да станцыі пад’ехалі яшчэ дзве «бээмвухі». Чалавек сем саколікаў рэкецірскага бізнесу ўсміхаліся, віталі сваіх.

«Зручная прылада — мабільны тэлефон, — падумаў я. — І паўгадзіны не мінула, а хлопцы ўсё ведаюць, у курсе падзей».

— Як будзем разбірацца? — спытаў няголены мужычок гадоў сарака пяці — пяцідзесяці з сінімі ад наколак рукамі. Адвесіў блазенскі паклон, нібы запрашаючы зайсці ў вагончык. — Па-людску ці па-іншаму?

Я зразумеў, што зараз будзе вызначацца кошт рамонту плюс маральна-матэрыяльныя выдаткі (як яны гавораць — няўстойка), якія, па чутках, у такіх хлопцаў разоў у пяць перавышаюць рэальную суму.

Давялося далей строіць дурня:

— Што тут разбірацца? Закрываць трэба тэму. Няма ніякіх праблем. Вінаваты дык вінаваты. За ўсё трэба плаціць. Я не супраць. Але тут, як бачу, ніякага кузаўшчыка няма. Прапаную пад’ехаць да майго аднакласніка. Аднаўленнем машын ён заняўся яшчэ ў час першых каапературываў. Вопыт — аграмадны. Лепш за яго ніхто такую работу не зробіць. Адказваю!

— От з гэтым спяшацца не трэба. Вельмі сур’ёзнае гэтае слова — «адказваю», — абарваў мяне ўладальнік сініх рук. — Разбяромся на месцы. Навошта без патрэбы катацца, кагосьці там шукаць? Тут бабкі падаб’ём.

«Чаго ж там, на месцы аварыі, не падбілі?» — слушна падумаў я. Але, каб не пагаршаць сітуацыю, давялося пагадзіцца:

— Тут дык тут.

— Цяпер паглядзі на машыну, — павысіў голас «сіні». — Бакавіна счасана, пярэдняя стойка паехала. Машыне — кранты. Аніводзін доктар яе не вылечыць. Так што пра рамонт забудзь. Тачку трэба вярнуць новую, такую, як была.

— Якая ж яна новая?! — не стрываў я. — Гэтай мадэлі гадоў дзесяць, не менш.

— Пры чым тут гады? — рэакцыя была імгненнай. — Машына не ездзіла. Прайшла нейкіх пару тысяч. На спідометр зірні!

«Па перамотцы спідометраў вы спецыялісты», — падумаў я, ужо ледзь валодаючы сабой.

— Не хачу нічога чуць пра новую машыну. Назавіце суму, якую я павінен за рамонт. Калі яна боская, разлічуся — і ўсё на гэтым. А калі…

Ад удару ў спіну я пахіснуўся, але на нагах утрымаўся. Зрэагаваў, адскочыў назад, прыняў стойку. Вось чаго нявартa было рабіць! Гэтага чакалі. Нешта цяжкое, як сцяна, абрынулася на плечы і адкінула мяне назад, на бандытаў. Падкасіліся ногі. Асунуўся. Шанцу ўваліць ляжачаму браткі не ўпусцілі. Першыя ўдары адчуваў, пасля кудысьці праваліўся…

Ачуўся ў вагончыку. Паглядзеў на акенца: шарэла. Прыкінуў, што адпачываў доўга.

Сінія рукі торкнулі пад нос смярдзючую прабензіненую анучу.

— Ты, гэта, дарэмна хлопцаў раззлаваў, — разабраў я малюнак змяі на ягонай руцэ. — Ледзь адбіў цябе ў мальцоў. А магло па-іншаму павярнуцца. Дарэмна не захацеў па нулях усё раскінуць, дарэмна. Але цяпер, калі хлопцы з’ехалі, можаш не баяцца. Напішы колькі слоў, якія я прадыктую, і…

— Пад дыктоўку не пішу!

— Зноў за сваё? — скамечыла рука маю кашулю. — Рызыкуеш, хлопец, ой, рызыкуеш.

«Рызыкую? — паўтарыў сам сабе. — Можа, “сіні” і мае рацыю. Зацыкліўся, рызыкую і магу дарызыкавацца. Трэба змяніць тактыку. Што ён сказаў? Мы адны? Ужо лягчэй…» Уголас згадзіўся:

— Добра, дыктуй...

— Вось бачыш, можаш і па-іншаму, культурна гутарыць. Правільна вырашыў, — усміхнуўся «сіні», — усім жыць хочацца. Цяпер — па справе. Чыркaнеш «пісямко» жонцы. Так, маўляў, і так, вінен аднаму чалавеку, а доўг — гэта святое... Ясна тлумачу?

— Ды ўжо ж, ясней не трэба. А чым пісаць? Зубамі?

— Зноў грубіяніш. Глядзі, дагаворышся. Руку я табе вызвалю. Адну. Для пісаніны хопіць. — Ён нагнуўся і развязаў вузлы на запясцях. — Падыміся, левую зноў да пояса прыхвачу.

Я адчуў: вось ён — шанец вырвацца. Паволі прыўзняўся, адвёў назад галаву, зацiснуў у зубах боль ад падвярэджанай шыі і рэзка, з усіх сіл, джвагнуў «сінюку» ілбом між вачэй. Нос бандыта расплыўся, вочы сышліся да пераносся — пацэліў трапна. Без жалю штурхануў яго ў грудзі. Мужычок раструшчыў часопісны столік у цэнтры вагончыка, адляцеў у кут, грымнуўся аб лодачны матор, які вельмі дарэчы аказаўся там, раскінуў рукі і заціх.

«От і адпачні, — уздыхнуў я і адразу ж выдыхнуў. — Уцякаць! Аднаму шайку не адолець… Не, уцякаць нельга! Стаяць! Думаць! Бандыт, памятаю, запаліў газавую пліту, хацеў пастрашыць агнём. Ён яе так і не выключыў, адна канфорка гарыць. Добра, хай».

Я падкінуў на пліту «дроўцаў» — стос газет, што зляцелі з разламанага століка. Шуганула адразу. «Падсохла паперка, — палягчэла на душы. — Пара сыходзіць! Тут хутка смажаным запахне...»

Выскачыў з вагончыка. Падбег да бочкі з палівам. Кульнулася лёгка: напалову пустая. Пакаціў да стадолы. За пару метраў ад яе штурхнуў бочку апошні раз. Выбег за плот, азірнуўся.

Дашчаная будыніна ўспыхнула, як высушаная салома. Гэта вам не жартачкі — бочка з бензінам.

Хоць адбегчыся ўдалося досыць далёка, я разумеў — так проста не ўцячы. Я спаліў логавішча, але не яго насельнікаў, і ўсё яшчэ наперадзе. От і «бээмвухі» падкацілі. Зноў азірнуўся: шукаюць. Угледзелі. Кінуліся наўздагон. Нешта крычаць. А-а, зразумела, што яны могуць крычаць. Імчаць хутка, няйначай былыя спартсмены. І гэта небяспечна! Бегчы! Не спыняцца!

Прыгадаў і скалануўся: такое ў маім жыцці ўжо было. Логавішча, «бээмвухі», вагончыкі, сінія рукі, уцёкі — усё было ў сне, вельмі даўно. Акурат гэтак я і бег. Доўга, да знямогі, пакуль не акружылі. Што тады зрабіў не так? Чаму дагналі? Я стаміўся, спыніўся, схаваўся і... здаўся! Значыць, галоўнае — не спыняцца, змяніць варыянт, паспрабаваць іншы.

Гэтым разам — не як у сне — не затаіўся. Ведаў, што будзе, калі дам сабе палёгку. І я бег. Задыхаўся і бег. Падаў, уставаў і бег. Бег, бег, бег, уцякаў ад смерці. І, здаецца, яна адстала...

Убачыўшы свой дом, абрадаваўся, але па інерцыі ўсё яшчэ ляцеў. Страх ураганам штурхаў у спіну. Не, стоп! Стаяць! Крамка! Свеціцца? Гэтым разам — так! Працуе! Можа, і «Мальбара-Лайтс» паявіліся?

Калі падляцеў да крамкі і ўбачыў пачак з запаветнай назваю, сілы гаварыць не было. Як глуханямы, пастукаў па шкле вітрыны, паказаў, што хачу купіць. Прадаўшчыцу, відаць, не збянтэжыла мая немата, і яна прасунула ў акенца жаданы залацісты пачачак:

— Гэтыя?

Я па-ранейшаму моўчкі паклаў перад ёю шаравата-салатавыя паперкі. Забіраючы пачак, пачуў:

— Божа!

Я зразумеў яе. Не кожны дзень кліенты з разбітым да крыві тварам трапляюцца.

— Дзякуй, — выціснуў з сябе, завярнуў за рог і пабрыў да роднай параненай птушачкі. Пабітая, яна глядзела на мяне, жалілася абедзвюма вялікімі вачыма-фарамі.

«Прабач, дарагая, усё будзе добра, — супакоіў. — Паехалі, зменім дыслакацыю. Тут робіцца небяспечна».

Паціхеньку, з шых-шыханнем, заехаў у двор, за гаражы. Выйшаў, пагладзіў любіміцу, паабяцаў: «Я ўсё выпраўлю. Заўтра ж! Патрывай».

На лесвічнай пляцоўцы зноў скралі лямпачку, і маладая прыгажуня не разгледзела ў вочка скрываўленага твару пасланага ёю за цыгарэтамі мужа. Пазнала па голасе. Але голас ёй падаўся дзіўным, вінаватым ці што. І яна рашыла: напэўна, «Мальбара-Лайтс» не было і ён зноў купіў якое-небудзь паскудства.

## ПЕРШАЕ ВЕРАСНЯ

Я сустрэў Андрэя на Цэнтральным рынку. Ішло да закрыцця, народу амаль не было, і хоць мы не бачыліся добры дзесятак гадоў, пазналі адзін аднаго адразу — Андрэя, як і даўней, вылучала белая, пышная, пад ранняга Рода Сцюарда, чупрына. Ён купляў сваім блізняткам персікі. Расказаў, што дачушкі перайшлі ў чацвёрты клас, выдатніцы. Не пагадзіўся з маім банальным: «Хутка растуць чужыя дзеці». Пахваліўся, што, нягледзячы на цяжкі час — пра што сведчыла хоць і акуратна, але цыраваная яго куртка, — яму пакуль удаецца кожны вечар прыносіць малым што-небудзь з садавіны: іх хударлявыя фігуркі («Нічога не зробіш, — развёў Андрэй рукамі, — мае дакладныя копіі») як не ўголас патрабавалі вітамінаў. Перажываў, што надыходзіць новы вучэбны год, а толкам не падрыхтаваўся да яго: не купіў дзяўчаткам школьную і спартыўную форму, чаравікі, красоўкі, ранцы, цёплыя рэчы на восень. Андрэй думаў набыць усё адным махам і не тут, а ў Польшчы: там, маўляў, танней і лепшай якасці. І грошай падсабраў дзеля такога выпадку. Выехаць збіраўся ў бліжэйшую пятніцу, каб вярнуцца ў нядзелю: панядзелак — першае верасня.

На тым і разышліся.

Калісьці мы вучыліся разам у аспірантуры. На пачатку перабудовы я не вытрываў жыцця на няшчасныя сто дваццаць «рэ» і падаўся ў аўтаномнае плаванне. Андрэй аказаўся больш цярплівым. Аба-

раніўся, выкладаў. Вельмі любіў сваю работу. Лекцыі яго нагадвалі перадачу «Што? Дзе? Калі?». Аўдыторыі не змяшчалі ўсіх ахвотнікаў паслухаць — рэдкая не толькі для таго часу з'ява. Малады, прыгожы, перспектыўны, студэнткі бегалі за ім цугам, а ён… ён па-ранейшаму жыў у двухпакаёвай хрушчоўцы з мамаю і дзвюма сваімі малымі красунямі: жонка сышла шукаць больш сытага існавання.

Нейкі час Андрэй яшчэ трымаўся за інстытут, але ўрэшце закрылі і яго. З таго часу я Андрэя не бачыў.

І вось — другая запар сустрэча. Хоць не ведаю, ці можна гэта назваць сустрэчаю. На маіх вачах два здаравілы ў камуфляжы з блішчастымі ад тлушчу мордамі падкраліся да яго ззаду. Андрэй паглядзеў на мяне, пазнаў, але прывітацца не паспеў. Адзін з мянтоў схапіў яго за валасы, другі пачаў выкручваць руку. Андрэй не вылучаўся сілаю ці ростам і, калі б яны сказалі яму проста: «Пройдзем» — не падумаў бы супраціўляцца. Мянты ж, відаць, наважыліся зрабіць вучэбна-паказальны захоп валютчыка. Яны гнулі Андрэя да зямлі, але, на іх здзіўленне, ён упёрся: не хацеў пэцкаць аб брудны асфальт нядаўна абноўленую маткаю куртку. Не жадаў, каб дочкі, яго светлыя галоўкі, спалохана запыталі: «Тата, гэта бандыты на цябе напалі?» Як бы ён растлумачыў ім, што ўсё якраз наадварот? Схапілі яго мянты па падказцы бандытаў: не плаціць, маўляў, ясак. Ён бы заплаціў, але дужа хацелася апрануць дзяўчынак. Думаў — абыдзецца.

Не абышлося.

Мянты зламалі яго супраціўленне, павалілі ў гразь. Андрэй выпусціў пакет, з якога выпалі і пакаціліся два вялікія апельсіны. Мент, што выкручваў

Андрэю руку, адфутболіў апельсіны з-пад ног, і разам з напарнікам яны пацягнулі Андрэя да «Уазіка» — той акурат падкаціў.

— Узялі, нарэшце, суку, — пракаментаваў мент у цывільным, выходзячы ім насустрач з машыны. — У-у, халяўшчык! Сёння цябе навучаць разлічвацца. Растлумачаць, хто ў хаце гаспадар.

Андрэя паставілі на ногі. Мент у цывільным зайшоў яму за спіну і нечакана падскочыў. Ад удару нагой у паясніцу Андрэй уваліўся ва «Уазік». Палезлі ў машыну і мянты. Дзверцы зачыніліся, і банда паехала. Ашаломлены, не маючы сіл зварухнуцца, я глядзеў услед шэрай машыне. «Чаму яна не чорная? — знячэўку прыйшла думка. Яна павінна быць чорнай, як тыя “варанкі” з вылюдкамі ў трыццатыя гады».

У школу першага верасня дзяўчынкі не пайшлі. Перад гэтым, у пятніцу, Андрэй зранку папярэдзіў маці і дачок, што, мажліва, з базару дадому заязджаць не будзе — адразу махне ў Варшаву. Аўтобус адыходзіць каля семнаццаці, і няма сэнсу швэндацца туды-сюды. Яшчэ сказаў маці, што бярэ з сабою ўсе сабраныя за лета грошы: яды ў хаце было на тыдзень, так што да яго прыезду яны ім не спатрэбяцца, а там любая лішняя капейка будзе дарэчы. Маці ўпрасіла ўзяць і яе «энзэ»: пяць долараў, якія летась падарыла ў дзень нараджэння сяброўка — суседка-пенсіянерка. Але Андрэй усё ж вырашыў заскочыць на хвілінку дадому: не мог паехаць, не развітаўшыся з дочкамі. Выбраў для іх два вялікія апельсіны — большыя заўсёды саладзейшыя.

І ў суботу, і ў нядзелю да глыбокай ночы блізняткі чакалі тату. Ім не цярпелася ўбачыць новую

школьную форму, і ранцы, і новыя чаравічкі — старыя зусім знасіліся. Татка абяцаў, што купіць сваім выдатніцам самыя лепшыя.

Бабуля ў ноч на нядзелю спаць не клалася. На досвітку дастала выцвілыя ад частага мыцця сукеначкі дзяўчынак. «На ўсялякі выпадак трэба папрасаваць, — падумала. Спахапілася: — На які такі ўсялякі?» Прасуючы, адхіляла ўбок галаву: не хацела, каб на сукенкі капнула сляза. Сэрца неспакойна білася, кружылася галава — пэўна, падняўся ціск: раніца, а сына няма. Не рашалася будзіць унучак: позна заснулі, а сёння ўсяго толькі лінейка, агульнае пастраенне, а бацька прыедзе — і малыя пойдуць у школу ў новенькім. «Усё будзе добра, сынок», — паўтарала адно і тое ж, водзячы прасам.

Развіднела, надышло першае верасня.

У лясным масіве паблізу чыгуначнай станцыі на ўскраіне сталіцы сонны опер апісваў труп, на які раніцай натрапіў мясцовы жыхар, што выгульваў сабаку:

— Мужчына... Узрост трыццаць пяць — сорак... Валасы пышныя, сівыя... Куртка заліта крывёю... Грошай і дакументаў не выяўлена...

«Рабуюць народ, — думаў аператыўнік. — А тых, хто супрацiўляецца, забіваюць». І не здагадваўся, наколькі меў рацыю.

Аднекуль даплыў школьны званок. Опер успомніў, што для ягонага сына гэты званок — першы. «А хлопцы з базару не падвялі, — усміхнуўся задаволена. — Арганізавалі мальцу да школы новы гарнітурчык. Фірменны, не тое што наша барахло...»

# НАСТАЎНІК ФІЗІКІ

Два бамжы счапіліся насмерць, люта мясілі адзін аднаго. Пераможца (ці той, хто застанецца жывы) рабіўся адзінаўладным гаспадаром смеццевага бака на тэрыторыі дарагой аўтастаянкі ў цэнтры горада.

Санька ведаў абодвух.

Высакаваты, у шэрым, досыць паношаным касцюме, у светлай, некалі белай кашулі, пры гальштуку няпэўнага колеру — былы настаўнік фізікі, удавец, пенсіянер. На пенсію яго выпхнулі. Новая дырэктарка, прысланая з гарана для ўмацавання кадраў, вырашыла, што стары занадта мяккацелы для сучаснай школы. За апошнія гады настаўнік, і праўда, не паставіў ніводнай *двойкі*. Лічыў: хто хоча ведаць фізіку, той і пасля *тройкі* задумаецца. Каму ж фізіка да лямпачкі, таго і *адзінкаю* не напалохаеш. Не ўратавала настаўніка нават тое, што для многіх пакаленняў вучняў ён быў прыкладам сумленнасці і прыстойнасці.

Пазбаўлены любімай работы, якой прысвяціў усё жыццё, ён першым часам не выходзіў з дому. «Як глядзець дзецям у вочы? — задаваў сабе адно і тое ж пытанне. — Выхоўваў, казаў: трэба імкнуцца жыць па-ленінску, вучыцца і яшчэ раз вучыцца, думаць пра заўтрашні дзень — і дагаварыўся: выгналі, як сабаку, аднялі гэтае заўтра». Паціху настаўнік прызвычаіўся тапіць тугу і перажыванні ў горкай. Піў спачатку пакрысе, але з кожным днём арганізм патрабаваў спіртнога ўсё болей, што і да-

вяло былога куміра дзяцей да жабрацтва. А пасля ён страціў і дах над галавою: падчарка не захацела жыць з «дармаедам» і літаральна выштурхнула яго за дзверы. Судзіцца? Не ўжо, выбачайце, — пайшоў бамжаваць.

Другі прэтэндэнт на права калупацца ў «прэстыжным» сметніку заявіўся сюды быццам з супрацьлеглага лагера. Усё жыццё (з невялікімі і рэдкімі перапынкамі) ён праседзеў у турмах, «касячы», як сам хваліўся, пад дурня (можа, таму і выжыў). І хоць быў зэкам са стажам (АНР, як ні кажы, — асабліва небяспечны рэцыдывіст) і пакінуў след амаль на ўсіх зонах былога Саюза, на ролю рэкеціра, бандыта, важака злачыннай групоўкі не цягнуў — аслабеў целам і розумам. Не навучаны працаваць, жабраваў.

Цяпер ён біўся за тое, каб не бадзяцца па горадзе ў пошуках ежы, не красці з чужых памыйніц (што заўсёды небяспечна), а мець сваю, да таго ж сытную і недалёка ад падвала, у якім начаваў.

Зэку ўдалося падгрэбці суперніка пад сябе і схапіць за горла. Але забіваць ён не збіраўся: усё ж бамжаваць — не парыцца на зоне. Трушчыў у пальцах кадык настаўніка і хрыпеў: «Сыдзі, падла, гэта маё, сыдзі».

Той маўчаў. Толькі вочы гарэлі, крычалі, як у яго баліць душа.

Санька не вытрымаў, падбег, адпіхнуў крымінальніка:

— Вымятайся, падонак!

Зэк кінуў на яго з-пад ілба злы позірк, але біцца не палез, адступіў, павярнуўся да настаўніка:

— Нічога, інтэлігент, нічога. Не кожны дзень за цябе заступацца будуць. Як-небудзь аднаго падпільную! Гарнітурчык і фейс так адпрасую…

Ён прабубнеў нешта яшчэ і рэціраваўся.

Да болю ў сэрцы Санька шкадаваў настаўніка, але, успомніўшы, як не любіў той спачування, зрабіў выгляд, быццам не пазнаў яго:

— Пацярпіце крыху, збегаю выклічу «хуткую».

— Не варта турбавацца, малады чалавек, усё нармальна, — перапыніў настаўнік, выціраючы насоўкаю кроў з твару. — «Хуткая дапамога», пасля міліцыя… Не хачу звязвацца з гэтай публікай. Ідзіце, прашу вас, калі ласка, а то, чаго добрага, і вас заадно…

Яго «калі ласка» нагадала выпускны экзамен па фізіцы. Тады настаўнік убачыў, што Санька запнуўся, гатовы паплысці, і супакоіў: «Не хвалюйся, збярыся, калі ласка, з думкамі, вазьмі сябе ў рукі. Ты ж ведаеш закон Шарля Кулона, сто разоў выводзіў». І Санька ўспомніў, дакладней, сфармуляваў той закон адразу, у памяці.

Санька не стаў пярэчыць настаўніку, упрошваць прыняць дапамогу. Погляд настаўніка прымусіў яго апусціць вочы. «Мы ва ўсім вінаватыя, мы! — дакараў Санька сябе. — Заслужаны настаўнік — бомж, і ўсе маўчаць! Мая хата з краю. Нешта трэба мяняць, развязваць гэты гордзіеў вузел».

— Ідзіце, ідзіце, не хвалюйцеся, — быццам прачытаўшы Санькавы думкі, падштурхнуў яго настаўнік.

Санька адышоў, але ў машыну сядаць не спяшаўся. Стаяў, чакаў: раптам вернецца зэк. Але той не паявіўся…

Калі позна ўвечары пакідаў машыну на стаянцы, ні настаўніка, ні зэка паблізу не было.

Раніцай патэлефанаваў галоўны рэдактар і нагадаў: «Рукапіс трэба здаць максімум праз два тыдні, інакш — вылеціце з плана».

Выйсця не было, і Санька ўзяў адпачынак: трэба нарэшце дапісаць калісьці пачатую аповесць, што завяршала кнігу.

Праз два тыдні рукапіс быў гатовы. Можна везці. Дый машына зачакалася на стаянцы.

— Нешта даўно вас не было відаць, — сустрэў Саньку вартаўнік. — Усё пішаце, так сказаць, творыце? А ў нас тут іншыя справы творацца. Мянты другі тыдзень шастаюць, спакою не даюць. Бамжа нашага памятаеце? Таго чудзіка, што ў касцюме і пры гальштуку хадзіў, быццам прафесар? Ведалі яго? Дык вось, забілі старога! І ўяўляеце хто? Следчы казаў, што нават ён быў уражаны: праламаў бамжу галаву былы аднакласнік. Не дацягнуўшы да восьмага, ён кінуў вучобу, пасля ўсё жыццё правёў у турмах і лагерах. І вось сустрэча аднакласнікаў праз пяцьдзесят гадоў. Такая вось сустрэча… А што гэта вы так пабялелі? Бамжа ж забілі, не каго-небудзь…

# МАЛЕНЬКАЯ ГІСТОРЫЯ

Машына з чырвонай паласою на баку паўзла паволі, нібыта ўсляпую. Малады чалавек, які сядзеў побач з кіроўцам, нервова круціў галавою, шукаў: «Куды ж яна падзелася, куды?» І собіла яму прызначыць сустрэчу менавіта там, дзе спыняцца забаронена! Дамовіліся: толькі на імгненне прытармозяць, забяруць яе і паедуць далей. Але — спазніліся. Амаль на дваццаць хвілін. Спазніліся не па сваёй віне.

Яна лічыла так: інтэлігентны чалавек, безумоўна, павінен пачакаць, але не болей як чвэрць гадзіны, і пакрыўдзілася: «Не паявіўся! Усё ў яго не як у людзей. І ў такі дзень не змог без сюрпрызаў! Няўдачнік!» Завяла сябе, разнервавалася, падбегла да краю вуліцы, падняла руку.

Прыгожыя жанчыны прываражваюць. Два шыкоўныя джыпы, ледзь не счапіўшыся, нібыта бычкі-трацячкі, рагамі-абярэгамі, рэзка затармазілі. Пашанцавала ўладальніку «Ленд Крузерв» — ён першым адчыніў дзверцы:

— Прашу! — эфектна кінуў замест звычайнага «куды?».

Каця зірнула на ўсмешлівага маладога чалавека, хацела па інерцыі — у ёй яшчэ не астыла злосць — паслаць як мага далей задаволенага жыццём лавеласа, але, успомніўшы, як абышоўся з ёю Сяргей (сёння яны планавалі падаць у ЗАГС заяву), моўчкі села ў машыну.

«Ленд Крузер» амаль імгненна ўліўся ў агульную плынь транспарту.

Маладзён з пахам «Кельвіна Кляйна» не лез з роспытамі. Убачыўшы, што незнаёмка чымсьці ўзрушана, паспрабаваў яе супакоіць:

— Тут паблізу кветкавы магазін. Прапаную зазірнуць. Такая шыкоўная дзяўчына не павінна заставацца без ружаў ні хвіліны! Думаю, акурат чырвоныя дапасуюць да вашай дзівоснай сукенкі.

— Дзякуй вам, канешне, за клопат і ўвагу, але я спяшаюся дадому, — устаяла супраць першых кампліментаў Каця. Аднак у ейным тоне не было катэгарычнасці. Ружы дарылі ёй толькі аднойчы — летась, на выпускным. Сусед па парце адважыўся. Дык то ж — аднакласнік, свой… — Дамовіліся аб сустрэчы, і мяне чакаюць, — спрабавала ўпэўніць яна незнаёмца і самую сябе, — і хацелася б…

— Ага-ага, — мякка спыніў яе красун, бачачы, што дзяўчына кажа неяк няўпэўнена. — І мне хацелася б… зрабіць вам прыемнае!

«Можа, ва ўсім гэтым і няма нічога страшнага ці кепскага, чалавек жа быццам культурны», — здавалася, правільна вырашыла Каця, але ўголас па-ранейшаму адмовілася:

— Я праўда не магу…

— Не дык не, — нязмушана пагадзіўся гаспадар джыпа. — Прынята. Але мы ўжо на месцы. Хвілінку, я мігам.

Толькі цяпер, калі малады чалавек выйшаў і накіраваўся да магазіна, Каця ўбачыла, які ён станісты, падцягнуты, энергічны.

«Нават вельмі энергічны, — без аніякай іроніі падтрымаў унутраны голас, — ве-ельмі». — «Ну і што?» — спрабавала яна запярэчыць. Але голас настойваў: «Забудзься на свайго няўдачніка, што заў-

сёды спазняецца, паглядзі, які прынц вока на цябе паклаў, не пазбаўляй сябе прыемнасці, адзін раз жывём».

З букетам пунсовых ружаў красун выплыў з магазіна. Каця адчула, як бярэ яе ў палон белазубая ўсмешка, як уеліся ў яе светла-шэрыя вочы, як затрапяталася, закалацілася яе сэрцайка.

«Няхай будзе што будзе, — прашаптала, уздыхнуўшы. — І сапраўды, нармальны, здаецца, хлопец».

Ён сапраўды быў нармальным хлопцам, але не проста хлопцам, а сынком «новага рускага» (яна з самага пачатку так падумала — і не памылілася). У свае маладыя гады паспеў не толькі зведаць слодыч усёдазволенага жыцця, але і аб'есціся ім. Надакучылі яму і даўганогія жрыцы кахання. І хвалявалі, вабілі хіба што такія вось «зялёныя» і нявопытныя, даверліва-чыстыя і, вядома ж, прыгожанькія маладыя дурніцы, якім вельмі лёгка закружыць галаву, абязволіць бязмернай галантнасцю і шчодрасцю, а пасля завалодаць і нацешыцца. І не проста нацешыцца, а па-крутому, з жорсткасцю, здзекуючыся з малалеткі, робячы ёй балюча (па-іншаму ён ужо й не ўзбуджаўся). Пры гэтым лічыў, што робіць дзяўчыне ласку, адорвае шчасцем: маўляў, калі б не ён, дурніца ніколі б і не даведалася, што ёсць зусім іншае, чым яе звычайнае і шэрае, — багатае, захапляючае, асаблівае жыццё. Жыццё без мер і межаў...

Вось для такіх малышак ён і ўмеў паказаць сябе нармальным, нават больш чым нармальным хлопцам.

Сеў у машыну і пяшчотна, з прыдыханнем пражурчэў:

— Гэта для самай вабнай і чароўнай, для… Магу я даведацца, як зваць прыгажуню?

— Каця… Кацярына, — спахапілася, асуджаючы сябе: «Хутка ж у мяне да знаёмства дайшло».

— Ал-лік, — шчоўкнуў языком элегантны ўладальнік джыпа. — Для вас Алік, а для ўсіх іншых — Аляксандр, — адчаканіў апошнія тры літары і перайшоў на іншы тон: — Цяпер — расслабляемся, выдаю серыю апошніх анекдотаў…

Серыя аказалася ўдалай, добра падабранай, і гэта Кацю канчаткова супакоіла.

Спыніліся каля новага цаглянага дома з агароджаю, якая ад вуліцы праставала ў лясок і хавалася ў ім. Алік набраў уваходны код. Пачулі: «Open the door»[1] — і рушылі да яйкападобнага, з белага металу ліфта. Той падышоў без выкліку — «атрымаў каманду» ад уваходных дзвярэй. Прамурлыкаў: «Назавіце код, калі ласка». Улавіўшы патрэбны набор лічбаў, рушыў угору. Не паспела Каця агледзець сябе ў люстраных дзвярах, як тыя адчыніліся: прыехалі.

«Дзівосы, — уздыхнула з палёгкай. — Адно слова — фірма».

— Заходзьце, лэдзі, у мой сціплы прытулак, — падаў ёй Алік дыстанцыйны пульт. — Націсніце, калі ласка, на зялёную кнопачку.

«Нішто сабе — сціплы! — заўважыла сама сабе Каця. — Ліфты на дзвюх мовах размаўляюць, дзверы скураю ababітыя і з пульта адчыняюцца, кнопка званка пазалочаная. Наколькі ж шыкоўна такая кватэра павінна быць абстаўлена ўсярэдзіне?»

Усярэдзіне да названых аксесуараў дадаліся цёплая, яўна з падагрэвам падлога, якая да таго яшчэ й свяцілася, фактурныя сцены з тоўстага, колеру

---

[1] Дзверы адчынены.

марской хвалі шкла, стыльная, ажно б'е па вачах, аранжава-лімонная сталовая, змеепадобныя храміраваныя люстры-падсветкі. Такога супердызайну Каця не бачыла і ў галівудскіх кінафільмах.

Алік запрасіў госцю прысесці, але апамятацца не даў:

— Каву, гарбату, джус? Раю орандж — апельсінавы. Гатую сам. Спецыяльнай машынкай выціскаю. А можа, ну іх, гэтыя сокі, асвяжымся халодненькім, з лёду, шампанскім? Ёсць «брут».

«Глядзі ты, усё ў яго ёсць. Шчасліўчык, не тое што некаторыя», — зрабіла Каця выснову. Рашылася, выдала па-англійску:

— Please, orange with ice[1].

Нечаканая паўза Кацю збянтэжыла, і яна перайшла на родную мову:

— Калі можна, канешне...

— Не можна, а трэба, — падтрымаў гаспадар. — І прапанаваў: — Паглядзіце пакуль гэтыя прыгожыя часопісы, я хутка...

Каця не прагартала да канца першы ж «Плэйбой», што трапіўся пад руку, як вярнуўся Алік з падносам. Да джусу ён прынёс танюткія сандвічы з сырам, фаршыраваныя чымсьці чырвоным — пэўна, моркваю — аліўкі і мяккае персікавае марожанае.

Ад такога сервісу насцярожанасць і недавер, якія яшчэ таіліся недзе на дне душы, канчаткова зніклі, настрой узняўся. «Ва ўсім вышэйшы клас!» — з захапленнем падумала Каця.

Алік пазіраў на яе пераможцам, усміхаўся. Першая дзея прайшла — лепей не трэба: дзяўчына завялася і, значыць, усё рухаецца па плану...

Каця ўзяла высокі бакал з утопленай у залатой вадкасці пластыкавай саломінкай, пацягнула-пакаш-

[1] Калі ласка, апельсінавы <сок> з ільдом (*англ.*).

тавала — казка! Захапіўшыся, не заўважыла, як асушыла палову бакала. Па целе пракацілася хваля прыемнай цеплыні. Каці зрабілася хораша і супакойна. Яна засынала...

Праз гадзіну яе разбудзіў пранізлівы холад.

— Ачомалася? — пачула знаёмы голас.

Расплюшчыла вочы.

— Дзе я?

— Можа, у гасцях, а можа, і дома, — у залежнасці ад паводзінаў.

Каця ўбачыла перад сабою вузкія шчыліны светла-шэрых вачэй. Цяпер яны не свяціліся дабрынёю, як раней, а запытальна ўзіраліся. Пераканаўшыся, што Каця апрытомнела, ён не стаў нічога тлумачыць, пайшоў да выхаду. Каля дзвярэй на хвіліну затрымаўся:

— Сама разумееш, даводзіцца перастрахоўвацца. Хоць, магчыма, ты і не брыкалася б, але рызыкаваць — сабе на шкоду.

Калі дзверы зачыніліся, Каця прыпаднялася, агледзелася. Пусты пакой. Яна — на падлозе, у куце, прыкаваная наручнікамі да батарэі. Успомніла і жахнулася: «А мама ж усе вушы пратрубіла: не загаворвай на вуліцы з незнаёмцамі, не загаворвай...»

«Ратавацца! — усё больш уключалася свядомасць. — Пакуль не забілі, не знявечылі. Не спі, вазьмі сябе ў рукі, не надта шмат аранжавай атруты глынула. Зрэшты, у яго, відаць, тут усё на наркотыках настоена. Запаслівы. І глядзі ты, сволач, у якой кватэры жыве! У фільмах маньякі па сутарэннях шастаюць, а гэты... Уліпла, дурніца! Што ж рабіць, як вырвацца? Спакойна, здаецца, ён ідзе...»

— Галубка, што ў нас з настроем? Як будзеш сябе паводзіць: слухацца ці капрызіць, дадатковыя праблемы ствараць?

— Капрызіць не буду, я ж не вораг свайму здароўю, — намагалася Каця быць спакойнай. — Толькі не магу я рабіць гэта без настрою і не прывёўшы сябе ў парадак. Уключы павольную музыку і дазволь прыняць душ.

— Санітарыя і гігіена? Добра, задаволім запаветнае жаданне. У крэдыт, зразумела, — гаспадар расшчапіў кайданкі, дапамог устаць.

Ванны пакой быў пусты — ні паліцаў, ні люстэрка, ні іншых звычных прадметаў: зубных пастаў, шчотак, пральных парашкоў, нажніцаў. «Нажніцы часам спрацоўваюць пры абароне не горш за нож, а парашок — не горш за мянтоўскую “Чаромху”, — успомніла Каця вядомы дэтэктыўны серыял. — Але тут… Ванна, бідэ — і ўсё. Відаць, яшчэ не абставілі як след… Аднак жа павінна быць выйсце, павінна! Можа, узяць і заехаць яму з усяе сілы нагою ў пахвіну, а потым учапіцца ў гада пазногцямі, зубамі, ірваць, крычаць, кусацца? Чытала, для такіх гэта найпершыя лекі… Не, сілаю яго не возьмеш, дубіна пад два метры, адным ударам заб’е. Стоп! Што ж гэта я?! А акно?»

— Можа, выйдзеш? — папрасіла Каця жаласна. — Саромеюся…

— Люблю, калі мяне саромеюцца. І яшчэ больш люблю памагаць распранацца.

— Паможаш, якія пытанні. Толькі цяпер дай мне, калі ласка, пабыць адной, настроіцца. Так будзе лепей.

— Добра, схаджу прынясу ручнік, — адпусціў яе запясце. — Але не ўздумай жартаваць, усякія падкопы строіць, не раю…

«Ды плявала я на твае парады, маньяк чортаў, — асмялела Каця, калі дзверы зачыніліся. Успомніла: — Акно! У ім паратунак».

Паспрабавала адчыніць раму, але з жахам усвядоміла: «Не дам рады! Зняты ручкі. Разбіць? Няма чым. А голымі рукамі такое шкло не возьмеш. Можа, як у дзяцінстве, калі з моста давала нырца ў ваду — рыбкаю? На якім я паверсе? Не павінна быць занадта высока. Падымаліся на ліфце нядоўга, пэўна, не вышэй за трэці. І як на бяду — ніводнага ліхтара на двары: хоць вока выкалі».

Імгненні адляталі, Каця не рашалася скочыць, а ён мог зайсці ў любую хвіліну.

Зноў успомніла маму, яе заўсёднае: «Кацечка, ні з кім і нікуды, ты ж дзяўчынка, пакрыўдзіць могуць».

«Наперад!» — скамандаваў — зноў ажыў! — унутраны голас. Адышоўшыся для разгону да сцяны, яна кінулася ў акно…

Лопнула-стрэліла шкло — ці яе галава? — Каця ўжо зразумець не паспела.

Нягледзячы на аддаленасць ад цэнтра, «хуткая» прыехала да месца трагедыі толькі на некалькі хвілін пазней за міліцыю. З машыны з маркотным тварам-маскаю вылез лекар-практыкант і пацікавіўся ў эксперта з дзяжурнай опергрупы, што здарылася. Той кіўнуў: няўжо не бачыш?

Падышоўшы да распластанага на бетоннай падмостцы цела, лекар нечакана замёр, потым замітусіўся, замахаў, як сляпы, рукамі, залепятаў:

— Божа мой, чаму, за што?!

Калі б Каця была жывая, яна б адказала Сяргею.

## ДАБРАДУШНЫ

Вясна пабудзіла ў пяць. Жарсць разрывала цела, але жонка яшчэ з вечара — як заўсёды, каб не забываў! — папярэдзіла: «Раніцай не грымець! Хадзіць на пальчыках! Не дай Бог прачнуся раней за дванаццаць —мала не падасца».

Як у тым анекдоце:

— Хочаце выпіць?

— А чаму б і не?

— Ну, не дык не!

Апошнюю фразу паўтарыў уголас. Усё ж любімая прымаўка адной крывабокай сцервы, што ледзь не загнала мяне ў магілу — падставіла пад бандыцкія нажы — на заранку юнацтва бесклапотнага.

Снедаў адзін. Нудота. Перакурыў. Жарсць не аціхла, але дзверы ў спальню па-ранейшаму былі замкнёныя.

Што рабіць?

Вызірнуў у акно. Па двары праходжвалася суседка: вывела на прагулку свайго любімца — шэрага, амаль нябачнага на фоне асфальту пудзеля Бубліка, вялікага ахвотніка да мясцовых дам-с. Так, здаецца, невідзімкай да іх і падкрадваўся. Шустры кавалер.

Вырашыў не адставаць. Апрануўся, спусціўся: калі што — а што? — хадзіў па пошту, асвяжаўся-прачынаўся, дыхаў паветрам! Прайшоўся ўздоўж сцяны. Ля апошняга, вуглавога пад’езда стаіўся: чакаў, пакуль суседка зойдзе за дом і яе не будзе відаць з вокнаў маёй кватэры.

Паявілася.

Усміхнуўся, згуляў на апярэджанне, павітаўся першы:

— Добрай раніцы, шаноўненькія! (Не забыўся і на любімца.)

Падумаў: «У яе, напэўна, усё наадварот: муж — сава». Пачуў:

— Ты глядзі, Бублік, не толькі нам у выхадны не спіцца. Цікава…

Пасля «цікава» агульная мова, паразуменне і прыемныя абаім тэмы знайшліся адразу. Дамовіліся: прадоўжым гутарку пазней.

Вярнуўся ў неасцярожна бадзёрым настроі (расслабіўся), чым моцна раззлаваў Яе Вялікасць, якая зрабіла ласку прачнуцца.

— А што гэта ў цябе вочы блішчаць? — замест «Добрага ранку, любы!» падазрона прыжмурылася яна.

— Па табе засумаваў, вось і блішчаць. Прагнуць… — парыраваў як мага дружалюбней, даваў шанец, не чужая ж.

Не скарыстала (усё ж чужая!):

— Глядзі ў мяне! — пагразіла пальцам з пазногцем, большым, чым сам палец, і знікла ў ваннай. Ужо з-за дзвярэй пачуў: — Не ўздумай у цукарніцы чайную лыжку пакінуць. І хлеб не рэж, як інвалід бязрукі. Крошак на ўвесь стол. Ты ведаеш, я нервовая, за сябе не адказваю. (Так-так, пайшла абуджацца-разыходзіцца, лепш бы далей спала-харашэла.) І наогул, браў бы прыклад з майго брата. Чалавек хоць і маладзейшы за цябе на дзесяць гадоў, і інстытутаў не канчаў, а які разумнік, які ў яго парадак у хаце. Схадзіў бы на экскурсію. І працуе не дзе-небудзь, а ў багатай фірме. Грошай — во! — не

раўня табе, галадранцу! А што ты? За бясплатна студэнтам мазгі з ранку да вечара сушыш-палошчаш! («А ты не сушыш, ты на іх капаеш», — падумаў, ды сказаць не рашыўся. Звычка...) І гэта ўсё, на што здатны? — ніяк не магла ўгаманіцца жонка. — Не дарэмна брат не толькі бачыць, але й чуць пра цябе не хоча. Так і не пажадаў знаёміцца-радніцца.

Уключыла ваду. Бубніць працягвала, але зараз яе слухалі толькі краны. Давай, давай, дзяры горла, размінай звязкі.

Тым часам падзеі набіралі абароты. Да прызначанай сустрэчы заставалася менш за гадзіну, а я не толькі пра кветкі не парупіўся, але і прычыны для знікнення не прыдумаў. Выратавала «Вялікасць» — свой чалавек у чужой камандзе.

— З'ездзіў бы на рынак, — паказалася яна з ваннай з белым, як смерць, ад крэму тварам. — У халадзільніку шаром пакаці, няўжо аслеп?

«Ды здаецца не аслеп, — падумаў. Прыгадаў: — Каўбаса двух гатункаў сохне, сыр, масла, малако, яблыкі, рыба, ліманад, піражныя... Што яшчэ? А-а, учора чорная ікра скончылася. Вядома, акрамя гэткага вытанчанага далікатэсу для яе любая іншая ежа — атрута».

Рынак дык рынак. Бачыць Бог, сама напрасілася. Калі б ведзьма ведала, што сёння да рынку прыкладаецца, наўрад ці праявіла б ініцыятыву — раўнівая і хцівая ў дадатак: ні сабе ні людзям.

Многія мужы і жонкі думаюць, што рана ці позна адкрыюць для сябе (абавязкова!) гэтую страшэнную прыхаваную тайну —здраджвала ім другая палавіна хоць раз у жыцці ці не. Але жыццё праходзіць, а яны так і застаюцца ў няведанні, хоць

пра абоіх усё вядома і ягоным сябрам, і ейным сяброўкам.

Зноў адхіляюся ад курсу. Хутка сабрацца і — у дарогу. Адна нага тут, другая — там.

Апрануўся. Цяпер — з не вельмі задаволеным выглядам паведаміць: «Я пайшоў!». Вытрываць ейнае «Ох, і трапіўся ж мне мумуччына!» (але-але, з падвоенымі «му» і «ч») — і ў бой! Для некаторых і гэткі сыдзе.

Суседка чакала, як і дамовіліся, ля ўвахода ў кінатэатр «Мір». На пытанне-ўсмешку наконт планаў запэўніў:

— Планаў няма, але магчымы экспромты. Можа, Раўбічы: кажуць, саўна там прыстойная.

— Сто гадоў не была ў такіх установах, — тут жа згадзілася яна, але слова *саўна* далікатна пазбегла.

«Вось што значыць чалавек, які мысліць, дакладней, усё разумее! — ацаніў суседку па заслугах. — Для яе час — грошы. І слоў падазроных на вецер не кідае. З такой не прападзеш, не ўліпнеш у гісторыю, не загрыміш пад фанфары», — зрабіў выснову на карысць больш блізкага знаёмства з суседкай.

— Тады — у дарогу! — кінуў кліч ёй і сабе, спыняючы таксі, якое нібы на заказ выплыла з-за рога.

Сядаючы, на ўсялякі выпадак азірнуўся: нікога, чыста. Ну й добранька.

— У Раўбічы!

— Усек! — кіўнуў таксіст у люстэрка задняга віду. — За асобную плату магу пасля і пачакаць.

— А чаго нас чакаць? — адрэагаваў, ускідваючы бровы. — Мы ж не на пікнік сабраліся. На работу едзем, познімся ўжо.

— Вядома, — з яхідцай усміхнуўся вадзіцель. — Добрая работа. Свежае паветра і ўсё такое…

Я не стаў высвятляць наконт шматзначнага «і ўсё такое». Сабакі гаўкаюць, а караван ідзе. Гэтак моўчкі і дабраліся.

Ля ўвахода ў ціхі двухпавярховы будынак не было прыпаркавана ніводнай машыны. «Прыехалі, — уздыхнуў, — выхадны». Не разгубіўся (а ёсць іншыя прапановы?), падышоў да дзвярэй, пастукаў.

— Хто галоўны? — спытаў у хлопца ў трыко, які ўзнік на парозе.

— У выхадныя — я за яго. Але сёння саўна не працуе. Не пашанцава-ала вам, — высокім сапрана выдаў нечакана ён. (Блакітны, ці што? І дзе гэта я чуў такі высокачастотны галасок?) — От калі наконт масажу, — заўважыў ён баксікі ў маіх руках (заначку ад Яе Вялікасці), рэзка крутнуў галавой — прачнуўся, — дык гэта мы можам. У мяне вышэйшая катэгорыя. Я не які-небудзь там самавук цёмны.

«Кемлівы хлопчык, — прыкінуў. — Гадоў трыста таму добрым бы халопам быў». І з нядбалай усмешкай багатага бізнесменчыка прамовіў:

— Прагнем усяго і па поўнай праграме, акрамя масажу — тут мы і самі як-небудзь разбяромся. Уключай катлы, не губляй часу. З аплатай вырашым. І не турбуйся, наўрад ці сёння твае босы аб'явяцца. Напярэдзе жаночы дзень. Мяркую, у іх праблем і без цябе хапае.

Хлопец, здаецца, палымяна любіў шамаценне заморскіх купюраў, бо, адчуўшы іх у потнай далоньцы, спрачацца не стаў, а, запрасіўшы прысесці, апавясціў:

— Арганізуем усё ўмомант!

Не марудзячы, выйшаў.

Суседка павяла вачыма сюды-туды:

— Неспакойна тут неяк. Здаецца, у такіх месцах асабліва цікаўныя не палянуюцца тэлекамеры ўманціраваць.

Я паблажліва ўсміхнуўся:

— Гэта ты лішку дала, мы ж не першыя асобы краіны. Не з тандэма «аператар-гэбіст і пракурор-красунчык».

Сам сабе зацеміў: «Малайчына, хвалюецца, кантралюе сітуацыю, не спіць, як мая, дзень і ноч. З такой і праўда не прападзеш. Флірт фліртам, а рэнамэ вышэй за ўсё».

Дзяжурны аказаўся зусім не дурнем, і катлы бурлілі задоўга да нашага прыезду: да прыёму гасцей хлопец быў, як у дзяцінстве вучылі, — заўсёды гатовы.

З разуменнем і ледзь прыкметнай ухмылкай дыпламаваны масажыст правёў нас да запаветных дзвярэй, апынуўшыся за якімі, разумееш, што пакуль ты за імі, ты — у пастцы і, значыць, заўсёды ёсць шанец, што яны могуць зачыніцца (калі вас, вядома, высачылі). Аднак жа не ныем — не каркаем, спадзяёмся на лепшае. У дадатак — акрыяў я духам, гледзячы на фізіяномію масажыста, якая аж свяцілася (думаецца, у прадчуванні лёгкіх грошай), — наўрад ці мікрасхемкі ў камеры або мікрафоны парыльню вытрымаюць, а між тым акурат там многія якраз і любяць косці старыя размяць, адпачыць-пазабаўляцца. А калі і стварылі такі цуд, дык, мяркую, дух-жар не толькі вочы, але і аб'ектывы слязіццапацець вымусіць. Не надта верыцца, каб цікаўныя хлопцы разабраліся ў такім тумане, хто з кім і чым займаецца. А інакш — які сэнс?

Суседка (цяпер ужо і сяброўка) распранулася з ледзяным — дзівосная жанчына! — спакоем. Адно

слова — красуня! Грудзі з другога памеру, як выдавалі пад вопраткай, перакачавалі ў трэці. Смочкі ружовыя, як шчокі немаўляці. Сцёгны — пышныя, крута пераходзяць у шыкоўную попку-мяч. Шанцуе ж некаторым! Штодня з такім мячом гуляюць.

Цела-наркотык прытуманіла свядомасць. Ачуняў, уваходзячы ў салодкае запаветнае месцейка. Яна войкала, абдымала, быццам баялася страціць. І я зноўку адключыўся.

Час ляцеў.

Для кагосьці няўмольна раставалі апошнія ў яго-ным жыцці імгненні.

Не вельмі дурны, папраўдзе — зусім не дурны шантажыст, выбачайце, масажыст, ці, калі ўжо да канца быць дакладным, масавік-забаўнік прыставіў да другога боку сцяны, што падзяляла раздзявалку «люкс-нумара» і склад бялізны ды іншых лазнева-пральных аксесуараў, паўтараметровыя алюмініевыя драбіны. Пахіхікваючы, ён пацёр трэніраванымі пальчыкамі-жыўчыкамі вядомую штуку між ног і паглядзеў, ці загарэўся чырвоны святлодыёд, які сведчыць, што тэлекамера ўключана.

Гарыць! Працуе, родненькі! І яшчэ як! «Вока» аб’ектыва спецсаставам змазаў — цяпер не запацее!

Няспешна (вопытны быў: розныя надараліся выпадкі —раз неяк лішне замітусіўся і загрымеў) самавук-«рэжысёр» злез з прыступак, падхапіў пад паху алюмініевую сяброўку-памочніцу і падаўся ў «студыю» — некалі пакойчык для прыёму гразевітамінных ваннаў.

— Прыз — у студыі! — сказаў, пераймаючы аднаго вусатага тэлехлапчыну і аблізваючыся ў чаканні. — Ці пакажуць госці сёння што-небудзь вар-

тае? — нецярпліва разарваў поліэтыленавую ўпакоўку відэакасеты. Уставіў каробачку ў акенца відэамагнітафона, што стаяў справа ад манітора на насценнай паліцы над ваннай. Націснуў кнопку «запіс», пасля яе — «паўза». Але апошнюю тут жа і адпусціў: — Глядзі, не распрануўшыся пачалі. Як бы раней часу не спякліся. Бос за такое кіно ні капейкі не заплаціць. Але не, мужычок — нішто сабе, сапе, стараецца. І дзе гэта я бачыў яго? Ці — чуў? О, глядзі ты, і ў мяне пайшло ўгору. Давай, давай, падымайся, слухайся татачкі.

Калі двое на маніторы плюхнуліся ў басейн і прадоўжылі свой інтымны занятак там, «рэжысёр» не вытрываў: «Ваду! Трэба наліць ваду, як у іх!»

Уключыў кран. Лёг.

Ванна напаўнялася з хуткасцю святла.

— Ух, — стагнаў «рэжысёр», ператварыўшыся ў акцёра. — А-а-а.

Падаўжальнік сеткавага сілкавання, да якога была падключана апаратура, пагойдваючыся, нібы ванькаўстанька, на краі паліцы, доўга думаў, зваліцца яму ці не зваліцца. Быццам штосьці вырашыўшы за самога Госпада, ён асмеліўся і сюкнуў. Ух ты!

Акцёру-рэжысёру падалося, што *гэтак* ён яшчэ ніколі не канчаў.

— О-о-о-о!!!

Жалезнымі абцугамі хтосьці ўхапіў яго за сэрца і рваў з грудзей: «Р-раз! А ну яшчэ! Р-р-раз! Р-р-р-раз! Табе кажу — ад-да-ай!!!»

«Сцэнна-рый няпр-равільны! — скеміў праз імгненне кінааматар, якога забівала токам. — З вадд-ой — перабор! Прр-агнуў поўнай імітац-цыі».

«І-і-і — бах!!!» — выбухнула свядомасць.

Усё. Фініш. Канец. Смерць.

Ванна, цела, вада, на яе паверхні — згусткі белай непразрыстай субстанцыі, і згаслы манітор.

— Цік-а, цік-а, цік-а,— забіраў насценны гадзіннік час у тых, што парыліся ў саўне.

Прайшла гадзіна.

«Рэжысёр» пруцянеў.

Двое з мокрымі галовамі выйшлі ў фае.

— А дзе ж тут валасы сушаць? — пацікавілася яна, але, убачыўшы патрэбны агрэгат імпартнай вытворчасці, усміхнулася: — Добрая саўна, усё па вышэйшым класе.

— Выдатная! — пагадзіўся ён. — Супер!

Выходзілі задаволеныя і шчаслівыя.

— А масажыст, — павярнулася жанчына да свайго кавалера, — нармальным хлопцам аказаўся, дарэмна ты пра яго нешта бурчэў. Я, дарэчы, яшчэ як заходзілі, падумала: «Сімпатычны малады чалавек, прычасаны, акуратны, такі не падвядзе». Малайчына, га? Дацяміў: у далікатных выпадках лепш не праводзіць, даць гасцям сысці па-англійску, не бянтэжыць іх.

— Але, такіх цяпер рэдка напаткаеш, — пагадзіўся ён. — Дабрадушны хлопец.

Праз дзень я нёс труну з «дабрадушным» — маладзейшым за мяне на дзесяць гадоў жончыным братам.

# ПРА ВЫКРУНТАСЫ ПЕРШАГА КАХАННЯ

У няпоўных пятнаццаць трапіў я на турбазу «Юнацтва», пабудаваную на схіле сталага сацыялізму недалёка ад знакамітай пясчанай касы на возеры Нарач. Там і закахаўся ў самую прыгожую ў лагеры дзяўчынку з дзівосным імем — Наташа. Закахаўся не па-дзіцячаму, а па-сапраўднаму! І самае галоўнае — яна адказала ўзаемнасцю.

Мы былі на сёмым небе ад шчасця, баяліся разлучыцца нават на хвіліну. Варта было апынуцца ўдваіх у зацішку, як гублялі галовы: ліплі адзін да аднаго, абдымаліся, цалаваліся! Бегалі на спатканні ўначы, хоць і ведалі, чым гэта магло скончыцца. Але — дзіва! — мы праяўлялі незвычайныя цвярозасць і асцярожнасць, аберагаючы свае сустрэчы ад пільнага вока дзяжурных выхавацеляў. Нават суседзі па палатах напачатку не ведалі, што апоўначы мы блукаем уздоўж берага, плаваем, пракладваем курс ад каўша Вялікай Мядзведзіцы да Палярнай зоркі і — летуценім, летуценім, летуценім. Божа, пра што мы толькі не марылі! А найперш — каб хутчэй скончыць школу, стаць дарослымі, самастойнымі, згуляць вяселле і нарадзіць шмат-шмат дзяцей! Чым болей — тым лепш! Весялей! Хіба ж няпраўда?

Здаецца, я і сёння памятаю, адчуваю, як штораз нясцерпна было чакаць, пакуль усе ў дамку паснуць. Роўнае ціхае дыханне суседзяў было сігналам да пад’ёму. Наташыны сяброўкі — дзяўчынкі ёсць

дзяўчынкі! — засыналі хутка і дружна, і да намоўленага месца — старога паўразбуранага пірса ля касы — Наташа заўсёды прыходзіла раней за мяне.

Памятаю першую начную сустрэчу там, ля пірса. Наташа нечакана скінула з сябе ўсё, нават купальнік, нейкі час глядзела праз мяне, быццам не заўважаючы маёй прысутнасці, а пасля з разгону кінулася ў ваду! Самы час было аслупянець. Урэшце, наўрад ці разумеючы што-небудзь, я таксама пазбавіўся майкі і плавак і — да яе.

З таго часу мы толькі так і рабілі: скідвалі адзенне і акуналіся ў бяздонную начную прахалоду Нарачы. Якая цудоўная была Наташа ў месяцавым святле! Кроплі зіхацелі срэбрам на яе бронзавай ад загару, невыказна пяшчотнай і цёплай скуры, але скочвацца не спяшаліся…

Мы плавалі, давалі нырца, ганяліся адно за адным, абдымаліся і йшлі на дно, разнімалі абдымкі і ўсплывалі.

Выходзілі з вады таксама паводле нашай, з першага разу, завядзёнкі: Наташа крыху адставала, абхоплівала мяне ззаду за плечы і так, паравозікам, паволі, нага за нагу, мы брылі да берага. Выйшаўшы, валіліся на халодную ад расы траву. Наташа гарнулася да мяне, саграваламі, нібыта дзіця, сваім целам, шаптала: «Мой мілы хлопчык!» Салодка туманілася свядомасць ад гэтых п'янкіх слоў.

Акунаючыся ў адзін з такіх туманоў, мы й адважыліся на самае-самае. Упершыню…

Я і цяпер не надта разумею, як і чаму тое адбылося. Я быццам аддаваўся ў жаданы палон нечае волі. У нашым дзівосным спектаклі рэжысёрам, безумоўна, была Наташа, а я — самаахвярным і палкім акцёрам. Яна падказвала, вучыла і ставіла

перада мною задачы і звышзадачы, а я, скароны ўладай яе чараў, галавакружна, самазабыўна лунаў у невядомых дасюль вышынях, уздымаючыся і падаючы да смяротна-салодкага замірання сэрца.

Але гэта я цяпер так разважаю, а тады…

Мы былі проста шчаслівыя! Нас было ў лагеры толькі двое. Для нас не існавала нікога і нічога. І мы забыліся, ды і наўрад ці ведалі, што там, дзе двое, заўсёды прысутнічае трэці — лёс.

Аднойчы, зайшоўшы далей, чым звычайна, мы выпадкова трапілі ў пастку, якая была расстаўлена зусім не для нас: рыбнагляд з міліцыяй наладзілі аблаву на браканьераў. З імі быў і ўчастковы. Ён праявіў уладу — затрымаў «піянераў»: займаліся, маўляў, не тым, чым дазволена. Мы былі раздушаны яго грубасцю і пошлымі разважаннямі пра раннія палавыя сувязі. Урэшце мы апынуліся ў аддзяленні міліцыі, дзе і павінны былі чакаць раніцы. Але ў Наташы ў бруднай бетоннай камеры з жалезнымі кратамі дзвярэй зрабілася істэрыка, і ад «малалетак» вырашылі пазбавіцца: праз гадзіну нас даставілі да вагончыка начальніка лагера. Той, паміргаўшы соннымі вачыма, адклаў разбор да раніцы і адправіў начных гуляк спаць. Праўда, перастрахаваўся: загадаў выставіць варту з важатых каля нашых дамкоў.

Прысуд прачыталі на ранішняй лінейцы:

— За парушэнне рэжыму — знаходжанне па-за тэрыторыяй у начны час — адлічыць Наталлю К. з лагера і адправіць дадому бліжэйшым аўтобусам.

«Адну?! — здзівіўся я. — А мяне? Мы ж былі разам! Я ж — мужчына! Гэта мяне ў першую чаргу павінны пакараць!»

Ірвануўся са строю:

— Таварыш начальнік лагера! Дазвольце…

— Паслухай, Рамэа, — з нечаканай сілаю тузанула мяне за руку старшая піянерважатая. — У цябе сумленне ёсць? Забыўся, што твая маці прадстаўлена да ордэна? Хочаш зняславіць перадавіка вытворчасці?

Маму я няславіць не хацеў.

— Станавіся ў строй! — загадала злосна. — Пытанне вычарпана. — І дадала з’едліва: — Вось дык герой знайшоўся!

Наташу адправілі ў той самы дзень перад ціхай гадзінай пад пільным наглядам фізрука-культурыста. Яна сядзела ў кабіне старой палутаркі (на гэтай ламбчыне, як называў яе кухар, у лагер прывозілі прадукты) і ціха плакала. Я глядзеў на яе праз мутнае шкло і ледзь стрымліваўся, каб самому не расплакацца. Горкі камяк падкаціў да горла, калі машына кранулася з месца. «Усё — падумаў, глытаючы ўзняты ёю пыл. — Жыццю майму — канец».

Да сканчэння змены заставалася яшчэ амаль два тыдні. Яны мне падаліся годам. У апошнія дні, як абуралася старшая піянерважатая, я зусім адбіўся ад рук: знарочыста хадзіў за тэрыторыю лагера, заплываў за буйкі, не спаў у ціхую гадзіну. Начамі, схаваўшы пад падушку чорна-серабрысты «ВЭФ», слухаў па радыё «Бі-Бі-Сі» Севу Наўгародцава. Карацей, нарываўся на скандал. Але мяне быццам не заўважалі. Відаць, з-за мамы.

У дзень ад’езду я першы ўварваўся ў адзін з аўтобусаў, што прыехалі па нас.

— Ранавата месца браніруеш! — падняў на мяне вочы пажылы вадзіцель. — Выезд пасля абеду. Ваш начальнік абяцаў нас юшкаю накарміць.

«Якая там юшка! — не знаходзіў я месца ад абурэння. — Няўжо не бачыце, што не магу я больш трываць?! Наташа, мілая мая дзяўчынка, як ты там? Я так даўно не бачыў цябе! О, як я хачу цябе абняць!»

Здавалася, прайшла вечнасць, перш чым аўтобусы нарэшце рушылі.

Усе тры гадзіны дарогі я бачыў за акном Наташу: валасы, якія даставалі амаль да таліі, пяшчотныя падушачкі шчок, вялікія, заўсёды здзіўленыя блакітныя вочы, мяккія, падатлівыя вусны.

«Наташа!» — клічу я.

Не чуе! Усміхаецца, бяжыць да вады. Нешта кажа, паказвае, тлумачыць.

Рэхам далятае чыйсьці смех. Чый?

Хлопцы і дзяўчаты раскатурхалі: прачніся, соня, прыехалі!

Высадзілі нас там, адкуль забіралі, — каля заводскага Дома культуры. Хоць прыбылі раней, не па графіку — кіроўцы неяк заўсёды выгадаюць час! — сустракала аўтобусы процьма людзей. Шум, смех, радасная гамана: малайчына, папраравіўся, загарэў, падрос!

Мама не прыйшла. Яна загадзя паведаміла пра тое ў лісце: «У мяне ўвесь тыдзень — другая змена. Сам разумееш: лета, шмат хто ў адпачынку, замяніць няма каму. Кладу ў канверт талончык на транспарт і рубель на вінаград. Ключы — у цёткі Евы». Гаворка ішла пра суседку.

Другім разам адсутнасць мамы засмуціла б мяне: мы жылі душа ў душу, не мелі адно ад аднаго сакрэтаў і амаль не разлучаліся. Але цяпер я быў нават рады, што мамы няма. Гэта мне як раз дарэчы: адразу ж, не марнуючы часу, паеду да Наташы.

Дзякуй Богу, адрас яе раздабыў. Не ведаю чаму, з якіх такіх памкненняў, але старшая піянерважатая злітавалася і перапісала з атраднага журнала Наташыны арыенціры ў нашым і на той час ужо velізарным горадзе: «Вуліца Сонечная, дом 12, кватэра 7».

Зазірнуўшы яшчэ раз у пакамечаны лісток, хоць і ведаў адрас напамяць, я выскачыў з аўтобуса. Важкі чамаданчык (мама, збіраючы мяне ў лагер, уціснула ў яго амаль увесь мой гардэроб) балюча біў па калене, але гэта нават падганяла — наперад, хутчэй!

Вось і Сонечная! Нумар дванаццаты на тым баку! Ёсць! Пад'езд, вядома, першы. Пераскокваў цераз тры прыступкі. Другі паверх. Кватэра сем! Прыехалі.

Светла-карычневая абіўка дзвярэй была падзелена залатымі плешкамі цвічкоў на роўныя ромбы. Прыгожа! Прыгожа і дарага. Гэта крыху астудзіла мяне, прымусіла адвесці руку ад кнопкі званка. У тыя гады мала хто дазваляў сабе такую раскошу — абіваць дзверы. «А Наташка, відаць, з багатай сям'і! Хто бацькі? Не казала чамусьці. Можа, не варта турбаваць? Хто я такі, калі падумаць?»

Сумеўся, падняўся на паўпаверха. Прысеў на батарэю пад лесвічным акном. «Раптам яе мама адчыніць? Спытае, што мне трэба?» Ага, не падумаў пра гэта. А такое ж можа быць, што адчыніць маці. Ці бацька…

Але не сядзелася. «Ну і што, ну і няхай адчыніць мама. Чаго баяцца? Я ж не злодзей. Спытаюць, дык і адкажу: разам з вашай Наташай быў у лагеры, яна забылася хусцінку, а я прывёз, вось, калі ласка… Ды

й не такія ўжо, відаць, яе бацькі вялікія начальнікі, калі дачку з лагера выключылі».

Пераканаў сябе. Спусціўся, пазваніў. За дзвярыма пачуліся крокі. Не вытрываў, крыху адступіў, напяўся…

Пстрыкнуў замок. Дзверы адчыніліся.

Наташа! І яшчэ прыгажэйшая, чым была! У доўгім яркім халаце — проста ўсходняя князёўна!

— Ты? Адкуль? — ступіла да мяне. Пра нешта хацела спытаць яшчэ, але, нібыта апамятаўшыся, паспешліва прычыніла за сабою дзверы. Нарэшце пацікавілася: — Збег з лагера?

Хацелася пахваліцца: так, маўляў, збег, каб цябе хутчэй пабачыць! Але хлусіць не ўмеў. Сказаў як было:

— Збегчы не пасмеў: мог бы нашкодзіць маме. Проста змена скончылася. Я адразу з аўтобуса, во — з чамаданам, нават дадому не заходзіў. Вельмі сумаваў па табе. Думаў, памру, — не стрымаўся, ступіў да яе, замёр, чамусьці не адважваючыся абняць. Засаромеўся нечага?

— Усё з вамі ясненька, — злёгку адхілілася Наташа. — Мама для цябе заўсёды была самая-самая…

Унізе ў пад’езд нехта ўвайшоў. Дыхнула свежым паветрам. Скразняк расхінуў няшчыльна прычыненыя дзверы з выбітай жоўтымі цвічкамі лічбай «7».

— Кроха, што так доўга? Бяжы хутчэй да татачкі! Ён цябе яшчэ чаму-небудзь навучыць… — у праёме паказаўся высокі станісты хлопец у будатрадаўскай форме.

Не адразу дайшло, хто гэта і які-такі татачка. Стаяў, глядзеў і, відаць, па-дурному лыпаў вачыма.

«Не сумавала… — адчуў, як пахаладзела ўсярэдзіне. — Здрадзіла…»

Хлопец убачыў мяне. Хмыкнуў. Перавёў запытальны позірк на Наташу:

— Што гэта за дзіцячы садок?

— Эдзік, — тонкія Наташыны бровы незадаволена ўзляцелі ўгару, — не трэба! Гэта Валік. Мы з ім у адным лагеры адпачывалі…

— Ды ўжо ж бачу, што не ў рэстаране. Напэўна, у нармальныя месцы хлопца яшчэ не пускаюць?

— Эдзік, ну хопіць табе! Валік хоць і невысокага росту, але вельмі добры і сумленны хлопчык.

«Хлопчык! — адбілася рэхам у галаве. — Добры і сумленны хлопчык!»

— А ты — несумленная!

Адразу я кінуў ёй у твар гэтыя словы ці крыху счакаўшы? Не памятаю. Відаць, адразу, з ходу сарваліся. На той момант гэта былі самыя крыўдныя і самыя гнеўныя словы, якія маглі прыйсці мне ў галаву.

Выпаліў я іх, павярнуўся і на злом галавы кінуўся ўніз. Целам расчыніў цяжкія дзверы пад'езда. Выкуліўся з ненавіснага дома нумар 12 па вуліцы Сонечнай. Імчаўся, не азіраючыся, не звяртаючы ўвагі, што чамадан моцна б'е па калене. Нічога не бачыў — бег, бег, бег. Уцякаў ад яе і ад усяго. Ад першага пацалунка, ад першых бяссонных начэй, ад першых пакутаў сэрца.

Тады я не ведаў, што ад першага кахання нікому і ніколі не ўцячы!

# ПАХ «ENVOL»[1]

## I

Для пачатку кастрычніка надвор'е стаяла проста цудоўнае: цёпла — каля дваццаці, сонечна. У вагон ісці не хацелася. Турпаездка выхаднога дня была для супрацоўнікаў інстытута бясплатнай, ды гэта мала турбавала Уладзіміра. Калегі і каляжанкі мо і спакусіліся дармовасцю, а ён? Ліха яго ведае, чаму падахвоціўся праехацца. І цяпер, перад самым ад'ездам, завагаўся, у нейкай няпэўнасці марудзіў на пероне, прыкідваў: а ці ёсць сэнс катацца? Чаго ён не бачыў у той глухмені — Чарнаўцах? Ці будзе там цяплей настолькі, каб, скажам, пакупацца? Мо плюнуць на дурноту, пакуль не позна? У гэтым сваім одуме ўжо быў павярнуўся ісці дадому, як раптам нехта паклаў руку яму на плячо:

— Паехалі, не пашкадуеш! Я — экскурсавод. Зваць Аляксандрам. Для сваіх — Алекс. Кожныя выхадныя важу ў Чарнаўцы вашага брата. Павер, яшчэ ніхто не шкадаваў, што пабываў у тых казачных мясцінах. Будзем жыць у гатэлі ля самага падножжа скалы. А паветра якое ў гарах! Пі — не нап'ешся! Мазгі ў два разы хутчэй круцяцца! Карацей,

[1] «Энволь» (узлёт, лунанне). Вельмі папулярны ў СССР у 1980-я гг. дэзадарант французскай фірмы *Lancфme*. Вырабляўся з 1950-х да другой паловы 1990-х гг. філіялам кампаніі ў Марока.

не хвалюйся, усё будзе па вышэйшым класе, супер, абяцаю.

«Абяцанкі — цацанкі, а дурню радасць», — пасміхнуўся сам сабе Уладзімір, але пытанне, ехаць ці не ехаць, для яго было вырашана. Супраць чыстага горнага паветра ў яго не было аргументаў.

Неўпрыкмет яны падышлі да сярэдзіны састава, падняліся ў вагон. Экскурсавод звыкла, як да сябе ў кватэру, завярнуў у першае ж купэ.

— Ты прысядзь перад дарогай, — паляпаў Уладзіміра па плячы, — а я прайдуся, пагляджу, што за кантынгент сабраўся. Кадры, як казаў суровы дзядзечка Джо, вырашаюць усё.

«Добры экскурсавод — вясёлы, свойскі, — падумаў Уладзімір. — Яшчэ не паехалі, а ўжо, лічы, пашанцавала».

Неўзабаве цягнік крануўся. Аляксандр вяртацца не спяшаўся, і Уладзімір зноў схамянуўся: «Усё-ткі паехаў. І як прабавіць трое сутак у глухмені? Піць днямі й начамі? Не лепшы варыянт. А які лепшы? Усё ж дарэмна паддаўся на ўгаворы. Колькі ўсяго можна было б зрабіць за выхадныя! Сітуацыя ў краіне рэвалюцыйная. Перабудова! Хто крэдыты мільённыя вырывае, хто тонамі цукар з рэгіёна ў рэгіён з вар’яцкай дэльтай пераганяе. Некаторыя, нават з табліцай множання не вельмі знаёмыя, да камп’ютэраў сталі неабыякавыя. А ты? Толькі справы ў дыск-кавярні ўгору пайшлі, толькі яна набыла сякую-такую папулярнасць, і на табе — у глухмень. Малайчына! Нічога лепшага не прыдумаў. Няўжо халяўка спакусіла? Даўнавата за прафсаюзныя грошы не ездзіў? З паршывай авечкі хоць поўсці клок?»

Горка-іранічная ўсмешка скрывіла ягоныя вусны. Так, цяпер ён можа і паздзекавацца з сябе: зрабіўся багаценькім. Значыць, з сябе ранейшага не грэх і пакпіць. А калі сур'ёзна, папраўдзе, дык — што ўсё ж спакусіла? Прадчуванне, што ў гэтай паездцы нешта адбудзецца? Нешта здарыцца такое, што пераверне ўсё ягонае жыццё? Пахітаў скрушна галавою, бы здзіўляючыся з таго, што ён, аказваецца, яшчэ зялёны юнак, калі вось гэтак наіўна верыць, ці, прынамсі, спадзяецца на нейкі цуд.

— Зноў захандрыў? — з'явіўся нарэшце Аляксандр-Алекс. — На хвіліну няможна пакінуць! Годзе строіць з сябе пакутніка! Слухай навіны. Зараз павесялееш. Я абышоў вагон, прыкінуў, што да чаго. Нашага з табой брата — ну, ты мяне разумееш — налічыў акурат дзесятак. Прычым пяць на пяць. Аптымальныя, адзначу, суадносіны. Сабе пару, здаецца, падабраў. Чарга за табой. Параіў бы атакаваць суседку маёй па купэ, але баюся, яна — птушка няўлоўная. Рукі — у золаце, на вушах — брыльянты, апранутая — быццам у Галівуд на ўручэнне Оскараў сабралася. Дый сама — краля атамная. А пах які ў ейным купэ! Нібыта ў парыжскі парфумны магазін трапіў. Галава кругам! Такіх мадам-с у нашых паездках не сустракаў. Яна з іншай оперы. Выпадковая, залётная пташачка. Выдае, што збегла ад мужа-мільянера на пару дзянькоў — развеяцца. У народ акунуцца. Можа, за ёю і пагоня ляціць? Самы што ні ёсць дэтэктыў на тваіх вачах раскручваецца, а ты — сумуеш. Урэшце, глядзі сам. Бачу, таксама не працячок. Джынсы «Levi's» — фірма без пытанняў. Красоўкі з трыма палоскамі, як у зборнай Саюза. Адным словам, думай, а я пайшоў

збіраць статутны капітал. Трэба ж вас неяк аб'яднаць, згуртаваць, стварыць калектыў аднадумцаў па расслабленні і вясёлым ладзе жыцця. Інакш усю паездку праседзіце, зашыўшыся ў нумарах. Вядомая справа, праходзілі. Знаёміцца трэба яшчэ ў цягніку, бо маліну могуць перахапіць мясцовыя джыгіты. Яны — усе пры грашах. А бабкі каму заўгодна галаву ўскружаць. Допінг жа, які спрыяе зблізэнню ў палявых умовах, сам разумееш, адзіны — віно. І чым яго больш, тым хутчэй збліжэнне. Праверана...

Аляксандр, ён жа Алекс, ён жа Сашка, дастаў са свайго дыпламата пацёртую безразмерную палатняную сумку і выйшаў.

«Добры экскурсавод, — зноў пахваліў Уладзімір хлопца, — актыўны. Іншы на ягоным месцы пачаў бы мямліць: сёння адпачываем, усе пытанні па прыездзе. А гэты — з ходу ў бой! Малайчына, не сачкуе. Пашанцавала, што ні кажы».

«Пашанцавала». Слова гэтае чамусьці асела ў галаве і нечым трывожыла. Кажуць, калі пашанцавала спачатку, дык будзе шанцаваць і далей. У чым? У каханні? Як у той славутай песеньцы савецкага баевічка пра белае сонца пустыні? Дык там жа пашанцавала, здаецца, у смерці, а не ў каханні! Ці наадварот?

Добра было б, каб пашанцавала акурат у каханні, бо апошняе чамусьці абмінала яго. Пэўна, сам вінаваты. Занадта высокімі меркамі мераў. Занадта ідэальныя ідэалы вымалёўваў і вышукваў. Каб — як салодкі галавакрут і на ўсё жыццё! Каб — аж займала дых, разрывалася-плавілася сэрца!

І вусны каторы раз зноў перасмыкнуліся — зараз нават з нейкай з'едлівасцю: які ж ён дурань! У трохдзённай пустапарожняй п'янай (вядома ж, не без

гэтага!) прагулянцы марыць спаткаць вялікае і светлае каханне! Ах-ах! Святая прастата! Наіўнасць, кажуць, як і дабрыня, аздабляе і нават ці не ратуе свет, аднак часцей за ўсё падводзіць асобнага чалавека.

Алекс не затрымаўся. За ім у дзвярах паказаліся афіцыянт (выдавала вопратка) і двое кавалераў. Уладзімір здагадаўся: з іхняе, мужчынскае пяцёркі, пра якую казаў яго аднакупэйнік і новаспечаны прыяцель. Пад чулым кіраўніцтвам экскурсавода яны дзесьці ўжо троху «прынялі» і цяпер расслабіліся, усміхаліся. Адзін, жвавейшы, з ходу адрэкамендаваўся: «Віктар!» — і прыстукнуў абцасамі, як унтэр-афіцэр у бальшавіцкіх кінастужках. Сыпаў жартамі, іскрыўся весялосцю. Ужо праз секунду даверліва казаў Уладзіміру:

— Алекс кажа, ты на мільянершу вока паклаў. Што ж, пану, як кажуць, відней. Мы сціплейшыя, на каралеў не заглядаемся.

— Не балбачы, Віцёк, лішняга, — перапыніў жартаўніка Алекс. — Збегай лепш па цыгарэты. Пра курыва зусім забыліся.

— Арганізуем, — памяркоўна адказаў Віцёк і знік.

Алекс пазнаёміў Уладзіміра з другім з іхняе пяцёркі:

— Гэта Сяргей.

— Валодзя, — пацiснуў ён руку высокаму, русяваму, з дабрадушным тварам хлопцу. — Ну вы, чэрці, і набралі! — ацаніў колькасць выкладзеных на лаўку закусі і напояў. — Імяніны ў каго ці дзень настаўніка вырашылі адзначыць?

— У мяне дзень нараджэння, — засаромеўся Сяргей. — І зарплату ўчора атрымаў. Так што… Дарэчы, мая мама й праўда настаўніца.

— Не бянтэжся, Сярожа, тут усе свае, — падбадзёрыў яго Алекс. — А дзе ж наш пяты? — успомніў пра «пяць на пяць». — Голіцца? Бач ты, які ў Віцькі сусед прадбачлівы. Між іншым, твой канкурэнт, Валодзя: у яго таксама разлік на мільянершу.

— Канчайце, без мяне мяне ажанілі, — незласліва абурыўся Уладзімір. — Чым слухаць вашу балбатню, наведаю лепш тамбур, асвяжуся на халадку.

Выйшаў у тамбур і сутыкнуўся са свежанапарфумленым «пятым» — як ён адразу здагадаўся. «Нішто сабе хлопчык, акуратненькі, — прыкінуў. — Бадай, занадта. Сапраўды канкурэнт! І, магчыма, небяспечны. Як у яго адносна шэрага рэчыва, гэта значыць інтэлекту? Трэба паглядзець».

— Добры дзень, — павітаўся Уладзімір. — Мяркую, вы з нашых, чарнавіцкіх?

— Але, ваша праўда. Экскурсавод, Аляксандр, здаецца, гаварыў, што збор у ягоным купэ хвілін праз пятнаццаць. Вас, напэўна, паслалі мяне з курылкі выкурыць? — скаламбурыў «пяты».

«Не хапала, каб мяне нехта й кудысьці пасылаў»,— Уладзімір адчуў ці не падкат злосці і адказаў у такім жа лёгка-іранічным тоне:

— Ды не. Прасілі знайсці каго-небудзь у падмогу дзяўчатам — стол сервіраваць.

— Што ж, можна і памагчы, — «пяты» патушыў цыгарэту і прайшоў у вагон.

«Не такі ўжо і змей, дарэмна злаваў. І ўвогуле, мужчынская палова, здаецца, на вышыні. І ў дадатак — ніводнага знаёмага», — ужо зусім супакоена падумаў Уладзімір, зацягваючыся ментолавым «ВОК».

Цыгарэты напярэдадні па нявопытнасці (курэннем пачаў забаўляцца нядаўна, як грошы завяліся)

купіў самыя дарагія, не ведаючы, што за яны. Лічыў, даражэйшыя — лепшыя. А яны аказаліся жаночымі, амаль безнікацінавымі, накурыцца імі было немагчыма. Патушыўшы трэцюю, кінуў пачак у тамбурную сметніцу. «Трэба пашкадаваць лёгкія, пакуль не прысмактаўся», — вырашыў для сябе і вярнуўся ў вагон.

У іхнім купэ чуўся гучны смех, часам яго перапыняў натрэніраваны барытон гаспадара.

Калі Уладзімір адсунуў дзверы, у формуле «пяць на пяць» заставалася адзіная вакансія.

— Прывітанне!

— Дабрыдзень! — пачуліся галасы.

Адказаў з усмешкай:

— Добры дзень і вам, людзі добрыя! — З паклонам, не надта модна, але элегантна назваў сябе: — Уладзімір.

Акінуў вокам павесялелую ад першай чаркі кампанію. Погляд прыліп да дзяўчыны, якая сядзела ля акна. «Тая самая, недасяжная», — здагадаўся. З ходу адзначыў: «На выгляд — гадоў дваццаць: узрост дзяўчыны-жанчыны. Вочы — вялікія, сінявата-чорныя, валасы — пышныя, кучаравыя, як у мулаткі, скура — белая, чыстая, вусны, шчокі, нос — усё прыгожае, амаль ідэальнае. І — туман ад Францыі. Хмельны туман. Туман, які паглынае, гіпнатызуе, паралізуе. Няйначай хвалёны “Энволь”».

Яна адчула погляд Уладзіміра, успрыняла яго, захапіла, спапяліла, скамечыла, стрэліла сваім, упілася, выціснула, як лімон, адпусціла, усміхнулася. «Та-ак, — пагадзіўся Уладзімір з вопытным Алексам, — няўлоўная і небяспечная. Ведзьма. Гэтакіх спальвалі на плошчах. А я заўсёды шкадаваў спаленых ведзьмаў. Можа, і дарэмна...»

Алекс быў сапраўдным прафесіяналам сваёй справы, і ноч праляцела — як імгненне. Апамяталіся пад раніцу. Прытарможаныя стомай, заціхлі. Пакрысе распаўзаліся па сваіх купэ. Знаёмства адбылося, хоць пакуль што — агульнае. Пары не сфармаваліся, але пэўнае збліжэнне намецілася.

— Для пачатку — няблага, — пазяхаючы, падсумоўваў Алекс, калі яны засталіся ў купэ адны. — Цяпер да вечара — ціхая гадзіна, а там — зноў у бой. Спакой нам толькі сніцца. Сэ ля ві.

Уладзімір рэагаваў на Алексавы высновы і прыкіды даволі абыякава. Нічога новага пад гэтым белым месяцам. Усё — як і трэба было чакаць, як і заведзена ў дарожных, на скорую руку, застоллях. Хіба толькі адно выключэнне — Марына. Божае стварэнне — пекнаты неймавернай! Сапраўды ідэальнай прыгажосці! Прагнуў такую сустрэць, хоць, пэўна, і не спадзяваўся, што яны ёсць, існуюць у рэальнасці. Незямное — нябеснае хараство! І сама ці не лепш за іншых разумее: не проста жанчына — багіня! І ненавязліва, ледзь улоўна, падкрэслівае гэта, падтрымлівае над адмыслова-бездакорнай галавою німб сваёй адметнасці. Нібы кажа: «Глядзіце, любуйцеся, аднак жа… Не спадзявайцеся! Не разлічвайце! Не лезьце з прызнаннямі!» Алексава банальнае «сэ ля ві» тут нічога не вытлумачвае: апроч Марыны, ніякага іншага «ля ві» там не было.

Думка абарвалася нечаканым, нават раптоўным Алексавым пахрапваннем. Уладзімір схамянуўся, пазайздросціў: «Умеюць жа людзі вось так легчы і адразу адключыцца і заснуць. Шчаслівы чалавек. Нервы — жалезныя».

Але неўзабаве здаўся і сам. Нервы нервамі, а арганізм сваё ўзяў.

Разбудзіла іх праваднiца:

— Падымайцеся, хлопцы, а то і памыцца не паспееце. Хутка Чарнаўцы.

— Нішто сабе — прылеглі, — цяжка прачынаўся Алекс. — Далі маху. Ды не бяды, на месцы навярстаем. І ты глядзі, ніхто не разбудзіў. Усё ж ціхая група сабралася, інтэлігентная. Тэрмінова трэба нешта рабіць. Гэтыя сціпленькія ўвесь адпачынак могуць сапсаваць.

На вакзале Алекса сустракаў яго калега і, відаць, даўні прыяцель Малдаван (так Уладзімір ахрысціў яго за чорную чупрыну і вясёлы нораў) з пралетарскім імем Арцём. Ён і запрасіў іх «крышку пракаціцца».

— Сядайце, не бянтэжцеся, — адразу ўзяў кіраўніцтва ў свае рукі. — Сардэчна запрашаю ва ўкраінскую Швейцарыю!

Ехалі нядоўга, але і за гэты час шустры і вясёлы Малдаван паспеў шмат чаго расказаць з гісторыі Чарнаўцоў. Гаварыў і пра славутага свайго земляка, але, загледзеўшыся на хараство тутэйшых мясцін і думаючы пра нешта сваё, Уладзімір не дачуў.

Рассяліў Арцём мінчукоў у двухмесных нумарах. Уладзіміра Алекс, вядома, узяў да сябе. Ён запрыкмеціў яго і пранікся сімпатыяй яшчэ на вакзале ў Мінску, асабліва ж — у цягніку, калі на пытанне, адкуль бяруць грошы на такі, як у яго, прыкід, Уладзімір адказаў, што начамі вядзе эксклюзіўную дыскатэку, на якой асноўным кантынгентам з’яўляюцца прадстаўнікі новага капіталістычнага класа. Тады Алекс рэзюмаваў: «Зразумела, няма пытанняў».

Калі зайшлі ў нумар, камісар Малдаван (спякота, а ён у скуранцы), звяртаючыся да Алекса, сказаў:

— Добра не памятаю, але, здаецца, у гэтым нумары ты яшчэ не жыў?

— Твая праўда. І чаму ты спытаў, здагадваюся. Сёе-тое чуў пра вашага славутага кампазітара.

— Так, Саша. Ён правёў тут апошнія дні. Гуляў безаглядна. Адпаведна свайму таленту. Грошай пакінуў! Столькі, напэўна, не прайшло праз тутэйшую бухгалтэрыю за ўсе гады Савецкай улады.

— Вы гэта пра якога-такога земляка-мільянера ўспомнілі? — пацікавіўся Уладзімір. — Раскажыце недасведчанаму, зрабіце ласку.

— Тут, Валодзя, ніякіх сакрэтаў няма. Гэтага чалавека ты ведаеш, — адказаў за Арцёма Алекс. — Памятаеш, песня калісьці была: «Червону руту не шукай вечорами…»

— Дзіва што! Яе ўвесь Саюз некалькі гадоў запар напяваў.

— Дык гэта ён напісаў. І «Водограй» — ягоная рэч, і іншыя.

— Вось пра каго гаворка! — здзівіўся Уладзімір. — Сумна. Не люблю, калі добрыя людзі раней часу адыходзяць. А што з ім здарылася?

— Загінуў, забілі. У лесе знайшлі. Некалькі дзён праляжаў.

— Акурат такіх і забіваюць! — цяпер ужо гнеўна працягваў Уладзімір. — Шэрасць не зачэпяць. Тыя па сто гадоў няшчасную зямлю топчуць. А як талент, дык — давай, рэж яго, заганяй у магілу!

— Супакойцеся, хлопцы. Не трэба пра благое, — паспрабаваў Арцём змяніць тэму. — Вы ж адпачываць прыехалі. Так што — размяшчайцеся. А я зноў на вакзал. Наплыў гэтай восенню — як ніколі. Саша

ведае, дзе мяне знайсці, калі спатрэблюся. Усё, пабег. Пакуль!

Сабрацца вырашылі ў іхнім нумары — самым вялікім. Сыходзіліся, як даўнія знаёмцы: усмешкі, жарты, узаемныя кампліменты. Напояў набралі розных (хацелася пакаштаваць усяго), і неўзабаве мясцовае, а найперш крымскае віно зрабіла сваю справу. Добрае віно, як і прыгожая жанчына, падымае настрой.

Дзесятка падабралася вясёлая, і рогат-смех стаяў нястрымны. Дзяжурная па паверсе прыбегла была паабурацца, але, выслухаўшы галантныя Алексавы прабачэнні (пры гэтым ёй у рукі нешта ад яго перайшло), велічна адплыла на свой пост.

Вядома, кожны расказаў сваю гісторыю — як ён да гэткага жыцця дакаціўся. Нападпітку з языкоў злятала такое, што ў іншых варунках не сказалася б і пад прымусам, і спакваля гасцінічны нумар рабіўся для ўсіх родным, агульным домам.

Марыніна гісторыя, сцісла, была такая. Працуе ў інстытуце, які год назад і скончыла. Замужам нядаўна, некалькі месяцаў. Жыве на Бранявым («Алеале, у тым самым цэкоўскім доме», — без манернасці адказала на чыёсьці пытанне). Свёкар — міністр, муж — начальнік аднаго з аддзелаў Саўміна. Жывуць з яго бацькамі на адной пляцоўцы. У паездку выбралася, можна сказаць, выпадкова. Мужава аднакласніца Ларыса паклапацілася, угаварыла яго: адпусці жонку праветрыцца. Засумуе — мацней кахаць будзе. Муж адказаў, што жывуць яны не за царом Гарохам і, канешне, хай галубка палятае крыху ў гарах Карпацкіх. Так Марына апынулася ў Чарнаўцах. «І нікольki не шкадую. Прырода тут — чароўная! А дыхаецца! — бліснулі яе вочы. — Быц-

цам нанава нарадзілася. Дзякуй Ларысе. А перад ад'ездам, дурніца, хвалявалася, усю ноч не спала».

— Гэта ты дарэмна, — падняў Алекс чарку: калі ён, як кажуць, быў пры абавязку, для яго не існавала аўтарытэтаў. — Перад такімі паездкамі трэба адпачываць. І не адну ноч, а ўсе тры. Тры сонныя ночы супраць трох бяссонных! Жартую, — удакладніў, злавіўшы запытальны Марынін погляд. — Адным словам, праехалі. Бачу, ува ўсіх наліта. Малайчына, Сяргей, адразу відаць — імяніннік. Так, за Сяргея пілі. Давядзецца свежы тост адкаркаваць. Слухаем-запамінаем. У аднаго няшчаснага жонка была красуня — вачэй не адвесці, але зусім не ўмела гатаваць, і хлапчына пастаянна галадаў. У другога небаракі супруга й нарадзілася цудоўнай кулінаркай-кухаркай, але была настолькі страшненькая, што спаць з ёю вымагала вялікай напругі і высілкаў волі, з-за чаго муж паступова рабіўся абыякавы, прытым не толькі да яе. Дык вып'ем жа за тое, каб кожны з нас быў негалодным і неабыякавым!

— Лепш за цудоўных дам! Дзеля іх можна і пагаладаць! — падняў келіх Уладзімір.

Здавалася, гулянка ў нумары задоўжыцца да ранку і скончыцца бог ведае чым, але культмасавік Алекс спахапіўся своечасова.

— Як мяркуеце, панове, ці не надышоў час далучыцца да тутэйшых рэстаранных актывістаў? На свет паглядзець і сябе паказаць? Я правільна мыслю?

— Правільна! — выдыхнула кампанія хорам.

— Тады — наперад!

У рэстаране ўсё было гатова. Напэўна, парупіўся Арцём: ссунуты тры столікі, застаўлены-засервіраваны адмыслова, нават вазы з кветкамі ўзвышалі-

ся. Дагодлівы метрдатэль з усмешкаю да вушэй сустракаў «амаль землякоў» на парозе:

— Сюды, калі ласка, браткі-беларусы, сюды, калі ласка!

Алекс і тут быў на вышыні. Дзяўчат рассадзіў акурат насупраць вызначаных кавалераў: даў магчымасць перад апошняй танцавальнай прыкідкай сузіраць адно аднаго ледзь не ва ўпор. А галоўнае — гэта была прыкідка перад надыходзячай, як ураган, ноччу.

Уладзімір, само сабою, апынуўся насупраць Марыны. Так і павінна было быць, адносна акурат такога падзелу кансенсус дасягнуты даўно, тым не менш — абрадаваўся. Ведаў дакладна: калі ягонае сэрца збіваецца з рытму і няроўна дыхаюць лёгкія — гэта добры знак.

Разагравала, дадавала імпэту не толькі віно, але й музыка. Аркестр раз-пораз падымаў кампанію з-за сталоў. Выдатнымі танцорамі паказалі сябе ўсе мінчукі.

Уладзімір любіў і ўмеў танцаваць, а таму быў усцешаны спрытам і нястомнасцю землякоў у скоках. «Добрую кампанію згуртаваў Алекс», — зноў, каторы ўжо раз, пахваліў яго.

Мінчукі віхурыліся й кружыліся ў каруселі так, што было і не разабраць, хто ў ёй і з кім танцуе. І Уладзімір вырашыў: час выдаць усё, на што здатны, і тым самым канчаткова сцвердзіць сваё права выбару. Скочыўшы ў цэнтр, ён закружыўся ваўчком па паркеце. Быў такі модны танец: то на спіне круціцца, перакідваючы туды-сюды ногі, то на жываце, — досыць складанае практыкаванне.

Усе абступілі яго, заўзята пляскалі ў ладкі, пры-

танцоўвалі, смяяліся. Усміхнулася і Марына. «Нарэшце! — заўважыў гэта і паддаў сабе пары Уладзімір. — Усяго адна ўсмешка, а пінжака на мне ўжо няма, — прыкінуў. — Як бы капцы не прыйшлі пінжачку французскаму. І хто каго, скажыце, пачаў першым распранаць?»

Падумаў так Уладзімір і — сумеўся. Марына, вядома, паланіла і не адпускала, але ж — і не выказвала згоды. Адзінае, чаго пакуль дамогся, — скупой усмешкі. Тым не менш вяртаўся за стол з надзеяй. Прылізаны «пяты» пасля ягонага «ваўчка» здаўся і пераключыўся на паўнаватую Святлану, выпускніцу наргаса.

Прызначаны Алексам адказным за «налівай» Віктар выконваў свае абавязкі старанна, а піўся натурпрадукт лёгка, як салодкая вадзічка, і неўзабаве ўсе відочна ап'янелі (асабліва сам віначэрп: ён рупліва спрабаваў напаіць сваю суседку — рыжанькую Наташу, а выйшла — наадварот). Цямілі кепска, але танцавалі — шалёна. Уладзіміраў «ваўчок» завёў нават сціплага імянінніка Сяргея, і той урэшце адважыўся абняць даўганогую Тамару, якая, на яго здзіўленне, толькі гэтага і чакала.

Нечакана музыка абарвалася, і занадта шустры на свае гады саксафаніст, просячы цішыні і ўвагі, пастукаў па мікрафоне і аб'явіў:

— Дарагія сябры і госці нашага горада! Канцэртная праграма падышла да свайго фінішу. Мы былі рады іграць для вас, але, самі разумееце, час позні, пара расставацца. Дзякуем вам за ўвагу і…

— Ніякіх «і»! — першы зрэагаваў Уладзімір. — Ад імя гасцей горада, гэта значыць ад нашага імя, выказваю вам удзячнасць за зведаную намі асалоду. Вялікі дзякуй! І калі можна, адно пытанне: ці магу

я пагаварыць з лідэрам групы?

— Чаму не?! — бадзёра адказаў саксафаніст, задаволены тым, што яго назвалі лідэрам групы, а не нейкім там кіраўніком ВІА. Спусціўся, усміхаючыся, са сцэны, падышоў да століка.

— Дружа, — пачаў Уладзімір, — іграем — пакуль сядзім, плацім — з улікам начнога каэфіцыента.

— Сотка! — назваў музыкант максімальную цану і не стрымаўся, дадаў: — Нічога не магу зрабіць: хлопцы стаміліся, на меншае не пагодзяцца.

Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але Уладзімір перапыніў:

— Атрымайце! — запхнуў пяць чацвяртных у верхнюю кішэньку «лідэравага» пінжака. — Для пачатку, здаецца, хопіць. Пачынайце з «Червоной руты». — І, павярнуўшыся да кампаніі, спытаў: — Я тую, што трэба, рэч заказваю?

— Само сабою, — ачуўся Алекс, які на імгненне дазволіў быў сабе асалавець. — Даеш працяг банкету!

— Ага, і адносна банкету, — спахапіўся Уладзімір. — Дзе наш слаўны метрдатэль? А-а, вы тут?! Добра… Тады, калі ласка, — стол! Новы! З нуля! Усё меню! Паехалі?

— Паехалі дык паехалі! — хуценька адрэагаваў вымуштраваны метрдатэль.

Два разы ў Чарнаўцах нікому нічога паўтараць і тлумачыць не трэба, і неўзабаве абрус-самабор ажыў, заварушыўся, задыміў гарачым, запяўх саламі, засвяціўся садавінай, прыгожымі бутэлькамі і шмат чым яшчэ.

Другое дыханне не прымусіла сябе чакаць і дапамагло ўсім разбіцца на пары. Заставаліся толькі двое непрыкаяных: Марына і Уладзімір. Ён разумеў,

што гэта той выпадак, калі ахвяра мацнейшая за ката, і перад апошнім раундам трэба прыдумаць нейкі асабліва эфектны манеўр. Які? Ударыць па банку! Пан або прапаў! Спаліць усе масты да адступлення! Штурхнуўшы Алекса, Уладзімір шапнуў яму некалькі слоў, і той, згодна кіўнуўшы галавой, вышмыгнуў за дзверы. Уладзімір сцяўся ў чаканні.

І вось ён надышоў, задуманы рашучы момант. Да стала манументальна падплыў метрдатэль.

— Нумар «люкс» для вас падрыхтаваны, — праспяваў і на далоні падаў Уладзіміру вялікую бірульку з маленькім, як ад чамадана, ключыкам.

Уладзімір браў ключ, а сам краем вока сачыў за Марынай. «Як яна зрэагуе? Ці не спытае: “Для каго — для вас?” Ці не ўстане, каб з высока ўзнятай галавой пайсці з залы? Узялася за келіх? Не пачула ці робіць выгляд, што яе гэта не датычыць? Маўчыць? — сэрца ягонае ледзь не вырвалася з грудзей. — Перамога!»

— Дзякую, — выдыхнуў Уладзімір, кладучы бірульку з ключом у кішэню. Ціхэй дадаў: — Ваш даўжнік да канца жыцця!

Але апошнія словы пачулі, і гэта чамусьці сталася сігналам для сыходу. Першы знік з Ларысаю Алекс. За імі неўпрыкмет сышлі жартаўнік Віктар з Наташаю. Урэшце падняўся і імяніннік Сяргей — з гонарам, нібыта здзяйсняе подзвіг, павёў з сабою высокую, да пары яму, Тамару. Прылізаны «пяты» паглядзеў на Марыну, уздыхнуў, але знайшоў у сабе сілы ўсміхнуцца, узяць пад ручку пульхненькую рагатушку Свету, кінуць дваім, што не спяшаліся ўставаць: «Удачы!» — і сысці.

Уладзімір і Марына падняліся, толькі калі засталіся адны.

У супернумар ішлі моўчкі і няспешна, нібыта, не

змаўляючыся, зберагалі сілы. От і заказаны «люкс». Зайшлі. Уладзімір замкнуў дзверы і паклаў ключык у сакрэтную кішэньку пацярпелага пінжака — перастрахоўваўся. «Раптам не дагаджу ці яшчэ штонебудзь не спадабаецца».

Марына паводзіла сябе так, быццам была адна. Ні слова не кажучы, падалася ў ванную і бясконца доўга мокла пад душам. Вымучыла Уладзіміра дарэшты. Калі выйшла, ён быў настолькі зараджаны, што не ўсё цяміў. Адважыўся. Абняў яе, падхапіў на рукі, панёс да ложка. Асцярожна паклаў. Лёг побач. Не мог стрымаць дрыжыкаў: вельмі ж прыгожая была Марына, не верылася.

Яна ляжала з заплюшчанымі вачыма, пра штосьці думала. «Напэўна, не пра мяне», — рашыў Уладзімір.

Знячэўку павярнулася на бок, як бы дэманструючы сябе, і спытала:

— Ты з такой, як я, спаў?

— Не, — адказаў Уладзімір шчыра. — Гэткіх вышыняў браць не даводзілася. — А ўнутраны голас прамовіў: «Можа, таму й жывы?»

Зноў — цішыня. Ён успомніў амаль дзіцячае: маўчанне — знак згоды. Асмялеў, перасіліў сябе, спытаў:

— А ты?

— Я, акрамя мужа, ні з кім не была, — Марына паглядзела яму ў вочы. — Кажуць, што ён прыгажун, якіх мала. Не ведаю. Ведаю галоўнае: не любіць ён мяне. Часам здаецца, што прычына — у арыентацыі…

«Неяк надта ж цвяроза разважае, — захваляваўся Уладзімір. — Так можна і перагарэць. Пара атакаваць».

Атакаваць не давялося. Павярнуўшыся да Мары-

ны, убачыў: яна — палала. Ярчэй за яго. Шмат ярчэй!

І тады ён узарваўся. Доўгія хвіліны чакання, пакуль Марына была ў ваннай, боязь, што ўсе намаганні застануцца марнымі, плюс аграмадны «завод» ад яе непраўдападобнай прыгажосці зліліся ў адно, увайшлі ў рэзананс, і… Уладзімір панёсся, паімчаў, паляцеў — забыўся на ўсё на свеце.

Гэта было нешта на мяжы чалавечых сіл. Здавалася, ажылі два вулканы, і лава аднаго намагалася паглынуць лаву другога.

Зацішак, што надышоў разам са світанкам, здзівіў. «І як выжыў, вытрываў, змог?! — не верыў Уладзімір. — Сёмае неба! Цяпер я ведаю, што такое ўзысці на сёмае неба! Гэта калі бярэш планку, у жыцці для цябе немагчымую, недасяжную...»

Разбудзіў стук у дзверы. Уладзімір расплюшчыў вочы. Агледзеўся. Марыны побач не было. Дзе яна? Пайшла?! Не! У ваннай — святло.

Ахінуўшыся прасціною, падышоў да дзвярэй:

— Алекс, гэта ты спаць не даеш? Мы ж не ў цягніку, свой прыпынак не праедзем, — абурыўся, адчыняючы дзверы.

—Салют, салют!

—Добрага ранку!

—Затаіліся, субчыкі?! — уварвалася ўслед за Алексам уся вясёлая кампанія.

— Сюрпрыз маладажонам! — выступіў наперад Віктар. — Савет брыгады пастанавіў: сёння ж гуляем вяселле!

— Ды вы што, хлопцы? Цішэй! Марына пачуе, дык дасць вам вяселле, а заадно і на арэхі.

— Ты што ж гэта? — выйшла з ваннага пакоя

Марына. — Пазабаўляўся з дзяўчынай, а цяпер адмаўляешся ад яе?!

— Не адмаўляюся! — з радасцю, зусім па-хлапечаму адгукнуўся Уладзімір. — Хіба ад Багінь адмаўляюцца? І марыць пра такое не мог.

— А я марыла, — цалкам сур'ёзна перабіла яго Марына. — Пра такога, як ты! Прыгожага, дужага, добрага!

— Вось так, Валодзька, трапіў ты ў нерат, — абрадаваўся чамусьці Віктар. — Здавайся, калі прайграў, будзь рыцарам.

Пра рыцараў была першая прачытаная Уладзімірам гадоў у шэсць кніга. Ён заўсёды быў за рыцараў. Гуляць дык гуляць! Тым больш на ўласным вяселлі!

—Здаюся, што з вамі зробіш! — усміхнуўся Уладзімір.

—Тады за мной! — імгненна зрэагаваў вопытны Алекс.

Больш не марудзячы, кампанія выправілася ў рэстаран. Уладзіміру зноў давялося раскашэльвацца. Другая гульба ў рэстаране нагадвала першую, за выключэннем таго, што танцы былі не калектыўныя, а парныя. Да ўсіх прыйшла нязвычная, проста безаглядная раскаванасць — ніхто нікога не саромеўся. Праўда, чамусьці цалаваліся і абдымаліся ўсе, акрамя маладажонаў. Новым сябрам удалося падняць іх на горка толькі аднойчы. Пацалунак атрымаўся такі задоўжаны, што паўтарыць яго маладая не адважылася.

Разбегліся недзе апоўначы. Гуляць пазней сіл не было. Што ні кажы, а надыходзілі трэція бяссонныя суткі.

Рэшту тае начы Уладзімір правёў... у раі. Так-так!

У раі яе цела — пяшчотна-цнатлівага, даверліва-смелага, полымна-спапяляльнага. Яно атуманьвала «Энволем», адбірала розум.

Ранак выдаўся пахмурны і тужлівы. Напэўна, з салідарнасці з засмучанымі блізкім расстаннем сябрамі.

Гаворкі ў аўтобусе паступова перайшлі ў шэпты, а да моманту пасадкі ў цягнік скончыліся і яны. Нават няўрымслівы Алекс прыціх.

Уладзімір сядзеў насупраць Марыны і не зводзіў з яе вачэй. Ён задыхаўся ад кахання, жадання, шчасця, і не зусім разумеў, дзе знаходзіцца, што вакол адбываецца. Адчуваў толькі ейны погляд. Быў яго рабом. Належаў яму. Ён пакахаў Марыну, пакахаў больш за жыццё...

Мінск сустрэў іх страшэнным ліўнем. Уладзімір не заўважаў яго. Глядзеў, як аддаляецца таксі, у якое села Марына.

«Усё, — уздыхнуў, — казка скончылася. Яна нават не азірнулася».

## II

Першыя дні ён чакаў званка, але потым успомніў, што ў спешцы забыўся даць Марыне нумар тэлефона. Зрэшты, не забыўся. Ён проста разгубіўся пры развітанні. А цяпер кусаў сябе за локці. Штоночы Марына снілася, стаяла перад вачыма, але… Надыходзіла раніца, пачынаўся новы дзень, неадкладная работа — і ў інстытуце, і ў дыскатэцы — адсоўвала начныя мроі на другі план, засланяла іх, прытупляла. Паступова жыццё ўвайшло ў сваю звычную каляіну, стала, як і раней, ціхім і аднастайным. Ды штосьці ў душы не давала спакою. Яна нібыта супраціўлялася шэрай будзённасці. Жыло

ў ёй нейкае прадчуванне ці што?

Казка, перажытая ім у Чарнаўцах, не забывалася. Аднак жа ўсё часцей з нейкай тужлівай асуджанасцю думаў пра тое, што гэта была сапраўды ўсяго толькі казка, якая наўрад ці паўторыцца. Нікому, нават самаму вялікаму шанцуну не суджана такое шчасце. Адсюль і прысуд: не спадзявайся і не чакай! Скажы дзякуй і за тое, што было, — не кожнаму і яно выпадае. Усе мы занадта грэшныя, каб назаўсёды трапіць у рай. Суцешся тым, што зведаў яго.

Прыходзілі і думкі іншага складу-ладу. Маўляў, чаго ты нудзішся, быццам страціў ні больш ні менш як самога сябе? А чаму не дапусціць, што гэта была прыемная, памятная, нават незабыўная, але ўсяго толькі дарожная прыгода? У дарозе чалавек разнявольваецца, вызваляецца ад усялякіх путаў збрыдзелага жыцця і лёгка спакушаецца любой магчымасцю адхлання ад яго, стрымгалоў кідаецца ў прымроены вір пачуццяў і ўчынкаў, цалкам недапушчальных, неверагодных у жыцці, што засталося недзе там, ззаду, за плячыма, на другім канцы чыгуначнай калейкі ці шашэйнай стужкі. Вось гэтак і ты: выпадкова, знячэўку трапіў у прыгожую дарожную казку. Але ж — дарога скончылася, а больш правільна — вярнулася да свайго пачатку. І ўсе, хто быў у дарозе, таксама вярнуліся да саміх сябе. І яна вярнулася да таго, ад чаго збегла на некалькі дзён развеяцца. Урэшце, вярнулася да мужа, якога, магло здарыцца і такое, пачала кахаць па-сапраўднаму — моцна і верна. А на цябе, выпадковага ўдзельніка іскрыста-вясёлай, бесшабашнай дарожнай інтэрмедыі, даўно забылася.

Уладзімір гнаў прэч такія думкі. Не пагаджаўся.

Бо інакш — чаму неспакойна ў яго на душы, чаму жыве ў ёй быццам прадчуванне чагосьці? Як і тады, перад ад’ездам з Мінска, калі вагаўся, ехаць ці не ехаць у тыя загадкавыя хіба сваёй назвай Чарнаўцы.

І аднойчы званок празвінеў. У кожнага ў жыцці калі-небудзь звініць такі званок.

— Зусім забыўся на Алекса! А ён усё памятае. І чыйсьці дзень нараджэння памятае. І абяцанне запрасіць на яго ў госці! Алекс усё памятае, не ў прыклад некаторым. І калі гара не ідзе да Магамета…

— Што за наезды? — уключыўся ў гульню Уладзімір. — Кінуў мяне на волю лёсу — і бочкі коціш?! Якім, дарэчы, ветрам у сталіцы? Праездам з Парыжа, у сэнсе — з Чарнаўцоў?

— Давай, жартуй, небарака, — працягваў атаку Алекс. — Спі, спі! Так усё жыццё і праспіш! А між тым, некаторыя патрабуюць працягу банкету. І сёння гэтыя некаторыя вырашылі яго наладзіць! Карацей, чакаем а сёмай у «Камянях». Чысці пёркі! Не надта шмат часу засталося. І ні пра што не пытайся. Усё роўна нічога не скажу. Салют! Канец сувязі!

— От змей! — абурыўся Уладзімір. — Разбудзіў, заінтрыгаваў, завёў і павесіў трубку. Малайчына! У сваёй ролі.

У рэстаран Уладзімір меркаваў зайсці неўпрыкмет: цікава ўсё ж было даведацца, хто гэтыя «некаторыя». Але хітрун Алекс пераняў яго пры ўваходзе. З падазронай ветлівасцю дапамог здаць у гардэроб куртку, узяў за руку, папрасіў перад уваходам у залу заплюшчыць вочы.

— Ну вы й даяце! — не стрымаўся Уладзімір, калі ўбачыў за сталом усю цёплую кампанію. — От сюрпрызёры! Так і разрыў сэрца можна атрымаць! —

пачаў і анямеў: за сталом сядзела Марына.

«Божа! Гэта й праўда яна! Душа — не памылялася. Не было гэтых тыдняў і месяцаў ростані. Я толькі ўчора сказаў ёй: да сустрэчы, любая! У Чарнаўцах была не казка. У Чарнаўцах я пакахаў! Упершыню! Моцна! Назаўсёды! Марына — мой лёс, мая радасць, маё шчасце!»

Яна была фантастычна прыгожая! Яўна вырашыла перасягнуць сябе тую, чарнавіцкую. Багіня! Уладзімір зразумеў, што не можа жыць без яе. Ды ён без яе і не жыў. Чакаў. Увесь гэты час чакаў! І дачакаўся! Ён — кахае! Свет перавярнуўся, перакуліўся, пакаціўся. Уладзімір адчуваў, што лунае над бezданню разам з ёй, баючыся яе і згараючы ад кахання. Што ж, няхай згарыць, няхай зваліцца ў бездань — ён усё роўна будзе ўдзячны лёсу.

І каханне іх павяло.

Яны пайшлі з рэстарана раней за ўсіх. Не вытрывалі, збеглі!

Таксіст ленавата патлумачыў, што пасля адзінаццаці менш чым за два лічыльнікі з месца не скранецца.

— Тры! — засмяяўся Уладзімір. — І кацім за горад. Будзем шукаць гасцініцу, дзе прымаюць мінчукоў.

— Завязу хоць на край свету, — выскачыў таксіст з машыны, каб адчыніць Марыне дзверцы.

І Уладзімір заплаціў тры лічыльнікі. Заплаціў дзяжурнай у міжнародным цэнтры адпачынку «Юнацтва», заплаціў раніцай у рэстаране за «вячэрні» стол.

Пасля сняданка Марына дадому не паехала, засталася з ім. І Уладзімір не задаваў пытанняў — прыняў яе рашэнне як належнае. Іншага — не ўяўляў. Не прыходзіла іншае ў галаву.

Ён вярнуўся ў казку. Ужо амаль не спадзеючыся

на тое. Ды падкочваў пад сэрца ледзь улоўны трывожны халадок. Ад усведамлення, што кожная казка мае не толькі пачатак, але і канец, няхай сабе, часцей за ўсё, і шчаслівы. А ён не хоча, каб казка канчалася. Ён зробіць усё, каб іхняя з Марынай казка доўжылася бясконца. Толькі наўрад ці ўсведамляў, што абраны ім шлях — не самы надзейны. Хутчэй наадварот — самы ненадзейны, нават трагічны.

Уладзімір па інерцыі — шчасце сляпое! — вырашыў доўжыць тую ж, чарнавіцкую, ва ўсіх яе адметнасцях і нюансах, казку. Скласці, прыдумаць новую — паленаваўся, а хутчэй за ўсё — не задумаўся пра яе неабходнасць. І каханне іх, на жаль, не павяло — панесла.

Рэстараны змяняліся рэстаранамі, сталы прагіналіся ад заказанага «Усё меню!», ансамблі мяняліся, як пальчаткі, таксісты распавядалі легенды.

Ён плаціў, плаціў і плаціў. Плаціў швейцарам і афіцыянтам, фарцоўшчыкам і метрдатэлям. Спускаў усё заробленае ў кавярні, хоць і зарабляў нямала. Установа была найвышэйшага класа. З дапамогаю найлепшай у горадзе спадарожнікавай сістэмы Уладзімір «даставаў» амаль недасягальны амерыканскі сатэліт, з якога скачваў апошнія музычныя і кінанавінкі. Кухара адшукалі сярод старых, саўмінаўскіх, ці не сярод першай саюзнай дзесяткі. Дызайн залы і бездакорнае абслугоўванне маладых афіцыянтак, надзейная ахова — усё вышэйшага рангу. Адным словам, ад кліентаў адбою не было. Грошы плылі, можа, і не ракою, але ручаінай досыць бойкай. Плылі — і сплывалі.

Карацей, жыццё не цацілася, а імчала. Усё было

прыгожа, весела, шыкоўна. Шчаслівы, Уладзімір лунаў на сёмым небе і не думаў прызямляцца. Настрой — цудоўны, дух — баявы, сіл — процьма. Ён — у раі. Ёсць Марына — яго мара, яго самы цудоўны сон, яго фантазія, каханне, надзея.

Так прамінуў год. Год любові і палёту. Год, які зблытаў у адно дні і ночы. Год — імгненне.

Уладзімір збольшага памятаў, як пачынаўся іх апошні дзень. Так, так! Пасля таго дня жыццё скончылася, зноў вярнулася існаванне. Шэрае, ціхае, абрыдлае.

Дзень той быў асаблівы — 8 сакавіка.

Як заўсёды, ён патэлефанаваў у рэстаран, даў знаць, што прыедзе. Заказваць штосьці патрэбы не было: там усё ведалі і памяталі. Сустрэцца дамовіліся ў дзевяць. У жаночы дзень у зале пераважалі жанчыны, і гэта дадавала мужчынскай палове ўпэўненасці ў сваіх сілах. Няспешная хада. Усмешлівыя твары. Бадзёрыя галасы.

Найбольш вылучаўся малады лупавокі азербайджанец у чорным скураным пінжаку і аранжавай байцы. На яго азіраліся амаль усе віноўніцы свята, а ён не зводзіў вачэй з адной — Марыны. Ён таксама хацеў узяць сваю планку.

Марына не магла не заўважыць гэтага.

Не заўважаў нічога толькі Уладзімір. Каханне, якое завалодала ім яшчэ з апошняга прыстанку аўтара «Червоной руты», кружыла галаву, рабіла жыццё сапраўды казкай.

Уладзімір не разумеў, што з ім. Недзе пад дванаццаць гадзін адчуў неймаверную стому — быццам усе ранейшыя бяссонныя ночы акурат сёння каме-

нем наваліліся на яго. Гэтак, напэўна, і было.

— Марына, можа, паедзем дадому? Штосьці я не ў форме. Вочы зліпаюцца.

— Валодзечка, вазьмі машыну і едзь. Не паспееш сагрэць пасцель, як і я прылячу. Зараз пачнецца апошні танец — «З адным крылом». Я вельмі люблю гэтую рэч!

— Добра.

Адказаў няйначай машынальна, не ўсведамляючы, чаму так зрабіў. Толькі пасля, праз некалькі гадзін, зразумеў: ягоная ўступка была не што іншае, як насланнё, замарачэнне. Ён жа цудоўна ведаў: такой дзяўчыне, як Марына, наўрад ці дадуць проста паслухаць музыку.

А Марына? Яна, вядома ж, заўважыла прыгажуна-азербайджанца. Ну й што? Ёй было смешна: нуну, паглядзі, паторгайся. Спакуслівая Маша, ды не ваша!

Але здарылася інакш. Вірлавокі красунчык гіпнатычным поглядам дамогся ейнай згоды на танец, закружыў і…

«Без меня тебе, любимый мой, лететь с одним крылом…»

Чым больш Марына кружылася ў танцы, тым больш у яе кружылася галава і туманілася свядомасць. Віно, потым каньяк шматкроць узмацнілі гэтае галавакружэнне, і Марына паступова і непазбежна адыходзіла ў свет казачных ілюзій і чароўнага падману. Яна кружылася, кружылася-п’янела яе свядомасць і, ап’янелая, яна ўсё больш штурхала яе ў вір танца. Вось ужо сціхла мелодыя, пайшлі адпачываць музыкі, а Марына ўсё ляцела і ляцела, ахутваючы ўсіх і ўсё чароўным водарам «Энволя».

Яе вялізныя вочы гарэлі шчасцем, вусны штосьці бязгучна і нястрымна шапталі. Зала, нібы зачараваная, глядзела на адзінокую пару, якая танчыла ў цішы.

Уладзімір спаў як забіты і званка ў дзверы не пачуў. Разбудзіў тэлефон, што ляжаў побач.

— Алё, — адказаў спрасонку. Пачуў кароткія гудкі і кінуў трубку. — Каб на вас трасца, жартаўнікі пустагаловыя!

Але гэта былі не жартаўнікі. Гэта быў не жарт. Побач не было Марыны! Штосьці здарылася? Што?

Зноў — званок. Гэтым разам званілі ў дзверы. Уладзімір зірнуў у вочка: Марына. Усміхаецца. Адчыніў. Марына кінулася да яго, абняла, пацалавала. Доўга не давала ўздыхнуць. Нечакана заплакала.

— Я так знудзілася за гэтую ноч! Думала, да раніцы не дажыву.

— А што здарылася? — пачаў прачынацца Уладзімір. — Чаму пасля рэстарана не прыехала?

— Рашыла пераначаваць у мамы — яна ж за два крокі ад «Камянёў» жыве. Не хацела цябе непакоіць. Ты быў такі стомлены, і я падумала: не паеду, хай адаспіцца.

— Непакоіць? Мяне? Але ж ты ведаеш, што я заўсёды рады цябе бачыць! Я кахаю цябе! Не магу без цябе! Люблю, калі мяне непакоіш! З табою я заўсёды…

— Валодзечка, не будзем пра гэта. Пойдзем у ванну. Зараз жа! Я хачу ў ванну. Я хачу цябе!

Уладзімір не пазнаваў Марыны. Заўсёды стрыманая напачатку, яна кінулася да яго, як сабачанё:

— Мой! Нікому не аддам! Кахаю, кахаю, кахаю!

Толькі цябе!

Уладзіміру гэта падалося дзіўным. «Чаму “толькі цябе”? А што, ёсць яшчэ хтосьці?» — мільганула трывожная думка.

У амаль беспрытомным стане яны вылезлі з ванны, дапаўзлі да пасцелі і адразу забыліся.

«Зноў гэты пракляты званок? — адкрыў вочы Уладзімір. — Нехта нахабна выпрабоўвае маё цярпенне».

— Алё! — закрычаў у трубку. — Калі ты, дурань, не перастанеш…

Голас з трубкі перабіў:

— Валодзя, супакойся, гэта я, Лёва, сусед. Чаго разышоўся? У тваіх жа інтарэсах званю, а ты крычыш. Спусціся, гаворка ёсць. Сур’ёзная!

Уладзіміру не хацелася ўставаць, але ён перасіліў сябе і падняўся. «І што яму трэба?» — гадаў, ідучы да дзвярэй суседа.

Дзверы расчыніліся, як толькі ён да іх падышоў:

— Заходзь, дружа, заходзь. Зараз пабачыш, што сапраўдныя сябры і ў бядзе застаюцца сябрамі.

— Гэта ў якой яшчэ бядзе? — здзівіўся Уладзімір. — Ты пра што?

— Гора ў цябе, Валодзя, вялікае гора! Марына, любоў твая ненаглядная, здрадзіла табе.

— Ты разумееш, што вярзеш?! — ускіпеў Уладзімір.

— Паслухай спачатку, пасля будзеш шумець, — Лёва міжвольна адступіў назад. — Ты ж ведаеш, я сава і кладуся не раней як у тры ночы. Дык вось, столькі і было, калі пачуўся званок. Гляджу ў вочка — Марына. Думаю, можа, яе хто пакрыўдзіў ці з табою што-небудзь здарылася, можа, дапамога патрэбна... Адчыніў. Гляджу, а яна не адна. З цыга-

ном ці з грузінам — я ў іх не разбіраюся. Усміхаецца. От табе, думаю, і сюрпрыз. А яна ўзяла таго грузіна за руку, упілася ў мяне вачышчамі і кажа: «Лёва, як бы табе растлумачыць? Карацей, ёсць прапанова. Мы ў цябе пабудзем гадзінку-другую, а ты атрымаеш за гэта сто — сто, Лёва! — рублёў. Ты не хвалюйся, гэта Валодзеў кампаньён». Як я мог не пагадзіцца? Я за месяц атрымліваю дзевяноста, а тут за пару гадзін — сто! Ты павінен мяне зразумець! Ты не можаш крыўдаваць. Яна ж сказала, што грузін — твой добры знаёмец і яны толькі пачакаюць цябе. Я ж не ведаў, што будзе далей... Не глядзі на мяне так. Што цяпер зробіш? Гэта ўсё Марына твая! Ты даруй мне, Валодзя, даруй! Купілі яны мяне з вантробамі. Сто рублёў...

Сэнс суседавых слоў Уладзімір спачатку не зразумеў, падумаў, што ўсё тое розыгрыш. Але, убачыўшы вырачаныя вочы, плямы поту на лысым чэрапе, зразумеў: яго знайшла, падпільнавала, напаткала бяда. Абрынулася, задушыла, загубіла. Марына — больш не ягоная. Марына — здрадзіла. Марына — прадала. Але ж Марына кахала?! Таму і наладзіла ў ваннай сеанс на мяжы выжывання. Толькі цяпер да яго дайшло.

Уладзімір не падзякаваў суседу за інфармацыю. Чорную паслугу той зрабіў. Здаў Марыну, іхняе каханне, жыццё, усё. Не было слоў. Анямелы, вярнуўся да сябе.

Марына сядзела на ложку. Убачыла і адразу скеміла: ён ведае. Значыць, усё гіне, усё ляціць у апраметную. Прачытала гэта ў ягоных вачах. Але не кінулася ў роспач. Вырашыла змагацца, утрымаць Уладзіміра. Зараз ці ніколі. Упала на калені.

— Валодзя, што мне рабіць? Што мне зрабіць,

каб ты дараваў? Валодзечка, ён мне нечага падсыпаў! Я нічога не разумела. Усё было як у сне. Ачулася, толькі калі… Я адразу яго адштурхнула. Спытай у гэтай свалаты, суседа свайго. Навошта ён нас пусціў? Ён жа твой сябра! Валодзечка, я нічога не разумела! Валодзечка!

— Марына, не трэба! Гэта — канец! Я не ўяўляю, як буду жыць далей, я ж кахаю цябе. Але адно ведаю дакладна: дараваць — не змагу! Я хацеў бы, вельмі хацеў, але... Гледзячы на цябе, я заўсёды буду думаць і ўяўляць, як ён, чужы, абдымае цябе, цалуе, спаталяе з табою сваю жарсць. А ты — гэта я. Значыць, ён трахнуў мяне? Ён адтрахаў мяне, Марына! А ты… Ты разбіла нашы жыцці. Ты разбіла нашы лёсы! Ты разбіла наша каханне! Усё, хопіць! Дай мне пабыць аднаму, дай мне спакойна…

— Валодзечка, — рыдала Марына. — Што мне зрабіць, каб ты дараваў? Хочаш, я…

— Калі ласка, напрамілы Бог, не прыніжайся.

— Валодзечка, ты не хвалюйся, ты толькі не хвалюйся. Я пайду, я зраблю ўсё, што ты захочаш. Я буду чакаць цябе ў... пад'ездзе. Колькі трэба, столькі і буду чакаць. Але я не магу сысці назаўсёды! Я не магу.

Мінулі два дні. Уладзімір не выходзіў з кватэры, не адказваў на званкі па тэлефоне і ў дзверы. Гэтым разам у дзверы пастукалі.

— Валодзя, гэта я, суседка, баба Лена. Адчыні, калі ласка.

Ён неахвотна павярнуў ручку замка.

За спінай бабы Лены рыдала Марына.

— Валодзя, ты ж добры чалавек, пашкадаваў бы

дзяўчыну, — узяла суседка яго за руку. — Павер мне, старой: людзям трэба даравацць. Нельга затойваць злосць. Марына не спецыяльна гэта зрабіла. Так выйшла. Яна цябе кахае. Любіць больш за жыццё! Вось што — галоўнае! Марына мне ўсё расказала. Яе чымсьці апаілі. Яна не можа без цябе. Бог гаворыць…

— Баба Лена, — перапыніў Уладзімір суседку, — Бог тут не паможа. І адвакат не паможа. Ніхто не паможа. Я не магу прымусіць сябе. Я спрабаваў — не магу!

Марына начавала і днявала ў пад'ездзе яшчэ двое сутак. Суседкі паілі яе гарбатай, супакойвалі, званілі да Уладзіміра ў кватэру. Ён не адказваў.

На пятыя суткі раніцай Марына падышла да ягоных дзвярэй:

— Даруй, Валодзя. Я зразумела, як табе балюча. Зразумела па сабе. Я пайду. Буду чакаць твайго званка. Прашу, пазвані, дай мне апошні шанец. Не адбірай надзею. Я ведаю, што ты чуеш, адчуваю гэта, адчуваю цябе, кахаю. Пазвані!

Але Уладзімір не пазваніў.

Ён не даў ёй шанцу, як не даў шанцу і сабе. Ён не мог даць таго, чаго ў яго не было. Ён не хацеў усё жыццё глядзець на Марыну, а бачыць красунчыка ў чорным скураным пінжаку і аранжавай байцы.

Ішлі дні. Марына не званіла і не прыходзіла. Ад Алекса Уладзімір даведаўся, што дзень і ноч яна чакала ад яго званка і, не дачакаўшыся, у роспачы кінулася ў гульбу па рэстаранах, у якіх яны калісьці былі разам. І рэстараннае жыццё неўпрыкмет засмактала Марыну. Яна любіла танцаваць. І яе запрашалі. А калі кружылася ў абдымках чарговага

кавалера, бачыла ў ім Уладзіміра. Бачыла яго і пазней, калі спакуснік абдымаў яе, вёз дадому, забаўляўся з ёю. Але рэстараннае жыццё ёсць рэстараннае — п’янае. І паступова Марына кацілася ў бездань.

Уладзімір папрасіў зважыць кілаграм вінаграду і міжвольна паглядзеў на суседнюю прадаўшчыцу: чым гандлюе тая? Пабачыўшы яе профіль, тут жа адвярнуўся. Хуценька ўзяў пакунак з вінаградам і, забыўшыся на рэшту, адышоўся ўбок. Стаў за вусатым апельсіншчыкам, зноў паглядзеў.

Яна!

Яна паклала на вагу абрыкосы. Азірнулася, адказала на нейкае пытанне азіята, што сядзеў у яе за спінаю. Той зноў штосьці спытаў. Яна зноў павярнулася. Гэтым Уладзімір скарыстаўся і памяняў пазіцыю — затуліўся за стэндам прадаўца відэакасет. Глядзеў. Няўжо яна?!

Яна!

Бедная! Адчула пах «Энволю». Замерла, выпусціла з рук цыгарэту. Паглядзела налева, направа. Удыхнула, пацягнула носам паветра: так, «Энволь»! Той, не мужчынскі і не жаночы, асаблівы. Яна памятала гэты пах: стойкі, салодкі, пякучы, вабны. Пах удачы, прыгожага жыцця, моцнага маладога цела, зіхатлівых вачэй, асалоды. Іх пах!

О цудоўны, дзіўны, чароўны «Энволь»! Колькіх ты абудзіў, адрадзіў, узвысіў, ашчаслівіў! Колькіх ўратаваў у хвіліны адчаю, колькіх узнёс да нябёсаў!

О пракляты, ненавісны, бязлітасны «Энволь»! Колькі жыццяў ты скамечыў, скруціў, знявечыў! Колькі загубіў надзей! Колькіх загнаў у магілу!

«Гэта Валодзя! — успыхнула ў яе свядомасці. —

Ён тут. Валодзя! О Божа! Уратуй! Даруй і ўратуй! Я паміраю. Я без цябе паміраю! Як мне кепска без цябе! Валодзя, гэта твой пах, я ведаю, твой! Дзе ты?»

— Ты чо, заснула? — прыкрыкнуў на яе чорнашэры няголены азіят. — Чэлавек трэты раз «скولькі за абрыкос» спрашываэт, а красавіца аглохла! Прасныс, дура, работат нада!

Марына прывыкла да ягоных зняваг і не зважала на іх. Дома яе чакала дачка. Яе радасць і ўцеха — кволая Волечка. Яна часта хварэла. Урачы казалі: вітаміны, вітаміны, вітаміны. Шмат вітамінаў. А яны каштавалі грошай. У інстытуце на вітаміны не заробіш. І Марына пайшла на службу да гэтых. Яна цярпела іх, смярдзючых, хцівых, злых: дэньгі, дэньгі, дэньгі. Цярпела здзекі, цярпела іншае. Галоўнае — дачушка. Яна прыйдзе дадому, памые садавіну, дасць малой і будзе глядзець, як тая «за кампанію» ўгаворвае падараванага бабуляй катка:

— Калі не будзеш есці, не вырасцеш такі вялікі, як я.

Потым прыйдзе ноч — яе выратаванне, слёзы, адчай, успаміны. Прыйдзе пах «Энволю».

Дзеля дачкі Марына жыла, цярпела, пакутавала, нікога, акрамя яе, не заўважала.

— Аглохла, а?

Яна ачулася ад вокрыку гаспадара.

— Заткніся, гніда! — кінула.

Азіят разявіў рот. Ён не чакаў такога і, агаломшаны, прыціх.

«Дзе ж Валодзя? — шукалі яе вочы. — Пах жа… Мне не здалося. Яго пах. Дзе ж ён? Дзе маё каханне, дзе? Я вымалю дараванне! Не адпушчу сваё шчасце. Учаплюся ў яго. Намёртва ўчаплюся! На-

заўсёды! Каб жа знаць, што без цябе мне не жыць! Я не змагла выпрасіць у цябе дараванне! Стаяла на каленях, каялася. Цяпер я ведаю — гэтага мала. Ты шмат даваў, але і патрабаваў нямала. Не, не так. Ты аддаваў сябе і патрабаваў узамен мяне — усю, дарэшты. Цяпер я зразумела: здрада аплачваецца жыццём. Я дакажу, што гатова на смерць! Ты паверыш, што я ніколі не зірну на іншага, што ў свеце для мяне заўсёды, вечна будзе толькі адзін мужчына — ты! Інакш хай Бог выпаліць мае вочы! Ты даруеш! Злітуешся і даруеш! Ты не зможаш не дараваць, калі ўбачыш, як я кахаю цябе, як не магу без цябе, як пакутую, гіну, як засмоктвае мяне балота, бруд. Ты паверыш, што я больш ніколі не спатыкнуся. Тады проста быў зрыў, выпадковасць. Я расслабілася, адключылася ўсяго на імгненне, і яно сталася ракавым. Цяпер я ведаю, што страціла. Я дорага заплаціла за здраду. Дванаццаць гадоў адна. І згодна заплаціць жыццём, толькі дазволь быць побач з табою і памерці ў цябе на руках. Дзе ж ты, дзе?»

Марына круціла галавою, вейкі дрыжэлі, шчокі палалі. Гаспадар глядзеў на яе і маўчаў. Дагэтуль ён не бачыў гэтую ціхую, пакорлівую жанчыну такой смелай і прыгожай. «Як я рызыкаваў, павышаючы на яе голас, — пабялеў чорна-шэры. — Алах! Яна магла забіць!»

Марына выскачыла з-за прылаўка, удыхнула паветра: так, гэта Валодзя! Але дзе ён? Куды мог пайсці? Да выхаду? Туды!

«Бягу па следзе, як сабака, — думала Марына. — Так мне й трэба. Сама вінаватая. Трэба было не адступацца, вымольваць дараванне. А цяпер — як сабака! Як пабітая, выкінутая з двара сучка! Як

тады, пасля той ночы. Але — няхай, як сабака! Галоўнае — дагнаць, адшукаць! А потым — упрасіць, пераканаць! Памерці, але пераканаць! Я не хачу быць адна. Я не хачу змагацца з жыццём у адзіночку!

Дзе ж ты? Дзе?

О Божа, аддай мне каханага, дазволь упасці перад ім на калені. Я ўчаплюся ў яго і ніколі не адпушчу. Ніколі! Гэтым разам я не здамся, дакажу!»

Уладзімір стаяў за вітрынай — мазаікай з відэакасет — і глядзеў, як Марына бегла да выхаду з рынку. Ён зразумеў — яна шукае яго. І ўнутрана скалануўся, нечакана зразумеўшы і сябе: ён яе, прадажніцу, кахае! Усё яшчэ кахае. Гады, што прабеглі з той пары, не сцерлі, не вытруцілі гэтага пачуцця з ягонай душы і сэрца.

І ён не вытрываў, ірвануўся наўздагон. Ён павінен даць ёй шанец!

Падбег да дзвярэй, адчыніў, убачыў яе са спіны і… замёр: ногі адзервянелі, голас перасеў — прапаў.

«А жонка, дзеці, дванаццаць гадоў жыцця, дом, наш агульны дом?»

Рука, што трымала дзверы, апусцілася, і яны паволі, з рыпам зачыняліся. Зачынялася і ягоная душа. Зноў, як і тады, памірала. Паміраў іх шанец. Паміралі ён, яна, каханне.

Нібы адчуўшы за спінаю знаёмае дыханне, яна азірнулася. Але дзверы паспелі зачыніцца, і Марына яго не ўбачыла.

«Дзе ён? Дзе? — пыталася ў самой сябе. — Галоўнае — знайсці яго. А ўсё астатняе — за мной. Я не тая, што была тады. Ён паверыць мне. Паверыць і даруе».

— Валодзя! — крычала. — Валодзечка-а!

«Вырашай, — думаў ён. — Дзеці і жонка ці гэтая калісьці фантастычна прыгожая дзяўчына, сапраўды казачная красуня, а зараз вартая жалю, бязлітасна пацёртая жыццём жанчына, але па-ранейшаму — каханая і дарагая?»

Так, ён заўсёды, усе гэтыя гады кахаў яе. Здрада і час толькі ўзмацнілі пачуццё.

«Каханне ці сям'я — вырашай!» — зноў сказаў сабе Уладзімір.

І ён вырашыў.

# ХЛОПЧЫКІ

Маладая, ад сілы гадоў дваццаці пяці, мама — вабненькая бландзінка з вясёлымі ямачкамі на пунсовых шчоках і зманліва нафарбаванымі вуснамі — чакала з мужам і сынам чаргі да адваката.

Я стаяў за імі.

Муж быў відавочна з пароды тых, каго называюць у народзе цямця-лямця: тупавата-вінаваты твар, прыадкрыты, з падрыгваннем, быццам ад ікоты, рот, неспакойны, жаласлівы, разлічаны на спагаду і падтрымку погляд. Бесперапыннае пацепванне плячамі і няўцямнае мармытанне наводзілі на думку, што школьны курс навукі ён, само сабою, адолеў, але вось для чаго — наўрад ці памятае.

— Зноў заснуў? — торкнула яго пад бок жонка. — От памылка прыроды. Так бы стаяў і спаў дні навылёт! У іншых мужыкі як мужыкі, а ў мяне… Схадзі ў краму, хоць нейкі толк з цябе будзе.

Яна, несумненна, верхаводзіла ў сям'і, але не дзякуючы розуму ці разважлівасці, а з прычыны сваіх валявых, байцоўскіх якасцяў.

Тройчы пералічыла напаказ пад носам у яго грошы і сто разоў паўтарыла: «Глядзі ў мяне!». Ён штосьці прамямліў і з палёгкаю пакіраваў у бліжэйшы, адразу за рогам дома, прадуктовы.

Хлопчыку было гадоў шэсць. Ён сядзеў на адзіным у холе крэсле і, утаропіўшыся ў падлогу і думаючы пра штосьці сваё, ледзь прыкметна соўгаў нагамі — ехаў на веласіпедзе.

Ягоная мама пасля сыходу цямці-лямці некалькі разоў акінула мяне ацэначным позіркам. Напэўна, я зацікавіў яе як сусед па чарзе, а таксама моднай катонавай курткаю. Выдавала, што агляд яе задаволіў — цікаўнасць змянілася адкрытым абяцаннем-выклікам: маўляў, жанчына я, нягледзячы ні на што, незалежная, без комплексаў, а мужа, самі бачылі, як бы і няма. За гэтым, відаць, была надзея, што я кінуся да яе знаёміцца, запісваць тэлефон, каб без асаблівага прамаруджвання запрасіць у рэстаран, у казіно, а то і ў якую модную саўну, — у рэшце рэшт, колькі таго жыцця. Я мякка ўнікаў яе націску, але яна нібыта не заўважала гэтага, аднак, калі ў чарговы раз адвёў вочы ўбок, нечакана павярнулася да сына з крыкам:

— Зазыбаў! Устань і падыдзі да мяне! Да мяне, я сказала! Двойчы паўтараць не буду! Зараз жа!

Малы не падняўся — ножкі не даставалі да падлогі, — саскочыў з крэсла. Быў, напэўна, добра выдрэсіраваны. Памалу падышоў да мамы, заміргаў вочкамі. Рукі, як у малітве, склаў на грудзях. Мама замахнулася, маючы намер уляпіць яму аплявуху, і, здаецца, не прамяўканае малым «Ой!», а мой міжвольны ўздых запыніў яе ў апошні момант.

— Глядзі ў мяне! — схапіла сына за шкірку, прыгразіўшы той жа фразай, што й бацьку. — Даскачашся!

— Не бі. Калі ласка...

— Ідзі! — адпусціла яна сынаў каўнерык. — Яшчэ раз пабачу, што боўтаеш нагамі, — крыўдуй на сябе! Я не жартую, і ты гэта ведаеш!

Мне стала тужліва. Ну, круціцца хлапчанё на крэсле, дык жа сумна яму. І я знябыўся, стоячы тут.

Дык што — біць за гэта? Вось так і мужа свайго давяла да расліннага стану.

А мадам, і вухам не павёўшы, яшчэ раз паспрабавала заарканіць мяне позіркам. Не дамогшыся, як і перад гэтым, жаданай узаемнасці, нарэшце сцяміла, што атака захліпнулася. Не памятаючы сябе ад злосці, зноў накінулася на сына:

— Перастань матляць нагамі! — завішчэла, да непазнавальнасці скрывіўшы свой вабны твар. Падбегла да малога, размахнулася…

Той, чакаючы ўдару, засланіў галаву рукамі:

— Мамка, не бі!

Дзе там! Яна ўдарыла яго тройчы. Хацела дадаць яшчэ, але я не стрываў:

— Паслухайце! Няможна ж так!

Бландзінка акінула мяне пагардлівым позіркам: «Размазня!» — але не вымавіла ні слова і, адпусціўшы малога, вярнулася на сваё месца — на пятачок ля ўвахода ў кабінет адваката. У гэты момант дзверы адчыніліся, і на парозе ўзнікла акуратна апранутая бабуля:

— Выбачайце, што прымусіла доўга чакаць.

— Вы б яшчэ да другога прышэсця сядзелі, — буркнула бландзінка і, выявіўшы зайздросны спрыт, шмыгнула за дзверы. Пакінула хлапчанё, быццам забылася на яго.

І бацька як пайшоў у краму, так і прапаў. А можа, вярнуўся ды стаіць дзе-небудзь за рогам, хаваецца: не хоча, каб ім прылюдна папіхалі.

Я скарыстаў момант і падышоў да хлопчыка.

— А ты малайцом! — усміхнуўся яму. — Сцярпеў, не заплакаў.

Мне хацелася пагладзіць малога, пашкадаваць, ды — не рашыўся: чаго добрага, спалохаецца, убачыўшы, што падымаю руку.

Раптам прыгадалася: у кішэні ляжыць гадзіннік, набыты Дзімку да дня нараджэння. Прыкінуў: яшчэ амаль тыдзень, паспею сыну купіць іншы.

— Трымай! — дастаў жоўценькі, ужо з раменьчыкам гадзіннік. — Давай, брат, памагу зашпіліць.

— Не-не! — спалохана адхіснуўся хлопчык.

— Чаму?! — я быў ашаломлены. — Паглядзі, які прыгожы!

— Адзін дзядзя ўжо даў быў мне тамагочы. Я пасля два дні ў куце стаяў. Мамка сказала: калі яшчэ раз у незнаёмага што-небудзь вазьму, яна мяне з дому выганіць, — захныкаў малы. — Не трэба!

— Добра, добра, — паспрабаваў я супакоіць хлопчыка. — Не трэба дык не трэба. Толькі не плач. Ты ўсё роўна малайчына.

Сам сабе падумаў: мусіць, я не першы, хто адбівае атакі гэтай бландзінкі.

Мне нічога не заставалася, як пайсці. Плюнуў на чаргу, чакаць не стаў — выйшаў на вуліцу. Глынуў свежага студзеньскага паветра. Угледзеў на другім баку вуліцы цямцю-лямцю — той і сапраўды вызіраў з-за афішнай тумбы.

«Не, Дзімку я ёй не аддам! — пакляўся сам сабе. — Яшчэ падчэпіць гэткага ж цюхцяя — дзе ты іх, вартых, набярэшся? — і пачне здзекавацца з сына, спаганяць на ім сваю злосць на няўдалы лёс і на свалату-тату, што зламаў ёй жыццё».

Махнуў таксісту, які пралятаў міма. Учэпістым трэніраваным вокам той згледзеў мяне, прытармазіў.

— Дзіцячы садок чатырыста чатыры, — адольваючы нервовую задышку, вымавіў я. — Ведаеш, дзе? Тады пагналі. Цісні на педаль.

— Націснем, не турбуйцеся, — спакойна адказаў вадзіцель. Паглядзеў на мяне, паківаў галавой: — Я разумею…

Я не ведаў, што ён разумее ці мае на ўвазе, але, пачуўшы, што таксіст таксама спяшаецца ў дзіцячы садок, падумаў: «Што нам рабіць з усімі гэтымі ўзгадаванымі сацыялізмам маткамі — сучкамі, ваўчыцамі, гібрыдамі гада і распусніцы?»

Мы не ведалі, што рабіць. Мы проста імчаліся па нашых хлопчыкаў. Ён — пасля таго як падвёз чарговую кліентку з сынам, я — пасля няўдалай спробы параіцца з адвакатам.

## СЮЖЭТ

Сеў за камп'ютар. Наважыўся паэксперыментаваць — напісаць апавяданне, не маючы пэўнай задумы, напрацовак, сюжэта — нічога з таго, што ёсць у пісьменніка, калі ён бярэцца за пяро. Хоць мець сюжэт, відаць, не так ужо й важна. Дапусцім, апавяданне акурат і будзе пра тое, як прыдумаць сюжэт. Згадаем бяспройгрышныя тэмы: каханне, здрада, нянавісць, смерць. Не густа. І галоўнае — усё ўжо было. Пра ўсё пісана-перапісана, усё заезджана да нудоты. І таму… Ой, што там, за акном, успыхнула? Знічка? Ды якая яркая! Падфарціла дык падфарціла. Не трачу дарэмна час, загадваю жаданне: дай мне, Божа, ключавое слова, слова-спружыну, слова-матор. Я хачу, каб… каб… Стоп! Ёсць! Завёўся!

*Матацыкл завёўся. Малодшы брат паглядзеў на старэйшага:*

*— Ты абяцаў — сёння ўжо абавязкова пакатаеш.*

*— Сядай, назола, усё роўна не адстанеш. Але каб пасля не крыўдаваў. І бацьку не ўздумай скардзіцца. Сам напрасіўся. Лаві шлем. Зашпіліў? Яшчэ раз пытаюся: не перадумаў? Упэўнены? Тады сядай!*

*Павесялелы малодшы гэпнуўся на задняе сядзенне, радасна адрапартаваў:*

*— Гатовы!*

*— Узорны піянер! Цяпер хапайся за мяне і трымайся мацней, — загадаў старэйшы. Газануўшы не-*

*калькі разоў, як бы правяраючы «машыну», нарэшце адпусціў счапленне, і браты літаральна паляцелі з месца.*

*Малодшы брат ніколі б не паверыў, што імчаць на матацыкле будзе так страшна. З першых жа метраў яму перацяло дыханне, здавалася, вось-вось ён зляціць з сядла і разаб'ецца. Насмерць, ушчэнт. Толькі што, у момант абгону, ледзь не зачапілі грузавік. На павароце нага чырканула па асфальце. «Хутчэй бы ўсё скончылася, — думаў ён, дранцвеючы ад страху. — За кіламетр буду матацыклы абыходзіць. О, Госпадзі...»*

*Пашанцавала, Бог злітаваўся.*

Званок.

Зняў трубку.

— Слухаю.

— Вы яшчэ дома, Сяргей Канстанцінавіч? — пазнаў механічны голас сакратаркі. — А пара б ужо выехаць: а шаснаццатай нуль-нуль пачынаем. Як — што? Забыліся? У Рыгора Сцяпанавіча дзень нараджэння! Вы мяне добра чуеце?

— Чую, чую... Дзякуй, што нагадалі, — хуценька паклаў трубку, пакуль гэтая сарока дарэшты не затлуміла галаву. — Так, на чым жа спыніўся? «На бліжэйшым жа павароце нага чырканула па асфальце. "Хутчэй бы ўсё скончылася, — думаў, дранцвеючы ад страху. — За кіламетр буду абыходзіць матацыклы. О, Госпадзі..." Пашанцавала, Бог злітаваўся».

Не, Бог тут ні пры чым. Усё рашае ўдача. Разгледзім той жа выпадак з матацыклам. Удача прыходзіць да канкрэтнай асобы. Гэта значыць — спачатку трэба нарадзіцца чалавекам, а не сланом, да

прыкладу, бо сланы не ездзяць на матацыклах. Гэта і ёсць першая ўдача. Затым — дажыць да таго ўзросту, калі зможаш трымаць руль. Другая ўдача! Далей…

Далей пажадана не траціць часу на пустыя мудрыкі і падумаць, што ўручыць паважанаму шэфу і мужу маёй палюбоўніцы Рыгору Сцяпанавічу. Можа, рогі? Не смешна. Ён гумар не ацэніць і зробіць з іх вешалку, на якую ў бліжэйшыя асеннія месяцы раз у тыдзень я буду вешаць сваю куртку. І штораз перад тым, як пацешыцца з ягонай красуняю, прыйдзецца дакараць сябе ў думках, які я падлюга і нягоднік: спакушаю жонку шэфа без аніякага сораму. Зрэшты, годзе займацца самавыхаваннем — збіўся з сюжэта. Што там з хлопцамі? Яшчэ катаюцца? Пара тармазіць.

*— Усё, спектакль скончаны, — заявіў старэйшы брат. — Паркуемся.*

*«Здаецца, жывы, — абмацаў сябе малодшы. — Вось дык пракаціўся. На ўсё жыццё запомню!»*

*— Ну што, набраўся страху? — злез з матацыкла старэйшы.*

*— Ды не-е, — малодшы стараўся гаварыць спакойна, — усё нармальна. Амаль як на веласіпедзе, толькі з гары.*

*— На веласіпедзе, кажаш? — засумняваўся старэйшы. — А самому за руль не хочацца? Я пакажу, што трэба рабіць.*

*— Праўда? — не паверыў малодшы. І ўчапіўся за здагадку: «Напэўна, самому кіраваць матацыклам не так страшна, як вісець ззаду?»*

*— Сядай на маё месца, — пачаў старэйшы першы ўрок. — Бліжэй да руля. Па-блатному будзеш*

*ездзіць, як навучышся. Цяпер пакруці ручку газу, адчуй яе. Націсні на тармазы, прывыкай да педаляў...*

Нешта я заваждаўся з хлопцамі. Час бегчы на імяніны боса.

У кватэру на трэцім паверсе аднаго з самых прэстыжных дамоў горада ўляцеў з дзяжурнаю, да вушэй, усмешкаю. Віншаванне загадзя амаль слова ў слова спісаў — прыдумваць не было калі — з адное паштоўкі, прысланай мне летась:

— Дарагі (памяняў імя і імя па бацьку) Рыгор Сцяпанавіч! Ад усяго сэрца... («Так, — прызнаўся сабе, — сэрца якраз жа ў мяне і няма») віншую вас з юбілеем. У гэты радасны для вас і, безумоўна ж, усіх нас (ой, ці для ўсіх?) дзень хацелася б пажадаць вам вялікіх поспехаў у працы, моцнага здароўя (пры гэтым стандартным пажаданні ў мяне чамусьці пачаў заплятацца язык) і доўгіх гадоў жыцця! — Тут жа спытаў сябе: «З такой жонкаю?». І сам сабе зазначыў: «Крый Божа, тым болей з такою жонкаю!» Сабе ж дадаў: «З гэткай ненажэрнай красуняй год за тры трэба лічыць. Так што наўрад ці...»

Перакульваючы ў рот чарку, зноў успомніў пра матацыклістаў.

*— Цяпер адзін зможаш пракаціцца? — глянуў старэйшы брат на малодшага пасля таго, як тры гадзіны запар трэніраваў яго на пустцы непадалёк ад дому.*

*— Пытаешся! — усклікнуў малодшы. — Сам жа бачыш, я ўжо о-го-го як ваджу!*

*— Думаеш? — недаверліва пахітаў галавою старэйшы. — Што ж, паглядзім. Пакуль — толькі да*

*нашага дома і назад. Зразумеў?*

*— Зразумеў. Рукі, праўда, крыху дрыжаць, напэўна, з непрывычкі. Можа, кругоў пяць яшчэ тут зраблю, а пасля рызыкну й па вуліцы?*

*— Добра, трэніруйся. Галоўнае — адпрацуй да аўтаматызму пераключэнне хуткасцей. Руль трымай моцна, не торгайся. І ў павароты старайся ўваходзіць больш плаўна...*

Пакуль малодшы брат даводзіў да бляску тэхніку ваджэння, тосты ў гонар Рыгора Сцяпанавіча пайшлі па другім крузе. Да майго чарговага выступлення было далёка, і я спусціўся (здавалася, незаўважна) у двор — падыхаць свежым паветрам. Амаль адразу ж выбегла і *яна*.

— Не глядзі на мяне так, — кінула ледзь не крычучы. — Я ўсё прадугледзела. Сказала Грышу: пакуль, маўляў, дойдзе да гарачага, хачу спакойна пакурыць. А на лоджыі поўна гасцей...

— А я пра што...

Далей я не стаў выпрабоўваць лёс і моўчкі пачаў рухацца назад. Яна ценем кінулася за мною.

У пад'ездзе схапіла мяне за плечы, прыхінула да сцяны.

— Абдымі, — прашаптала, заплюшчваючы вочы. — Я хачу цябе.

«Вар'ятка! Убачаць жа! Далібог, убачаць! — пранеслася ў галаве. — Няўжо не разумее? У нас жа сем'і, дзеці. Пазабаўляліся, пацешыліся і — хопіць».

— Ціха, супакойся, — узяў яе за рукі. — Дачакайся панядзелка. Я ў абед вырвуся. Абяцаю.

— Ніякіх панядзелкаў. Ніякіх абяцанняў. Хачу цябе зараз, кожны дзень, заўсёды, усё жыццё!

«Сапраўды з глузду з'ехала, — занерваваўся я. —

Што рабіць? Як супакоіць вар'ятку?»

— Абяцаю, — прыцiснуў да сябе. — У панядзелак прыеду, сядзем, усё абдумаем і...

— Ніякіх «і»! Я не веру! Я не дачакаюся! — перабіла. — Я больш не магу чакаць!

Не стрываў:

— Усё! Хопіць! Пусці! — лёгенька адштурхнуў яе і ступіў да выхада. Адтуль — на вуліцу. На другім баку — стаянка таксі. Машыны ёсць! Яшчэ пару метраў — і я вольны. Яна вернецца да гасцей, жыццё пойдзе сваёй чарадою, і вечар скончыцца без скандалу.

Імгненна ўсвядоміўшы, што засталася адна, яна рванулася ўслед. «Спыніце яго!» — закрычала. І гэтае «спыніце!» апаліла мне плечы. «Уцякаць! Куды? Ці магчыма?» Спачатку захапіўся, пасля заблытаўся, цяпер вось магу дабегацца. От табе і сюжэт. А як там, дарэчы, мае хлопцы?

*— Значыць, дамовіліся, — нагадаў старэйшы брат малодшаму, — толькі туды і назад. Калі будзеш праязджаць паўз наш дом, на вокны не глядзі — чаго добрага, у слуп урэжашся.*

*Малодшы сядзеў за рулём, падгазоўваў і старэйшага не слухаў. Ён паверыў у свае сілы і думаў толькі пра адно: хутчэй у бой. Паказаць старэйшаму, што можа не проста праехацца, прапаўзці чарапахай. Не! Ён праляціць эфектна, як сапраўдны гоншчык.*

*І малодшы газануў і сарваўся з месца. Пад'язджаючы да свайго дома, яшчэ здалёк выгледзеў знаёмыя вокны. «Вунь нашы, — усміхнуўся. — Можа, там і мама стаіць? Махну рукою: салют, мама! От*

*здзівіцца!»*

Але мама не здзівілася: у яе былі іншыя клопаты. Яна выбегла на вуліцу, павяла вачыма: «Дзе ён? У таксі сядае!» Ірванулася да перахода.

Матацыкліст, што нёсся на жоўтае вока святлафора, нават не паспрабаваў аб’ехаць яе або прытармазіць. Загледзеўся на вокны.

Удар! Яго выкінула з сядла. Праляцеўшы з дзесятак метраў, пакаціўся па зямлі.

Хлопцу пашанцавала: упаў на зялёную палосу, што падзяляе вулічны рух. Жанчыну ж матацыкл кінуў на слуп светлафора. Выцяўшыся аб яго галавой, яна страціла прытомнасць.

Малодшы толькі абадраў аб зямлю твар ды парваў адзенне. Цьмяна ўсведамляючы, што кагосьці збіў, падняўся і пасунуўся слепа да злашчаснага перахода. Ля светлафорнага слупа скалануўся: на асфальце ніцма ляжала жанчына. Яе галава падцякала крывёю.

Я апынуўся ў таксі за лічаныя імгненні да гэтых падзей, нічога пра іх не ведаў і вячэрняму званку не здзівіўся. Аднак тэлефанавала не *яна*. Яна ўжо болей ніколі не патэлефануе. І мне, думаецца, не прыйдзе ў галаву эксперыментаваць з прыдумваннем апавяданняў. Варта толькі скласці сюжэт, як д’ябал увасабляе яго ў жыццё.

## ТРОЕ

Я стаю над безданню. Яшчэ крок — і вяртанне ў раўнавагу, у норму, у жыццё стане немажлівым. І тады я сыду ў нікуды. Стану нікім. Памру. Знікну. Мяне не будзе. Будзе яна. Самы блізкі мне чалавек.

Let it be![1]

Яна вельмі прыгожая, незвычайна прыгожая. Да асляплення, да памутнення розуму, да страты прытомнасці. Яна — мая каханая. Мая жонка. Маё першае і адзінае каханне. Мая надзея. Мой апошні прыстанак. Мой анёл. Лёс.

Так! Лёс! Трагедыя! Бездань! Смерць!

Сёння яна сышла. Я разумею, яна стамілася. Увесь час удваіх. Увесь час разам: я і яна. Хто хочаш стоміцца.

Але чаму я не стаміўся? Чаму так сумую па ёй? Таму, што кахаю? Не ведаю. Проста хачу, каб яна была побач.

Але яна — сышла. Можа, так ёй будзе лепей? Галоўнае, каб каханай было лепей. Але ж ёсць яшчэ я, той, хто кахае яе. Аддany ёй. Чаму яна не падумала пра мяне? Яна ж ведае, што я не магу без яе, не магу!

Яна ведае…

Горка і балюча.

Сказала — выскачу на хвілінку, а мінула ўжо чатыры гадзіны. Калі б каханая папярэдзіла, што

---

[1] Хай будзе так! (*англ.*)

мяне чакае расстанне даўжынёю ў вечнасць — я быў бы хоць неяк падрыхтаваны. Паспрабаваў бы яе запыніць. Утрымаць. Я прасіў бы, маліў, угаворваў, пераконваў. У мяне быў бы шанец…

Але яна сказала — на хвілінку.

І, як на тое, я не паехаў на работу, застаўся дома. Бы знарок. Цяпер я ведаю: каханая гаварыла адно, а думала другое.

Гэта — бездань!

Пачата другая пляшка гарэлкі. Але гэта слабы лек ад рэўнасці. Рэўнасць лёгка ператварае гарэлку ў ваду. І я раблюся безабаронным. Мяне агортвае адчай, жаданне памерці. Я ва ўладзе Яе Вялікасці Рэўнасці. І няма мне ратунку! Няма!

Чатыры гадзіны без каханай! Як гэта пакутліва доўга, вечна, назаўжды. Я зламаўся. Згарэў. Спаралізаваны. Хворы. Небяспечны. Гатовы на ўсё!

Гэта — бездань!

І ўсё ж я веру: каханая прыйдзе! Я ёй патрэбны. На ўсялякі выпадак (раптам штосьці здарыцца?), але — патрэбны. Абавязкова патрэбны. Інакш — нельга! Інакш…

Яна прыйшла. Тлумачыць: забавілася ў сяброўкі (дапамагала па гаспадарцы маме; забягала ў офіс да свайго дзядзькі і трапіла на гадавіну фірмы; прагульвалася па парку — развітвалася з восенню). Яна гаворыць бесперастанку. Гаворыць так, нібы адказвае на пытанні. Навошта? Я ж іх не задаваў. Можа, пытанні задалі мае вочы? Ці яе сэрца адчула мае пакуты?

Не ведаю…

Я сказаў, што званіў сяброўцы (заязджаў да мамы; дзядзька ўчора з'ехаў за мяжу; а пасля гадзіннай прабежкі па парку ледзь адмыў ад гразі па-

дораныя ёю чаравікі). Спакойна сказаў. Дальбог — спакойна.

Але каханай здалося, што я дапытваю яе, павышаю голас, здзекуюся, не веру ніводнаму яе слову. І яна ўспыхнула:

— Я проста гуляла па вуліцы, хадзіла па крамах. Зайшла ў кавярню выпіць кавы. Ну і што? Я не рабыня, я вольны чалавек! Ці ты думаеш інакш? Можа, мне і дыхаць нельга без твайго дазволу?! Ты — варвар! Ты...

Я зразумеў. Я ўсё зразумеў. Усё! Дзе яна была. З кім дыхала. Да каго дакраналася. Хто варвар. Не проста зразумеў — убачыў, як чужы абдымае каханую.

Захліснуў боль. Боль да непрытомнасці, да адчаю, да слепаты.

І тады я ступіў да сваёй бездані. У кожнага яна — свая. Цяпер я гэта ведаю...

Бездань.

Я — перад ёю. Толькі Богу вядома, што будзе далей.

Рэўнасць мацнейшая за розум, але не мацнейшая за Бога. У Ім — паратунак.

Ён стаяў на краі даху дваццаціпавярховага дома.

Унізе — асфальт. Чысты. Ні кусціка, ні дрэўца. Шанцаў выжыць — нуль. Гэта самае галоўнае — не выжыць! Свет для яго не існаваў. Свет перакуліўся. Знік. І ён таксама знікне.

Гэта — бездань!

Ён глядзеў на неба, потым апусціў галаву, зірнуў уніз, спалохаўся, але адчай мацнейшы, чым страх, і ён ступіў.

Падаў уніз галавою. Так трэба. Ён пачуў сваё «А-а-а!!!» і зразумеў: рэўнасць, што распірала яго, раптам схлынула, адступіла. І ўспыхнула святло. Захацелася жыць. Ухапіцца за жыццё. Спыніць смяротны палёт. Убачыць неба.

Ён паспеў перавярнуцца і ўпаў на ногі. Але…

Хрыбетнік хруснуў, успароў скуру, вылез вонкі.

Ён не разбіў галавы і яшчэ нейкі час дыхаў.

Бог пачуў ягоную просьбу. Вызваліў ад удушша рэўнасці. Цяпер ён вольны і шчаслівы.

Let it be!

А пачыналася ўсё незвычайна, таямніча, казачна. Пачыналася з кахання. Шчасце не мела межаў. Дні ляцелі, як імгненні, і ён баяўся, што ўсё гэта не больш чым салодкі чароўны сон. І ўсё сапраўды аказалася сном. Каханне было адно на дваіх — ягонае каханне. Без узаемнасці. Каханне і рэўнасць. І нянавісць. Яе нянавісць…

— Так, гэта мой муж, — спакойна пацвердзіла каханая ў моргу і, не чытаючы, падпісала патрэбныя паперы.

Спакойнай яна падалася і следчаму-практыканту. Папраўдзе ж усё ў ёй бушавала і кіпела. Яна знемагала ад жадання хутчэй убачыць свайго неўтаймоўнага, неймаверна дужага Звера. Толькі ён, катуючы, даводзіў яе да шаленства. Толькі з ім яна патанала ў аргазме, памірала ад шчасця, згарала ў полымі. Ён быў яе гаспадаром, паганятым. Лупцаваў яе, біў, кусаў, ірваў на часткі, шкуматаў. Ён быў яе катам і збаўцам…

Яна шалела ад агіды і болю, рабілася жывёлінай, поўзала перад ім на каленях, лізала яго гарачае

цела. Забывалася, траціла свядомасць і зноў упадала ў экстаз. Вар'яцела і заходзілася ад адчування ягонае сілы.

Яна не ведала, што гэтай ноччу яе Звер вырашыць: прыйшоў час. Час выпусціць дух з гэтага ненасытнага стварэння, што рве на сабе валасы і крычыць такое ненавіснае яму «Яшчэ-э!».

І ён усміхаўся. Усміхаўся яго амаль бязгубы твар, жмурыліся неспакойныя бегатлівыя вочкі. Ён не бачыў, які жахлівы ў гэты момант. Якая ён пачвара. Не бачыла гэтага і яна. Для яе Звер быў найпрыгажэйшы. Ён — яе кат і збаўца.

І Звер усміхаўся. Ён зрабіў *гэта*. Вылечыў пецярых. Вылечыць і яе. Круг замкнецца. Шэсць хворых, шэсць лялек, якія любілі так ненавіснае яму «Яшчэ-э!». Ён выканае ўмову. Ён стане антыхрыстам. Хутка. Цяпер ужо хутка ён будзе сярод сваіх. І Звер усміхаўся.

Яна не ведала, што, аддаляючыся ад морга, няўхільна набліжаецца да яго. Не, да мяне! Да нас! І яна кінулася бегчы.

Хутчэй! Звер чакае яе!

І яна пабегла па прамой, што была кругам.

Яна не ведала, што рэшту ночы правядзе побач са мною.

Яна не ведала.

Let it be!

— Прыгожая пара, — усміхнуўся паталагаанатам, уваходзячы скальпелем у маё цела.

Анатаміраваць каханую яму не было патрэбы.

# БЕВЕРЛІ-ХІЛЗ

— Я ведаў, што ты маеш шанец пераадолець бар'ер, прарвацца да нас. Такія, як ты, пазначаны з самага зачацця, але толькі адзін з мільёна ўсведамляе як факт наша існаванне, жыве і памірае разам з намі. А калі шчыра — не памірае ніколі. За год дамагчыся таго, на што іншым патрэбна дваццаць! Значыць, ты народжаны для сапраўднага жыцця, для сапраўднай гульні, бітвы, трагедыі. І ўсё гэта будзе табе дадзена. Але для пачатку, каб зрушыць сітуацыю, заключым дамову. Здзелка табе падасца дзіўнай, падазронай, нават вар'яцкай, ды без яе не абысціся — яна акуне цябе ў наша, сапраўднае жыццё. Бачу, задумаўся. Ёсць пытанні? Задавай, толькі расслабся, не напружвайся.

— А чаго напружвацца?! Усё ясна як белы дзень. Я пісаў апавяданне і на пэўным этапе ўвайшоў у яго. Ступіў за мяжу паміж рэальнасцю і фантазіяй. З'ехаў з глузду. Звар'яцеў. Хоць разважаю, здаецца, лагічна правільна, разумна. Ці не? Хіба можа быць, каб нехта пранік у сваё апавяданне, зліўся з яго персанажамі? Адказваю: можа, калі гэта — сон. Значыць, я сплю. Няма пытанняў. Аднак холад чамусьці працінае…

— Холад — гэта нічога, лепш, чым спёка, асабліва вогненная. Але тэму такую развіваць не хацелася б... А ты малайчына! Дрыжыш, а прымусіў сябе і змагаешся, разважаеш, робіш высновы. Сапраўдны прафесіянал, логік. Усё правільна. Я задаволены.

Ты — адзін з абраных, адзін з найлепшых і не выпадкова тут апынуўся. А цяпер слухай і запамінай. Не глядзі на мяне і не спрабуй гадаць: што будзе далей, навошта ты тут, з якой мэтаю? Скажу, усё скажу. Але не адразу. Не так гэта проста. Толькі не хвалюйся, супакойся. Вы гаворыце — і тут я цалкам згодны — не такі страшны чорт, як яго малююць. Карацей, забіваць цябе ніхто не збіраецца. Нашая мэта якраз адваротная — падоўжыць тваё новае — нашае — жыццё. («Нашае? — тарганулася думка ў пісьменніка. — Не разумею».) Але-але, падоўжыць, нават калі ты будзеш супраціўляцца, чаго нельга выключыць. Чаму? Пасля даведаешся. Паўтараю — не ўсё адразу. З ходу і ў нас не вельмі атрымліваецца. Такім чынам, здзелка. Першая і апошняя. Ты гаворыш, чаго хочаш, а я выконваю твае жаданні. Але калі ты ўжо здагадаўся, хто перад табою, дык, мусіць, разумееш, што мы задарма не працуем. Плату, пэўную частку твайго цела — ціха-ціха, не спяшайся адмаўляцца, потым усё зразумееш! — я прызначу сам, зыходзячы з маштабнасці тваіх просьбаў. Цела таго, хто прарваўся да нас, каштуе дорага, таму не трэба залішняй сціпласці. Калі ласка, кажы...

— Я сказаў бы, што не маю ніякіх жаданняў, абы не бачыць таго, хто іх навязвае і сам жа выконвае, — гэта значыць цябе. Зараз галоўнае — прачнуцца і...

— Зайздросная логіка! — перапыніў д'ябал пісьменніка. — Аднак памылковая. Гэта не сон. Ты сапраўды бачыш перад сабою Антыбога. І табе лепш не траціць марна сілы, не ўпарціцца, а чаго-небудзь пажадаць. Урэшце, каб вырвацца адсюль, гэтага абавязкова трэба пажадаць, і вельмі моцна. Вельмі!

Чуеш? Паўтараю: загадваеш жаданне — і атрымліваеш шанец. Як бачыш, мы прайшліся па крузе. Табе тое трэба? Ты ж ніколі марна час не траціў. Не траць і цяпер! Даходліва тлумачу?

— Куды ўжо даходлівей, — уздыхнуў пісьменнік.

Хваляванне замінала яму сабрацца з думкамі. «Даскакаўся! Дапісаўся! Дапяў да ісціны! Да самага яе донца, да адваротнага боку. Я — на другім баку. У іншым вымярэнні. Трэба нешта рабіць, неяк выбірацца. Не апускаць рук, трымаць вуха востра, думаць». Уголас прадоўжыў:

— Усё зразумела, і з цікавасці — што будзе далей? — адкажу: я хачу быць багатым, такім багатым, каб купіць таго, хто ўзяўся б забіць цябе. Калі такога ва ўсім свеце не знойдзецца, дык — купіць цябе самога.

— Багатым — гэта добра. Але мой забойца яшчэ не нарадзіўся: я ведаў бы — мяркую, разумееш — пра яго існаванне. І купіць мяне цяжка, хутчэй за ўсё — немажліва. Але багацце павялічвае твой шанец перамагчы ў гульні. Такім чынам, просьба пачута і прынята: багацце. Цяпер — канкрэтна. Пачнём з лота нумар адзін. Дзе будзем жыць? Віла? Замак? Штосьці небудзь больш сціплае?

— Замак?! Крый Божа! Хопіць з мяне аднаго прывіду! Няхай будзе віла.

— Дзе?

— Беверлі Хілз, калі на тое пайшло. Чуў, там весела.

— Так і карціць сёе-тое сказаць пра твой выбар, асабліва наконт «весела», але прамаўчу. Віла ў Беверлі Хілз — лічы, дамовіліся. На чым будзем ездзіць?

— Гуляць дык гуляць! «Ролс-Ройс» ці «Бентлі». Але не супраць пакарыстацца і чым-небудзь са

спартыўных жарэбчыкаў: «Ламбарджыні» альбо «Ферары».

— Прыстойныя «кары». Арганізуем. А як наконт яхты?

— Цалкам за. Мара маленства.

— Збудзецца мара. Рахунак у банку?

— Невычарпальны.

— Выпішам. Адзін такім багаццем будзеш цешыцца?

— З сям'ёю.

— Дакладней.

— Ну, як належыць: жонка, дачка, сын.

— Узорны татка! Чаго яшчэ пажадаеш, святы чалавек?

— Сам ведаеш, што да гэтага прыкладаецца: элегантны гардэроб, каштоўнасці...

— Няма праблем. За бразготкамі затрымкі не будзе. Спадзяюся, гэта ўсё? Добра. Цяпер пагаворым пра разлік. Плата прымаецца толькі адна — рука!

— Якая рука?

— Не якая, а чыя. Твая, чыя ж яшчэ! За сваю працу я хачу атрымаць тваю руку. Правую. Па-мойму, гэта справядліва.

— Руку? Правую? Ці не зашмат хочаш?

— А ты? Беверлі Хілз, віла, яхта, «Ламбарджыні»...

— Добра, — махнуў правай рукою пісьменнік, быццам загадзя развітваючыся з ёю. — Чорт з табою!

— А ты жартаўнік, — усміхнуўся задаволены д'ябал. — «Чорт з табою!» У нашым выпадку гучыць нават пікантна.

— Ведаю, — прыжмурыў вочы пісьменнік. — Але давай так: спачатку выконваеш жаданне, а пасля...

— А ты перастрахоўшчык, — пахітаў галавою д'ябал. — Я па драбязе не падманваю. Ты мяне крыўдзіш. Расчароўваеш. Слабы ты, аднак, чалавеча… Добра, закругляемся. Гэта ўсё?

— Усё, усё, каб цябе! Каб ты палаў зыркім полымем!

— Во гэта па-нашаму! — пацёр рукі д'ябал. — Зазлаваў! Завёўся. Баец! Будзе з цябе карысць. Малайчына. Напаследак хачу спытаць: ты ведаеш, што ў свеце самае ўсёмагутнае? Няпростае пытанне? Адразу не можаш адказаць? Падумай, напружся! Усё адно ў галаву нічога не прыходзіць? Дык знай — бясплатна, заўваж, даю інфармацыю: самы ўсёмагутны — час. Аднак жа гульня перамагае і яго. Гульня — гэта жыццё, правільней, тое, адкуль, з чаго яно бярэ пачатак. Калі-небудзь ты гэта зразумееш. А цяпер парадую цябе маім пажаданнем: да няхуткай сустрэчы! Бывай!

— Падлюга! Каб ты…

— Ты так кампліментамі асабліва не раскідайся, ды й накрычацца яшчэ паспееш. Беражы сілы, — сказаў д'ябал, абдаў пісьменніка пахам серы і знік.

Беверлі Хілз — гара. Вечар. Лёгкі брыз лена пагладжвае акіян.

«Бадай, мая яхта самая прыгожая, — салодка ўсміхнуўся пісьменнік, трымаючы руку над вачамі, як брыль ад сонца. — Славутая Беверлі Хілз! Самая багатая ў свеце. Не падкачалі і суседзі. Джэк Нікалсан, Марлон Брандо — зорная кампанія! Вясёлыя, непрадказальныя, загадкавыя. Нядаўна па-суседску ў непераможную “Аль-Катрас” зазірнуў. Для нас, пэўна, мясцінка. Аль Капонэ зноў жа… Трэба памянуць бедачыну. Жартую, — не мая тэма. Я больш

па філасофскай частцы. Таямніцы *таго* жыцця спасцігаю. Адчуваю, хутка дафіласофствуюся».

— Дарагая, часам не ведаеш, якой-такой дзіўнай стравою твой тоўсты кітаец частаваць нас увечары будзе? — павярнуў пісьменнік галаву да жонкі — яна якраз выходзіла з басейна.

— Ну, пачынаецца! — адказала слоўкам з таго, даўнейшага жыцця.

«Любая сэрцу фраза, — зноў усміхнуўся пісьменнік. — Добрая. Знаёмая. Родная».

— Можаш дарэмна не напружвацца: мы зробім усё, каб ты не адгадаў. Сюрпрыз! — засмяялася жонка, махнула рукою, апырскала, пяшчотна паглядзела — кахала.

«Весела, — зазначыў пісьменнік. — Асабліва мне. Ноччу прылятала першая ластаўка. Я ляжаў з жонкаю, удосталь нацешыўшыся яе — маім! — малочным целам, гладзіў падатлівае плячо, быў шчаслівы, спачываў. Яна папрасіла:

— Мілы, палашчы мне яшчэ грудзі, калі ласка.

Але-але, акурат гэтак і сказала!

Я замёр, жахнуўся: грудзі ўздрыгвалі, смочкі набухлі, варушыліся. Мая рука па-ранейшаму гладзіла жончына плячо. Аднекуль знутры ішоў голас: "Што ж ты думаў? Ведай, браток: калі адсякаюць руку, на яе месцы заўсёды вырастае другая, новая, чужая, нябачная — мая. А грудзі ў тваёй жонкі што трэба! Даўно гэтакіх пругкіх не гладзіў. Нават завёўся па старой памяці. Малайчына, цудоўны выбар"».

— Мілы, сёння мы з кітайцам гатуем табе нешта адмысловае, — перапыніла голас каханая. — За такую ноч грэх не аддзячыць. Так ты мяне ніколі не лашчыў! Я ўзлятала і лунала, падала ў бездань і зноў вярталася ў нябёсы! І так бясконца, бясконца,

вечна… Як я ўдзячна табе, мілы! Як кахаю цябе! Якая шчаслівая! Дурніца! Уяўляеш, хачу зноў нарадзіць табе малое.

«Смяецца, — жахнуўся пісьменнік. — “Я шчаслівая… Хачу зноў… Хачу нарадзіць…” Ад каго? Ад д’ябла?! Ад сатаны?! Жах! Рука не мая! Дзіця — не маё. Можа, і я — не я? Не! Лухта! Часовае вар’яцтва! Вынік скачка з гразі ў князі! Прыехалі!.. Стоп! Не ныць! Не паддавацца! Працаваць! — загадаў сабе. — Пісаць і пісаць, аддаваць даўгі. З кашмарамі пасля разбяруся. У “Нью-Йоркер” абяцаў даслаць апавяданне сёння ўвечары. Запэўніў, што абавязкова атрымаюць. Працаваць і яшчэ раз працаваць! Не кіснуць! Не расслабляцца! Выканаць абяцанне!»

Пісьменнік сеў за камп’ютэр, пачаў дыктаваць. Разумнай машыне рука не патрэбна. Машына паслухмяна выводзіла на дысплеі надыктаваны тэкст. Гаварылася-пісалася лёгка, натхнёна, хутка. «Эфект перамены месца? — спытаў сам сябе. — Можа быць. Хоць у гэтым плюс».

Праз шэсць гадзін, пасля трох шліфовак-рэдагаванняў, пісьменнік націснуў клавішу друку. З прынтэра папаўзла папера з тэкстам. Прачытаў, каб праверыць, ці не падманным было адчуванне ўдачы. «Нармальна, — заспакоіў сябе. — Атрымалася».

Не марудзіў: час, нервы разбэрсаныя ўшчэнт, трэба паспець. Паслаў па электроннай пошце. Курыў, адганяючы дымам благія думкі, чакаў: абяцалі адказаць адразу. Праз дваццаць дзве хвіліны камп’ютэр даў знак: пошта, прыміце паведамленне.

Прыняў.

*Шаноўны пане... Вы, пэўна, памыліліся і даслалі не сваё апавяданне. Прыйшла нейкая графаманская лух-*

*та. Рука, без аніякіх сумненняў, не Ваша. Раім выклікаць спецыяліста па наладцы камп'ютэраў. Чакаем Вашых апавяданняў. Можа, ёсць працяг цыкла, які Вы друкавалі ў Германіі? З павагаю — рэдактар аддзела...*

«Што ж я такое паслаў? — пісьменнік скіраваў курсор на скрынку перадачы паведамленняў. Памылкі не было — файл той. Адкрыў, прачытаў першыя радкі. — Лухта! Суцэльная лухта! Нешта з галавою? Перагрэўся? Напэўна. Спякота неймаверная».

Адшмаргнуў шторы, пераключыў кандыцыянер на *hi cool*. Націснуў кнопку лямпы, што асвятляе клавіятуру. Угледзеўся ў чорна-сіні фон манітора. У думках разбегся, рыхтуючыся скочыць. Скочыў. Прадыктаваў першыя радкі. І далей, далей. Пайшло. Захапіла. Па другім крузе. Зноў хутка, лёгка. Хваляваўся, але спыніцца не мог. Паплыў. Адчуваў сябе ў роднай стыхіі.

Зайшла жонка:

— Мілы, ты хутка? Я ўся знемаглася. Чакаю не дачакаюся паўтору ўчарашняй казачнай ночы. Ты быў у ёй галоўны чараўнік.

«Зноў смяецца, — паглядзеў на жонку пісьменнік. — Шчаслівая. "Галоўны чараўнік!" Галоўны цяпер — не я!» — абурыўся, але жонцы адказаў мякка:

— Харошая мая, зараз дапішу і прыйду. Крыху засталося. Добра?

— Чакаю, чакаю, чакаю! Абяцай: калі раптам засну, дык абавязкова разбудзіш. Але пастараюся дачакацца. Кожная ноч з табою цяпер — як...

Жонка пайшла, і пісьменнік не пачуў яе апошніх слоў.

«Дзякуй Богу, час яшчэ ёсць, — выдыхнуў. — У “Йоркеры” будуць чакаць да поўначы. Пісаць! Тэрмінова! Не падвесці! Другі раз не пацвердзіць клас — самазабойства! Другі раз — не выпадковасць».

І пісьменнік зноў нагаворваў, жэстыкуляваў, шаптаў. Працавалася, як і раней, падазрона лёгка.

— І чорт з ім! — мацюкнуўся. — Ух ты, каго ўспомніў! — Спахмурнеў: — Ды не, то быў сон. Вядома ж, сон! Дом на Беверлі Хілз пасля трох гадоў паспяховай работы ў Еўропе я купіў сам. Гэта што — таксама сон?

Пісаць! Пісаць! Не адхіляцца!

Неўзабаве прадыктаваў фінальныя радкі. Канцоўка спадабалася: арыгінальная, нечаканая. «Нармальна, — сказаў сабе, як заўсёды. — Паглядзім, што адкажуць гэтым разам, паглядзім».

Адказ прыйшоў праз пяць хвілін:

*Шаноўны пане… Нам усё ж здаецца, што раніцай Вам неабходна выклікаць спецыяліста па камп’ютэрах. Зноў прыйшло нейкае глупства. Мяркуйце самі: ці ж магла Ваша рука напісаць такі банальны фінал? «І ў абдымках яны заснулі назаўсёды». Ваша рука напісала б нешта на галаву вышэйшае за гэтую бязглуздзіцу. Успомнім, напрыклад, фінал з «Траіх»: адразу ж пасля агляду самазабойства мужа жонка бяжыць на сустрэчу да палюбоўніка. Разумее, што ён хворы на галаву, вар’ят, нават горш — садыст, звер, але не ў сілах стрымаць сваю страсць.*

*«Яна не ведала, што, аддаляючыся ад морга, няўхільна набліжаецца да яго. Не, да мяне! Да нас! І яна кінулася бегчы.*

*Хутчэй! Звер чакае яе!*

*І яна пабегла па прамой, якая была кругам.*

*Яна не ведала, што рэшту ночы правядзе побач са мною.*

*Яна не ведала.*

*Let it be!*

*— Прыгожая пара, — усміхнуўся патолагаанатам, уваходзячы скальпелем у маё цела.*

*Анатаміраваць каханую яму не было патрэбы».*

*Вось гэта — Вы! Тут усё напісана Вашай рукою! Чыста. Дынамічна. Экспрэсіўна. Двайны, нават трайны сэнс і — нічога лішняга. Ваша рука. Ваша…*

*Яшчэ раз раім звярнуцца ў бліжэйшую фірму па рамонце камп'ютэраў. З пашанаю — рэдактар аддзела…*

— Сапраўды перагрэўся, — паклаў руку на лоб пісьменнік. — Хопіць! На сёння — усё. Спаць! Адпачываць. Раніцаю пабачым, што да чаго. Свежая галава — палова поспеху.

Ён прайшоў у спальню. Жонка, бессаромна голая, ляжала пад кандыцыянерам. «Дзіўна, — сцепануў плячыма. — Заўсёды баялася холаду, не выносіла тэмпературы ніжэй за трыццаць і ніколі не раскрывалася. А тут ляжыць сабе ў плыні халоднага паветра і ўсміхаецца». Па жончыных грудзях беглі-перакочваліся хвалепадобныя дрыжыкі. Пісьменнік замёр. Цела прыўзнялося, выгнулася, затрымцела, зноў апусцілася на пасцель. Жонка прашаптала:

— Яшчэ! Але, але, так! О-о, як мне хораша!

«Перапрацаваўся! — уздыхнуў пісьменнік. — Два апавяданні за дзень! Сапраўды можна звар'яцець! Спаць! Зараз жа! Інакш — дурдом, міраж, блюзнерства! Пачуецца ж такое».

Лёг побач з жонкаю. Асцярожна паклаў руку на яе грудзі. З-пад далоні выслізнула нешта валасатае, потнае, гідкае:

— Уцякаю, уцякаю! — дыхнуў на пісьменніка жахам знаёмы голас, падмацаваны пахам серы. —

Ты гаспадар, ты! Не хвалюйся. Грунт я падрыхтаваў. Магу, калі хочаш, і далей за цябе папрацаваць. Толькі скажы…

— Галюцынацыі… Усё! Я паралізаваны, дабіты, — прашаптаў пісьменнік і адключыўся.

— Мой муж — самы лепшы на свеце! — разбудзіў яго жончын пацалунак. — Ноччу ты так салодка ўвайшоў у мяне, што, здавалася, сэрца разарвецца ад шчасця. Ты волат! Супер! Як я кахаю цябе! Да бяспамяцтва кахаю…

«Чуеш, што гаворыць? “Да бяспамяцтва!” Калі ў цябе такое было?! А мяне праганяў!» — ажылі ў галаве пісьменніка кавалкі фраз.

Ён выплываў са сну з выразным усведамленнем, што наперадзе яго чакае шмат цікавага. «Вінчэстэр не дарэмна купіў»,— падумалася ў адказ на сваё ж пытанне пра тое, што будзе рабіць далей.

— Так! Змагацца, не апускаць рук! — загадаў сабе. — Біцца да канца.

Зачыніўся ў кабінеце. Пасля хвіліннай паўзы патэлефанаваў адвакату:

— Дружа, не ў службу, кінь усе справы і знайдзі сур’ёзную фірму па пратэзаванні. Ніяк не прывыкну жыць без рукі. Хоць дзеравяку якую прычапіць. Не, дзеравяку, вядома, не трэба. Даведайся, што ў гэтай галіне ёсць найлепшае, і паведамі. Тэлефануй. Чакаю.

Чакаць давялося вечнасць — трыццаць неймаверна доўгіх хвілін.

Званок.

Адвакат гаварыў, як у гарачцы:

— Не ведаю, можа, дарэмна мітусіўся. У найлепшага і цана адпаведная. Два мільёны каштуе апошняе дасягненне канструктарска-камп’ютэрнай думкі.

— Пляваць на грошы! — перабіў яго пісьменнік. — Сёння ж аплаці!

— Гэта можаце зрабіць толькі Вы асабіста. Па ўмовах дагавора, каб зняць такую суму, патрэбен Ваш подпіс.

«Малайчына д’ябал: тры — нуль! — паклаў трубку пісьменнік. — Хвацка гуляеш! У адны вароты. Добра, дастаў! Што ж, пагуляю і я! Толькі — як цябе знайсці, каб ударыць у адказ? Дзе шукаць? Думай, думай! — заклікала свядомасць. — Ратуй сваё становішча, сям’ю, жыццё!

Галоўнае — пераадолець бар’ер. Прарыў мажлівы толькі праз апавяданне. Але… такія апавяданні, відаць, пішуцца адно праваю рукою, якой няма. Інакш не атрымліваецца. Дзе ж узяць руку? Замкнёнае кола. Няма выйсця! Тупік! Фініш! Канец! Прыплылі!

Стоп! Заткніся! Размазня! Слабак! Выйсце ёсць заўсёды!

Думай, думай, думай...

Ціха!

Ёсць! Вядома ж, ёсць!

Ёсць адно апавяданне. Невядомае. Пра жонку. Яна прасіла яго не публікаваць. Занадта інтымнае. Так яно і засталося ненадрукаваным. Як я забыўся! Зараз жа начытаю камп’ютэру. Можа, сыдзе».

Пісьменнік прабег вачыма апошнія радкі. Узмакрэлы, паглядзеў на кандыцыянер: працуе. Пачуў знаёмы голас:

— Махлярства, мой дружа! Пайшоў на падман? Навучыўся дзейнічаць у абход?! Давай, камбінатар, што ў цябе там?

— Прапанова. Свежая. Я хачу ўвесці новыя, больш жорсткія і цікавыя правілы гульні.

— Больш цікавыя, кажаш? Давай, прыдумвай, спрабуй падмануць бацьку. Хоць, як мне здавалася, нам і так з табою сумаваць не даводзіцца. Пра вінчэстэр, скажам, успомніў. Гэта ты дарэмна. Не той метад.

— Разумею, згодзен, але я пра іншае. Унясём дадатковыя ўмовы. Ты шмат мне даў. А цяпер, наадварот, — што-небудзь адбяры.

— Што, напрыклад? І навошта? Які ў гэтым сэнс? Нешта не падабаецца мне тваё хітраванства…

— Мне таксама далёка не ўсё падабаецца. Зрабі так, каб у мяне не стала самых родных людзей — бацькоў!

— І што пасля?

— Пасля — новая гульня.

«Згаджайся, згаджайся! — заклінаў пісьменнік д'ябла. — Не будзе бацькоў — не будзе мяне і, такім чынам, скончацца ўсе гэтыя жахлівыя кашмары».

— Дык тут і думаць няма чаго, — адказаў д'ябал, павесялеўшы, — згодны. Гэтай прапановы я чакаў дужа доўга. Можна сказаць — усё антыжыццё!

«Ён чакаў, каб мяне не стала? — збянтэжыўся пісьменнік. — Нешта тут не так. Ды чорт з ім! Галоўнае — вырвацца!»

«Не, чорт — з табою! — ухмыльнуўся д'ябал. — Усё тут акурат правільна. А што да таго, каб вырвацца, дык — пра гэта ўсе мараць».

Ён быў у экстазе, у стане трызнення. Ён спаў сам з сабою. На ім ляжаў ён — д'ябал.

— А-а-х, — стагнаў у аргазме. Адчуў, што ўключыўся, і з прыдыханнем прашаптаў: — Я ж табе казаў: добрая здзелка, выгадная. Няма продкаў — няма цябе! Хітра прыдумаў. Але так — не бывае.

Лёсам табе наканавана быць у адным біяполі з жонкаю. Паколькі яе няма — ты стаў ёю. Ты — у ёй. Гэта твой лёс! Затое я цяпер — ты! Прыемныя навіны, праўда? Я — ты. Твая жонка на Беверлі Хілз з табою-мною-д’яблам! Не плач! Добрыя навіны, добрыя. Ты ведаеш, а некалі ж гэтак і было! Я толькі вярнуўся ў сваё цела. Вось так! Дзякую. Шчыра! Very well! Каб ты ведаў, як мне надакучыла бадзяцца па Беверлі Хілз!

# ГЭТА НЕ БАЛЮЧА

## I

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ: «Ты — нябожчык!» Як бы вы самі ўспрынялі такі пасаж: «Малады чалавек, галубчык, хацеў бы папярэдзіць: жыць вам засталося не больш за год! Не больш! І не глядзіце на мяне як на вар'ята, і не спрабуйце раскрыць рот і пра нешта спытаць. Я не ведаю, колькі дакладна часу адвёў вам Усявышні — хвіліну, гадзіну, дзень ці месяц, але пэўна — не болей як год!»

Навошта, адкуль нарадзілася, узнікла, усялілася ў мяне здольнасць прадчуваць смерць? Не сваю — чужую. Як вызначаю, што менавіта гэты няшчасны альбо няшчасная — з тых, каму засталося жыць меней за год? Не ведаю.

Іду па шырокай шматлюднай вуліцы і здзіўляюся: асуджаных не так ужо й мала! Яны быццам апякаюцца аб мой позірк, кідаюцца ад мяне, паскараюць крок, калі не бягуць. Але куды б яны ні кіраваліся, куды б ні ішлі, ні беглі, мне вядомы іх фінал, дакладней — блізкая яго непазбежнасць.

Чым тыя, каму засталося жыць меней за год, адрозніваюцца ад іншых? Як распазнаю іх? Хто надзяліў мяне гэтым жудасным самазабойчым дарам? Хто?

## II

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Загаварыў ён. Амаль закрычаў. Нечакана, з налёту. Агідна. Так, магчыма, рыпелі веснічкі ў Юдавым доме. Разам з голасам з роту вырваўся смурод мярцвячыны.

— А, новенькі, цёпленькі! Яшчэ не адукаваны? Захапляешся вялікім, невядома кім дадзеным табе ўсёмагутным дарам? Давай, давай, кайфуй, цешся! Першыя дні ўсе на сёмым небе лятаюць. Язык, напэўна, свярбіць? Так і хочацца пахваліцца, ударыць у званы? Угадаў? Прызнавайся, не маўчы. Хвалюешся? Не бойся. І не спадзявайся што-небудзь змяніць. Усё па плане. Увесь свет па плане. Здзіўлены? А гэта праўда, павер. Выпадковасцяў не бывае. Ведай: пад канец падарожжа і ты будзеш кідацца ад навічкоў. Не нейкім там няшчасным меней за год засталося, а акурат нам — мне і табе. Гэта значыць, ты — наш, той, хто ўвайшоў у круг, пераступіў мяжу, трапіў на адваротны бок. Таму ты і ёсць пасвячоны. І не толькі ты! Усе, каму засталося меней за год, ведаюць праўду пра сябе. Ведаюць, але маўчаць. І рота ніколі не разявяць. Пад страшнымі катаваннямі не прызнаюцца. Дзеля сваіх блізкіх і дзеля саміх сябе. Ёсць закон, правіла, прынцып: балбатун памірае датэрмінова, раней прызначанага часу. Памірае ў пакутах, у полымі, у пекле. А хто хоча трапіць у пекла? Ты?

Упамінанне пра пекла змусіла мяне здрыгануцца ад жахлівай фантастычнай здагадкі: я пазнаю тых, каму засталося жыць меней за год, таму, што стаў для іх сваім. Я свой, такі самы, як яны, ужо калею, амаль нябожчык. І ніхто з іх не гаворыць пра гэта, не крычыць. Не хочуць, баяцца адыходзіць раней.

Тым болей — у пекла. Але то яны не хочуць — нармальныя, звычайныя, якіх бальшыня. Мне ж карта па жыцці выпала іншая.

— Я! А хіба ты — не хочаш?! — адказаў пытаннем на пытанне. Ён анямеў ад такога нахабства. Яшчэ ў маленстве я засвоіў: нечаканасць — галоўнае, з чаго складаецца перамога. — Хіба не прагнеш помсты? Не імкнешся да справядлівасці? Не? Хочаш спакойна дажываць — і ўсё? Навошта? Не ведаеш? А я ведаю! Ёсць мэта! Найвышэйшая! Галоўная! Самая першая! Аснова, падмурак, сэнс жыцця…

— Жыцця? — ачуўся крыкун.— Ну не! З жыццём у цябе зараз пачнуцца праблемы! Не будзе ў цябе ніякага жыцця!

Ён пайшоў на мяне. Чамусьці я гэтага чакаў.

## III

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Але мог дзейнічаць. І першы схапіў яго за горла. Што будзе, калі ён памрэ раней часу і не праз свой доўгі язык, а ад маёй рукі? Я заб’ю злога вестуна і закрычу, выкрыю сябе: «Людзі, мне засталося жыць меней як год! Таму прызнаюся: яшчэ за год да смерці асуджаныя знаюць усё, але маўчаць!» Пасля такога самавыкрыцця, думаю, пекла мне забяспечана. А гэта — галоўнае, тое, да чаго я імкнуся: трапіць да юдаў, у апраметную. Знайсці там забойцу бацькі! Вось мэта майго жыцця! Кроў — за кроў, смерць — за смерць! Але смерць за смерць не атрымліваецца. Я спазніўся. Цягнік пяцідзесятых пайшоў. Застаецца кроў — за кроў, кара — за кару, пакуты — за пакуты.

Пальцы сціснулі кволае горла. Яму, відаць, і сапраўды заставалася не шмат часу. Ён быў вышэй-

шы за мяне, з выгляду дужэйшы, але дарма спрабаваў адарваць ад сябе мае рукі — нумар з абаронаю не прайшоў. Пазногці ўсё глыбей упіваліся ў ягоную шыю. Правы ўказальны намацаў кадык, падчапіў яго, націснуў — і вочы высокага палезлі з вачніц. Жоўтыя з зялёным ваніты змяёй выслізнулі з яго рота. Я адпусціў кадык, і крыкун абвяў.

Цяпер мара збудзецца. Я — забойца ды плюс яшчэ выдаў сябе. Усё зроблена з запасам. Павінен трапіць туды, куды імкнуўся. Заслужыў, дамогся, маю права. Ды што там права — я абавязаны сустрэцца з забойцам бацькі. Дзякуй табе, крыкун, дзякуй!

## IV

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Нешта ляцела, вішчэла, набліжалася да мяне. Смерць? Зноў? Адскочыў, прыпаў да зямлі, замёр. Тое вісклівае «нешта» прамахнулася, але паспела зрэагаваць, згрупавацца, перакаціцца, устаць. Загарлапаніла, залямантавала. Яшчэ адзін крыкун?

— Свалата! Цяпер табе засталося меней за гадзіну. Ты пазбавіў мяне асалоды назіраць, сачыць за табою. Не хацелася забіваць цябе адразу. Думаў — пагуляем, пабегаем, падужаемся. Але ты не пакінуў мне выбару. Ведаеш, хто ты? Нябожчык? Не! Ты — мой духоўны двайнік. Я той, каму засталося меней як месяц. Ты прыйшоў замяніць мяне. Але, выбачай, гэтае права трэба заваяваць. Калі я заб’ю цябе, дык зноў стану тым, каму меней за год. Бачыш, я не хачу з наскоку. Няхай усё рашае сумленны паядынак. Такі закон. Уставай, кожная хвіліна дарагая. Цябе павінен пакараць я, а не Усявышні. Мне трэба паспець да ягонага прыходу.

«Паядынак дык паядынак! — прыкідваў я. — Гэтага за горла не схопіш — галава адразу пераходзіць у плечы, валасы густыя, доўгія». Я схапіў яго за валасы. Пяцярнёю. Тузануў уніз. «Ну, гад!» — заехаў нагою яму ў жывот. Ён ірвануўся, вызваліўся, адскочыў, завішчэў:

— Паскуда! Я прыкончу цябе! Ты будзеш трэці. І тады я вярнуся на той бок.

— Не вернешся! — я кінуўся ўсім целам яму ў ногі. Інерцыя, памножаная на лютасць, памагла зваліць долу аграмадную тушу. Дабраўся да горла. Душыў. Галоўнае — душыць! Гэта ў мяне добра атрымліваецца. Пальцы сціснуліся. Цяпер разумею, чаму так цяжка адарваць бульдога ад шыі ахвяры.

## V

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Я ўвайшоў у ноч, у холад, у нікуды, у пекла. Я знарок апынуўся тут першым. Супраць правілаў. Супраць усіх. Я адзін. Мяне не павінна быць. Я — выпадковасць, якой не бывае.

Вочы звыкліся з цемраю і ўлавілі ўдалечыні мігатлівы агеньчык. Здаецца, цяпельца гарэла там сінім полымем. Хацелася падысці, але нешта падказвала: не спяшайся, засвяціцца заўсёды паспееш. Галоўнае — знайсці забойцу, учыніць яму допыт. Марудна, спакваля пілаваць-ірваць ірада на часткі. Катаваць, катаваць, катаваць! Кожны падлюга павінен ведаць: за свае паскудныя справы — адкажа. Рана ці позна адчуе, як варыцца ў катле. Рана ці позна па ягоным горле пальецца расплаўлены метал. Рана ці позна з яго здзяруць скуру, вырвуць ягоны адростак. Ад такіх не павінна заставацца нашчадкаў. Такіх трэба вынішчаць пад корань. Дзе-

ля гэтага я сышоў у пекла. Пара пачынаць селекцыю. Пара.

І рушыў на сіні агеньчык.

## VI

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Чацвёртыя суткі, брудны і потны, я поўзаў па камянях. Агеньчык то набліжаўся, то аддаляўся. Нейкім цудам я дапяў да яго — падмануўшы, зайшоўшы з тылу. Сіняе святло струменіла з пячоры. Я ступіў туды. Так, іх катавалі ў аграмадных пячорах-норах. Яны паразвучваліся гаварыць. Мычэлі, плакалі, малілі, душыліся сваёю крывёю і... не паміралі.

Мне пашчасціла застацца незаўважаным, хоць было імгненне, калі ледзь не выдаў сябе. Убачыў бацькавага забойцу. Ён ляжаў, распяты на каменным доле. Я ведаў, што так кладуць асабліва старанных, выслужлівых катаў. У роце юды тырчала лейка. Выканаўца нёс коўш з расплаўленай смалою. Коўш разбураў мае планы. Я хацеў, каб падлюга загаварыў перад знікненнем. Як перашкодзіць выканаўцу? І з чаго гэта ён спыніўся, прыслухоўваецца. Няўжо ўчуў мяне? Ціха! Ляжаць, не варушыцца, зліцца з зямлёю, з пячораю, з пеклам. Выканаўца азіраўся. Накіроўваецца да мяне? Не, павярнуў да выхада. Смала ў ягоным каўшы астыла ці што?

Час ішоў. Імгненні адлічвала сэрца. Выканаўца не вяртаўся. Можа, узяў перадышку? Я асмялеў, падняўся, зняў з пояса біклажку з вадкасцю. Гэта была не простая вадкасць. Ад яе малекулы распадаюцца на атамы. Яна ператварае жывое ў хімію, у перыядычную табліцу, у нішто.

Пякельнай вадкасці не пашкадаваў. Выліў на ногі. Не спяшаўся. Ён, як і ўсе, толькі мычэў і з мальбою вылупліваў на мяне вочы. Ён прайшоў усе кругі пекла і ўжо нічому не здзіўляўся. Хацеў знікнуць, растаць, позіркам маліў пра гэта. І я дапамог яму. Дапамог бацькаваму забойцу. Нашы жаданні дзіўным чынам супалі. Такое бывае. У пекле.

— Раскажы, як катаваў бацьку, — падступіўся да мэты свайго візіту. — Што шэпчаш? Не катаваў? Дык гэта ён па сваёй ахвоце падпісаў відавочную хлусню на сябе? Не? Білі? Ужо «мы»? Яшчэ нехта, не ты адзін? Збіццё да смерці — гэта, па-твойму, не катаванне?

Я даў сабе волю — стаў асыпаць юду праклянцыямі. Апамятаўся, калі той пачаў раставаць. Раставарыліся ступні, калені, жывот, грудзі. Апошняй рассыпалася галава.

Гэтага моманту я чакаў. Гэта быў галоўны момант. Яго нельга было правароніць. Ад цела юды адлучалася душа. Яна паляцела б шукаць сабе новы прытулак. Такога я не мог дапусціць.

Душа ўсплыла і збіралася змыцца. Я не спазніўся, падпаліў гадзючае воблака — шпурнуў у яго палаючае палена. Воблака ўспыхнула і, перш чым знікнуць, абпаліла мяне. Гэта было апошняе паскудства, якое ўчыніў забойца.

## VII

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Я ўзляцеў, праваліўся, зноў узнік, прачнуўся — спаў. Расплюшчыў вочы. Дома. Чаму? Як вярнуўся? Што зрабіў апошняе? Спаліў гада? Гэта быў сон? Не ведаю. Што было яшчэ? Два забойствы? Іра д быў трэці? Я забіў трох і вярнуўся на

гэты бок? Пераступіў мяжу? Шкада! Але сон гэта ці не сон?

— О, мы зрабілі ласку прачнуцца, — зазірнула ў спальню каханая. Падышла, выцерла мой узмакрэлы твар. Пасміхнулася: — Харошы ты мой! — Памацала, ці не развязаліся за ноч вяроўкі. Не развязаліся, да крыві ўпіліся ў мае запясці.

— Праклінаю цябе!

Каханая прашаптала:

— Ты, мой дарагі, — трэці. Мы абое робім добрую справу. Ты адпомсціў за бацьку, я — адпомшчу за дзеда!

Нож увайшоў мне проста ў сэрца. Зусім не балюча, калі ў вас разрываецца сэрца. Цяпер я гэта ведаю…

## ВЯРТАННЕ

Яна зайшла ў ягоны пакой. Тут ён працаваў. Днём і ноччу ледзь чутна гудзеў камп'ютар, нястомна пастуквала клавіятура. Ён працаваў да знямогі. Спяшаўся дагнаць час, лёс, жыццё. Тут нараджаліся ягоныя героі. Адкрытыя, смелыя, гордыя, нязломныя. Не здаваўся і ён. Змагаўся, пакуль не загінуў.

Ён загінуў, але засталіся героі ягоных апавяданняў. Цяпер яны жывуць за яго. Памагаюць трымацца ёй. «Ты не адышоў, ты побач. Ты, я і твае героі. Мы разам», — як замову шэпча яна, калі сядае перад камп'ютарам.

Сёння яна зноў зайшла ў ягоны пакой. Як заўсёды, дзень праляцеў непрыкметна. Цямнела.

— Вось і пабачыліся, — уздыхнула, прачытаўшы фінал ягонага апошняга апавядання. Навяла курсор на кнопку завяршэння работы.

Слёзы каціліся па твары.

— Памажы! — сарвалася на крык. — Памажы паяднацца з табою. Заўтра пабачаць свет твае апавяданні. Іхнія героі пойдуць у людзі. Я зрабіла ўсё, што магла. Цяпер — вольная! Я прыйду да цябе. Толькі памажы.

Гарбаты карлік з яйкападобнай галавою, зрослымі бровамі і маленькімі, быццам дзіцячымі, пальчыкамі набраў на клавіятуры:

*Тата Д'ябал! На месца прыбыў, але трапіў у*

*пастку. Героі апавяданняў заблакавалі пакой пісьменніка. Прапануюць абмен — маё жыццё на жыццё аўтара. Не ведаю, што рабіць. Чакаю дапамогі. Прашу адказаць як мага хутчэй.*

*Ваш Звыродны.*

Д'ябал адазваўся адразу:

*Падвёў ты мяне, сынок, падвёў. Хоць, што тут зробіш: маладосць, нявопытнасць. Зразумелая сітуацыя. Давядзецца напружыцца, трэба ж неяк выцягнуць цябе з людскога балота. Цяпер — аб справе. Скажы блакіратарам праўду: аўтара вярнуць немажліва. Яны — ажылі, значыць, іхні стваральнік ужо ў гісторыі. Няхай зробяць сваё — заб'юць цябе. А я буду чакаць твайго вяртання. Не хвалюйся — гэта не апошняя спроба.*

Так і здарылася. Адзін з герояў уварваўся ў пакой пісьменніка і выкінуў вырадка праз акно. Той не разбіўся, а, нібы свярдзёлак, увайшоў у зямлю.

Барацьба пачалася спачатку. Першая спроба аказалася для ўсіх няўдалай.

Яна зноў у ягоным пакоі. Гэтым разам камп'ютар уключыўся і загрузіўся сам.

— Што рабіць? — глядзела, як ажывае дысплей. — З вырадкам нічога не атрымалася, але, мажліва, ёсць іншыя варыянты? Памажы, зусім знебылася без цябе. Героі адзін за адным ідуць у жыццё, і хутка я застануся адна.

*Не хвалюйся!* — адказаў дысплей. — *Усё ідзе па плане. Адзін з герояў ужо не наш, але гэта толькі дапаможа.*

— Я веру табе. Спадзяюся, усё будзе, як ты за-

думаў, — з палёгкай выдыхнула яна.

*Я таксама,* — засвяцілася на дысплеі, і праз секунду манітор згаснуў.

Далейшыя падзеі не задоўжыліся.

«Малайчына д'ябал, добра прыдумаў, — усміхнуўся, гледзячы на пісьменніцкую ўдаву, вырадак. Ён толькі-толькі з'явіўся і адразу ж адчуў ейны пяшчотны радасны погляд. — Варта прыняць аблічча аднаго з герояў — і зусім іншы вынік. Татка — разумны».

Вынік быў і сапраўды іншы, але не той, пра які карлік думаў.

Ператвараючы свайго вырадка ў героя, д'ябал не ўлічыў, што са зменаю абалонкі мяняецца і нутро. Нутро ж яе стварае. Карлік растварыўся ў героі. Здзейсніўся план пісьменніка. Герой быў часткаю яго самога, першаю прыступкаю пранікнення, пачаткам вяртання.

— Ты ўжо тут? — спытала яна, не верачы сваім вачам.

— Добрага дня, дарагая! — ажыў пісьменнік. — Ну і як табе спадабалася наша апошняе апавяданне?

## Мера кахання

Каханне не бывае трошкі ці занадта шмат. Альбо ты — палаеш, нервуешся, радуешся, пакутуеш, летуценіш, узлятаеш на неба і падаеш у бездань. Альбо вакол цябе ўсё — шэрае, чужое, мёртвае.

Каханне не бывае трошкі ці занадта шмат...

## Садок

Мы былі суседзямі. Яна — мілая, прыгожая, добрая. І я — шляхетны яе кавалер. Часам па-суседску яна запрашала мяне ў госці ў свой ложак. Мы цёрліся насамі, дыхалі адно ў аднаго — і былі шчаслівыя.

Больш за ўсё мы баяліся вечара. Увечары нас разлучалі. Яе забіралі ў пяць, і я яшчэ цэлую гадзіну плакаў за альтанкаю ў пясочніцы, пакуль не забіралі і мяне.

А наперадзе было ўсё жыццё. У кожнага — сваё.

Я не памятаю яе вачэй, твару, усмешкі.

О, як я сумую па ёй!

## Яны не ведалі

Ён глядзеў, глядзеў і не вытрымаў — торкнуўся ёй пад спадніцу, абняў ногі. «Цвёрдыя, як дрэвы»; — прыціх.

Надзіва, яна не закрычала, не адскочыла. Злавіла сябе на тым, што хацела гэтага, думала — ашалела. Замерла, уздыхнула, прыцiснула яго да сябе:

— Так добра?

— Ага, — вымавіў ён ледзь чутна. — Вельмі.

— Кахаеш мяне?

— Больш за ўсіх на свеце! Не праганяй!

— Не буду.

Ён прыцiснуўся да яе ног-дрэваў мацней. Яна праз спадніцу гладзіла яго па галаве.

Яны не ведалі, што ніколі ў жыцці не зазнаюць большай, чым у гэтыя хвіліны, асалоды.

## Мяжа магчымасцяў

Мяжы сваіх магчымасцяў не ведае ніхто.

Канчаюцца трэція суткі за рулём. Адолена чацвёртая тысяча кіламетраў. Без адпачынку. Запраўка — ноччу ў дальнабойшчыкаў: паўсюль — шакалы.

Ён змагаўся. Доўга. Але стаміўся, здаўся, і сон, здавалася, ужо забраў яго ў свой ілюзорны свет. Апошнім напружаннем волі ён прымусіў сябе азірнуцца, і — о, цуд! Бясконцую стомленасць, жаданне заснуць, забыцца — як рукою зняло: на заднім сядзенні ўсміхаліся бялявыя хлопчык і дзяўчынка, і ён ажыў. Зноў, у соты раз.

Няма мяжы!

Мяжы сваіх магчымасцяў не ведае ніхто!

## Не прасачыліся

Яны стаялі на мосце, узіраючыся ў прадонную цемру Свіслачы. Ведалі: там смерць. На душы было спакойна: нягледзячы ні на што, яны застануцца разам. Утраіх: ён, яна і дзіця, што зараджалася ў ёй. Гэта было адзінае выйсце, адзіная для іх магчымасць не разлучацца. Ёй загадалі рыхтавацца да ачышчэння — так яны *гэта* называлі, а на яго завялі справу аб спакушэнні непаўналетняй. Яе бацька, генерал-чэкіст, пакляўся: «Ніколі ў мой род не прасочацца жабракі-паэты».

Не прасачыліся.

Двое — не, трое! — скочылі з моста, абдымаючы цяжкія камяні.

Не дачакацца чэкісту працягу роду.

## Адно цэлае

Ён не стрымаўся, выцяў яе: здрадзіла, прамяняла, усё жыццё пусціла пад адхон.

Яна адчула палёгку: ён не сышоў адразу, не кінуў, хоча яе пакараць, заглушыць свой боль яе болем. Што ж, няхай будзе так. Галоўнае, каб ён застаўся з ёю, застаўся побач. Яна болей не насмеліцца. Ніколі! Барані Божа! Яна толькі паспрабавала, не са злосці, з цікаўнасці. І дарма! Апяклася. Але яна вытрывае, адолее любыя выпрабаванні, каб застацца з ім.

Яны ж — адно цэлае.

Ён думаў: пакрыўдзіў, не стрымаўся. Так, не стрымаўся, не змог, здаўся, зламаўся. Напляваў на пражытыя гады. А цяпер што? Дзе выйсце? Ці магчыма выправіць сітуацыю, вярнуць каханую?

Стоп! Не нышь! Шукаць выйсце! Выйсце ёсць заўсёды! Ён павінен вярнуцца на кругі свае. Даравaць, забыць фатальную выпадковасць, выразаць з памяці дакучлівы нарыў. Супакоіць сябе і яе. Застацца з ёю.

Яны ж — адно цэлае.

## Ігар Елянёў
*Рэквіем*

Ёлкі-палкі, Ёлкін-Палкін... Тваё прозвішча было Елянёў, Ігар Елянёў, але я перайменаваў цябе ў Ёлкіна-Палкіна. Атрымалася весялей і, як ні круці, — усё ў яблычак: «Ах, змей, Ёлкін-Палкін!», «А ты жартаўнік, Ёлкін-Палкін!», «Кажаш, па конях, Ёлкін-Палкін?!», «Ух і адчайны ты, Ёлкін-Палкін!». Прычым абавязкова з клічнікам і толькі на біс! Ты заўсёды ўсё рабіў на біс! Спяваў, іграў, кахаў...

Ты знаўся з найлепшымі жанчынамі, не адну цнатлівіцу ўвёў у свет салодкай юрлівасці. Ростам крыху вышэй за сярэдні, падцягнуты, з прыгожым, быццам вытачаным тварам, у якім угадваўся аддалены намёк на азіяцкае, дакладней, японскае паходжанне.

Ты пачынаў, калі яшчэ біліся на танцпляцоўках, — у сярэдзіне сямідзесятых. Іграў у ВІА, шалёна лупіў па барабанах і спяваў з абавязковым «іхнім» пранонсам фогертаўскае «Хэй, ту найт!»...

Дзяўчаткі дрыжэлі, вар’яцелі, а ты, адыграўшы хіт Абадзінскага «После буквы эл...», які завяршаў праграму, кідаў:

— Едзем усе, якія праблемы!

У цябе ніколі не было праблем. Ратавалі дарагія рэчы, якія ты насіў з выкшталцонай абыякавасцю. На іміджы не эканоміў, хоць у той час у нас ніхто як след не ведаў гэтага слова. За «стол» у рэстаране мог разлічыцца французскім пінжаком з «тоўстага» велюру, таксісту не пашкадаваць «лакостаўскай» кашулі, дзяўчыне падарыць ноч бязмежнага, на мяжы выжывання, кахання, ноч, якую яна не забудзе ніколі!

Ніколі!

Так!

Паміраў ты адзін. Раніцай адчуў Яе набліжэнне. Успрыняў як належнае. Ведаў, здагадваўся — адвесці ці хоць замарудзіць Яе прыход можа толькі спакой. Прылёг, бярог сілы. Але не ляжалася. Ты ўстаў, падзіцячы наіўна вырашыўшы, што яшчэ не позна, што можна выратавацца, трэба толькі выпіць паболей малака, вельмі многа, ачысціць арганізм ад алкагольнай заразы. Але арганізм сказаў — не! Арганізм закрычаў — не! Арганізм помсціў, забіваў, смяяўся. Цябе ванітавала, ванітавала, ванітавала. І ты здаўся, зноў лёг...

Напярэдадні сябры зноў напаілі цябе да непрытомнасці. Ужо дзесяць гадоў яны вось гэтак прыходзілі табе на падмогу, давалі мажлівасць забыцца, а ты разлічваўся з імі, выклікаючы гурму дзяўчат — былых сваіх паклонніц. Яны, праўда, даўно ўжо не дзяўчаты, а замужнія жанчыны, многія ўжо мамы, але сум па пражытым на досвітку жыцця каханні прымушаў іх страчваць розум і імчаць на твой кліч. Яны прыбягалі, нягледзячы ні на якія перашкоды і не задумваючыся ні пра што, забываючыся на мужоў, дзяцей...

Ты памёр у трыццаць восем. Не, не памёр — загінуў, загнаў сябе. Усё жыццё ты сябе гнаў: наперад, наперад, наперад! І мы неслі труну з тваім целам пад гіпнатычнае: наперад, наперад, наперад...

Сёння гадавіна тваёй смерці. І сёння памерла тваё першае і самае адданае каханне, папраўдзе, забіла сябе — засілілася. Вы рассталіся, калі ты быў юны і нястомны, а яна вярталася ад цябе дамоў прытанцоўваючы, і рабацяга, што дажджлівым красавіцкім ранкам спяшаўся на завод, шчыпаў сябе: ці не сплю?

Сябар Ёлкін-Палкін, ты спазнаў найлепшых жанчын, але ёсць кола, ёсць ты і яна, тваё першае каханне. І цяпер вы будзеце разам, назаўжды. Кола замкнулася. Няхай зямля вам будзе пухам...

## Ёсць — не будзе

Яе не было, няма і не будзе. Той, самай прыгожай, жаданай, каханай, дарагой, адзінай, самай блізкай, роднай для мяне жанчыны, — цябе. Ты не знікнеш, таму што не з'явішся, не адгукнешся, не скажаш, што ты ёсць. Але ты — ёсць, бо я памятаю пра цябе, ведаю, мару, кахаю, абагаўляю, спадзяюся, жыву табой. Ты ёсць у думках, у мроях, у жаданнях, у імкненні знайсці цябе.

І пакуль ты ёсць — цябе не будзе.

## Праменьчык

Вось ён, праменьчык святла, надзеі!
Во, во, во!
Зні-ік...

Прачнуўся. Разбудзіў пракляты будзільнік. Устаў з левай нагі. Жах! Паплавок у бачку не тоне. Адарваўся. Смурод.

Зноў скончылася зубная паста, кава, гарбата — усё. Апрача яе.

Яна лямантуе, сварыцца, спапяляе вачыма, курыць, праклінае, плача, спіць з іншымі.

Узяла нож. Спрабавала забіць.

Збег.

На працу: болей няма куды.

Вахцёрка прачнулася, крычыць:

— У сем гадзін падняў! Не спіцца ўсялякім прыдуркам! Зранку спакою няма! Ключы? Не дам! Абыдзешся, на, з’еш! Праца з васьмі. Чаго вочы вылупіў?!

Вылупіў. Глядзеў. Зразумеў.

Копія яе. Сука. Такое ж стварэнне. Такая ж самая яна-яно.

Збег. Зноў. Звычка.

Парк. Лаўка. Сеў. Круціў галавою, глытаў кісларод, супакойваўся. Убачыў. Ідзе. Знаёмая? Не!

Жонка!

Спынілася. З сабачкам, усмешкаю, увагаю.

Пра нешта спытала. (Які голас!) Мяне? Дзіўна…

— Вы? Вы памятаеце? Паездка ў Маскву! «Эс-вэ-купэ», раніца, зубная паста, кава, гарбата — усё.

А-а!

Так, так, так. Напружваўся, успамінаў, хацеў.
Хацеў у казку. У жыццё... У тое: «Вы памятаеце...»

Вось ён, праменьчык святла, надзеі!
Во, во, во!
Зні-ік...

## Арол ці рэшка?

Як і навошта ў Бога так атрымліваецца, што адна хлусіць, не вылазіць з бруду — і вясёлая, а другая сумленная, чыстая — і заўсёды сумная, заплаканая? Што за дзіўнае размеркаванне? Я ненавіджу такую несправядлівасць! А можа, гэта лёс: арол ці рэшка? Але тады — пры чым тут Бог?

## Ён думае

Ён думае, што ён — ідыёт, бо яна думае, што ён — ідыёт.
Ён — ідыёт!
Ён думае, што вінавата яна, яна — што ён. Ніхто ні ў чым не вінаваты. Проста ёсць такое паняцце — псіхалагічная несумяшчальнасць.

Ён думае, што яна падгульвае, яна — што ён. У фінале: нервы, скандалы, бойкі...
Лепш бы яны падгульвалі ды ні пра што не думалі.

Ён думае, што дзяцей у сям'і павінна быць трое (Бог любіць тройцу), яна — што досыць дваіх (гэтая лічба і ў школе была з ёю неразлучная). Так і жывуць. Зрэшты, жыве — яна. Ён — думае.

## Замена

Памяняў адну саракагадовую на дзвюх па дваццаць.

Быў задаволены, шчаслівы, радаваўся, піў асалоду, лунаў у нябёсах, жыў!

Сканаў!

## Блізняты

Муж і каханак былі братамі-блізнятамі, але зразумелі гэта за нейкую хвілю да таго, як забілі адзін аднаго.

Новы партнёр удавы, калі чуў слова *блізняты*, сутаргава сплёўваў і жагнаўся. Але знайшоўся брат і на яго — брат удавы. Ён не стаў чакаць, пакуль нажытае бацькам дастанецца новаму лавеласу.

На пахаванні забітага брат не суцяшаў сястру, не ліў слёз спачування: ён ляжаў побач, у такой самай труне.

«Не ведаю, — казала яна следчаму, — навошта ім спатрэбілася знішчаць адзін аднаго?»

## Палата № 8, або Праз 110 гадоў

*Сцены тут выпацканы брудна-блакітнай фарбай, столь пакрытая сажай, як у курнай хаце... Вокны знутры знявечаны жалезнымі кратамі. Падлога шэрая і шурпатая. Смярдзіць тухлай капустай, кнотавым чадам, клапамі і аміякам, і гэты смурод у першую хвіліну робіць на вас такое ўражанне, як быццам вы заходзіце ў звярынец...*

*А. Чэхаў. «Палата № 6», 1892 г.*

Ёсць на адной з ускраін горада М., як кажуць, чорт ведае дзе, збудаваная яшчэ ў часы сталага сацыялізму клінічная бальніца, а ў яе рэанімацыйным аддзяленні — палата № 8.

Што за палата? І чым ужо так адметная?

Пытанні — натуральныя, ды адказы на іх няпростыя.

Вось выпілі вы (да прыкладу) з радасці, што жыццё да лепшага павярнула: зарплату, хоць мізэрную і з боем, але вам аддалі. Выпілі, ну і, вядома ж, пацягнула вас на развагі пра існаванне сваё ўбогае, пра жыццё-быццё, якое на цвярозую галаву і жыццём не назавеш. «А калі яшчэ па кроплі?» — вырашылі. Дзе кропля, там і дзве! А як жа інакш пасля змены-прыпаркі ды з гэткімі маленькімі грошыкамі ў кішэні расслабіцца-адключыцца? Не на Канарскія ж выспы — мяккакліматычныя, суцэльна вечназялёныя — ляцець на прагрэўку костачак за пару дзесяткаў адзінак, для вас зусім не ўмоўных, а з боем, як ужо адзначалася, выбітых. Ды з імі з

бліжэйшага рэстаранчыка пасля сціплага абеду-палудня жывым не выпусцяць! Дзеля таго і пастаўлены дужыя хлопцы з тонкімі бабачкамі на тоўстых шыях!

Значыць, выпілі і дабавілі. А дабаўка, нават самая скупая, як вядома, не ідзе на карысць арганізму, вітамінамі не распешчанаму. Зрэшты, распешчанаму таксама не ідзе.

У выніку целам вы крыху аслабелі. Не трымаеце, скажам так, раўнавагі. І гэтая акалічнасць плюс кружэнне галавы вазьмі й кінь вас у абдымкі зямелькі родненькай. Пакаціліся вы снежным комам з крутое горкі. Коцімеся, і раптам — бац! — дубок першай пасляваеннай пасадкі пяшчотна вас цалуе.

— Го-па-а! Го-па-а! Амер-рыка — Еўроп-па-а!

Прыляцелі-прыехалі.

І стан вашага арганізма няўхільна завяршае пераход у стадыю, якую з’едліва называюць станам паміж небам і зямлёй. Што ж далей? А далей — вядомы ланцужок: выпадковы й неабыякавы (калі пашанцуе) прахожы — цяжкія (і вашыя) енкі — спалоханыя крыкі-ляманты (прахожага) — беганіна (яго ж) у пошуках тэлефона — бясконцае чаканне (ужо сумеснае) — «хуткая дапамога» (нарэшце-такі!) — прыёмны (нібыта) пакой — аналіз (вядома) крыві — выяўленне (на жаль!) алкаголю.

І вось ён — прысуд.

— У палату № 8! — гідліва адрасоўвае вас у тутэйшы чысцец дзяжурны касталом. — Га, га, га! Пт-фу! — пралятае плявок у сантыметры ад вашага правага вуха.

— Пайшоў! — штурхае целавозку яго памочнік, мазасанітар з недапраўленай воўчай зяпай.

І вы зноў едзеце — ужо на целавозцы — даўжэзнымі чорнымі калідорамі.

— У-ух! Кхы-кхы! — каркае крывой сківіцай, нагою кіруючы целавозкай, санітар.

— Давай, давай! — падбадзёрвае яго касталом.

Першае ж з вашых адчуванняў яшчэ ў калідоры паблізу палаты — агідны да млоснасці, да галавакружнасці смурод. Грымучая сумесь з трупных гніенняў, моташнага смуроду фекаліяў, ванітаў і прыкрага паху сумесі зліплых крыві і «зялёнкі».

Праўда, вы ўжо зноў непрытомны і смурод вам — па чарапку. Што ж, хоць тут пашанцавала. Але на большае губу не раскатвайце — гэта, пэўна, будзе адзінае, дзе ўдача, хоць і часова, на вашым баку.

Ваша палата затаілася на першым паверсе, але няма ніякага сумневу, што знаходзіцеся вы ў нейкім сутарэнні. Аб гэтым сведчаць хваравіта-цьмянае, нязменнае днём і ноччу святло; аблезлыя, чвэрць веку нефарбаваныя сцены; ірваныя кавалкі лінолеума на падлозе, якія чапляюцца за ногі; плесня з рэшткамі вапнавай пабелкі на столі; абы-як памазаныя бура-шэрай фарбай вокны з іржавымі, крыва зваранымі жалезнымі прутамі; абгрызеныя — пацукамі ці што? — дзверы.

Усё гэта вы ўсвядоміце і ўбачыце, калі, дасць Бог, ачомаецеся і агледзіцеся. Агледзіцеся — і са спазненнем і горкім шкадаваннем зразумееце, якім шчаслівым жыццём да гэтага жахлівага моманту-выпадку жылі. Не было ў вашым акружэнні такіх красунчыкаў, як гэты, прывязаны за рукі і за ногі, распрануты нагала (як, між іншым, і ўсе ў палаце № 8) пацыент злева, што тузаецца ў белай гарачцы; альбо з трубкамі ў разадраным роце «таварыш» справа, каторы захлынаецца крывёй і слінай. А ўжо

пра стварэнне, якое безупынку паўтарае пяшчотную рыфмачку: «Я…ць тваю маць, я…ць тваю маць…», размешчанае проста ля вашых ног, нешта чырванаскурае, кшталту мутанта — помесі малпы з сабакам, і казаць не даводзіцца.

Ёсць сярод гэтай гоп-кампаніі і паненкі. Адна харашуха, так-так, тая, у процілеглым ад вас куце, амаль элегантна трасе па-цыганску важкімі грудзьмі, а заадно вымольвае з заплюшчанымі вачыма ў столі цыгарэту: «Дай закурыць, ну дай закурыць, а я адпрацую, ох, як адпрацую, шкадаваць не бу-удзеш-ш». І язычок ейны, як у галоднага ваўчаняці, бегае туды-сюды, туды-сюды… Адмысловая і суседка харашухі, высахлая ўшчэнт старая з шалёнымі вачыма і з заматанай бінтамі ў дзесяць столак галавой. Нейкія нелюдзі так паразміналі аб яе ногі, што не памагаюць і столкі: сочыцца несупынна кроўка і скрозь бінты.

І ўсе трызняць, трызняць, трызняць. Усе дзевяць, дакладней, восем (акрамя кактэйльшчыка — «таварыша з трубкамі») пацыентаў палаты № 8.

— Высака сяджу, даляка гляджу…

— Увязу цябе я ў тундру, увязу цябе-е адну-у…

— А мы яго па ша-апцы! А мы яго па ша-апцы!

— На табе, сука! На! Атрымай!

— Раўня-йсь, смір-рна! Ша-агам-м арш!

— Мгнавення раздаюць каму — пазор, каму — бяссла-ўе, а каму — бясчэсце-е…

— Ж-ж-ы-ы-ы… Ж-ж-ы-ы-ы… Мы едзем, едзем, едзем…

— Оп-гоп, што ты, што ты, расчыняйце вароты!

То пра якія такія вароты гаворка ідзе?

І вось у гэтай вясёлай блюзнерскай кампаніі вас і знойдзе мясцовы эскулап — сама ўстрыманасць.

Акіне гідліва вокам (здалёку, ад уваходу, бліжэй — ні-ні! — фу-у, якое паскудства!) палату-камеру і запіша навічка ў адкіды грамадства:

— Ну і бамжатнік! Бр-р!

А тое, што вы сумленны працаўнік, дваццаць гадоў сацыялізм на адным энтузіязме будавалі і пятнаццаць — капіталізм за сасіску ў дзень аднаўлялі, — гэта ў разлік не ідзе. Гэта ўжо вы самі вінаваты, што некалі шарыкі ў забітай ура-лозунгамі галаве баяліся варушыць, а цяпер у пэўным стане ў бальніцу трапілі.

Больш за век мінула, а пакінуты Богам воз — краіна-палата № 6, прабачце, № 8 — і сёння там.

...Старэнькая «хуткая» ў выглядзе дабітай дваццацьчацвёркі 1983 андропаўскага года выпуску з віскатам, скрыгатам і выщцём, выпусціўшы з саржавелага нутра чарговую порцыю курадыму, жвава хіснулася на два левыя колы, быццам на дыбкі, і звярнула да шлагбаўма, што перагароджваў уезд у двор дзевятай гарадской клінічнай бальніцы. Амаль не зніжаючы хуткасці і не выключаючы сірэны, машына праскочыла пад шлагбаўмам, які толькі што пачаў падымацца, і цудам яго не зачапіла. Яшчэ праз імгненне, заскавытаўшы тармазамі, замерла каля збітых прыступак прыёмнага пакоя.

Чарговы кліент палаты № 8 — прыбыў!

— Рады вас бачыць! — скрывіў вусны ў амаль сяброўскай усмешцы мясцовы эскулап — сама стрыманасць, але я яго не чуў.

## Класны хлопец

*Ён згроб абедзвюма рукамі яе мясістую, увянчаную смочкай-жолудам цыцку і — паплыў. Гарачыня чужога цела паглынула яго. Вяршыня насалоды! Прыгожая нейкай даўнейшай прыгажосцю, недасягальная, быццам з карціны Рубенса, яна раптам, калі засталіся адны, неадступна гледзячы яму ў вочы (але, але, акурат праз іх, праз вочы, яна пранікла і авалодала яго свядомасцю), са спакоем англійскай каралевы, падкрэсліваючы кожнае слова, спыталася:*

*— Табе даспадобы аральны секс? Толькі пра яго й думаеш? Марыш? Вось ты які! Малайчына! Гэтак у нас што-кольвечы і атрымаецца. Але спачатку папрацуй трошкі, разадзьмі цяпельца, застымулюй дзяўчыну. Не ведаеш як? Не ўмееш? А я навучу. Глядзі, усё вельмі проста. Трэба ўзяцца вось тут. Але не цісні, як танк, на грудзі. Яны нікуды не ўцякуць...*

Здзіўлены, дарагі мой чытач? А што ж ты думаў? Як яшчэ прымусіць такога гультая чытаць і адукоўвацца?! Проста са скуры даводзіцца вылузвацца, каб абібока на старонкі завалачы... Ах, табе і гэтага замала? Во ты які маньячок, аказваецца! Што ж, хочаш чагосьці яшчэ больш крутога? З крывёю? Няма праблем! Развернемся на сто восемдзесят градусаў. Але пачатак — пакінем. Бачу, табе ён лёг на душу...

*Ён згроб абедзвюма рукамі яе мясістую (та, та, та, — прапусціў!) цыцку і зразумеў, чаго хацеў, пра што марыў, мроіў, якімі пакутнымі пакутамі пакутаваў. Усё жыццё! Ад нараджэння! З матчынага ўлоння! З генаў таго, хто яго зачаў. Ён і зараз смаг-*

*не, памірае ад жадання, ад жарсці, аддаў бы ўсё — і што будзе, то будзе! Начхаць! Так, ён хоча аднаго — адкусіць яе сасок. Вырваць з цела гэты гарачы, набраклы, гладкі, амаль без зморшчынак лялечны чубок чырвонай шапачкі! І яшчэ! Адкусіўшы, ён смачна яго сплюне: «Цьфу!», разатрэ нагамі, закрычыць, загалёкае, заглушыць яе стогны і ўвап'ецца зубамі ў другі сасок: «Раз!» І з'есць. З чвяканнем, давячыся. Кайф! Другі трэба абавязкова з'есці, праглынуць, увабраць у сябе! Ух! Ён не любіў паўтарацца...*

*Потым размажджэрыць ёй галаву (каб замоўкла), і лепш аб сцяну (глухі, бясшумны ўдар), і дабрацца да... Зрэшты — не! Спачатку — твар, вусны! Але, але — вусны! Пульхныя, жывыя, маладыя, вільготныя. Яны бязгучныя, амаль нерухлівыя, але яшчэ дыхаюць, дыхаюць! О-о!*

*Вусны змахну нажом (не паўтарацца!). Навошта? А навошта забіваюць? Не ведаеце? Здагадваецеся? Думаеце — хворы? Глупства! Я — Маньяк! Так, так! З вялікай літары Маньяк! Звер! Забойца! Пачвара! Злы геній! Не шэрасць, як вы! Не шэрасць!*

Ну што? Цяпер праняло? Не? Во даеш! Ты жалезабетонны ці што? А можа, на скуралупні ў дзяцінстве ашываўся? Як жа цябе прымусіць чытаць, ёлкі-палкі? Слухай! А можа, ты з гэтых разумнікаў, як іх... інтэлігентаў? Што ж ты раней не казаў? Нічога, і для цябе знойдзецца слоўка. Мяркую, вось гэта цябе разварушыць. Слухай. Бог любіць тройцу.

*Ён згроб абедзвюма рукамі яе мясістую...* Стоп, стоп, стоп. Ты ж у нас асаблівы! Цябе па-іншаму трэба ўлагоджваць. Ласкава. Мякка. Пяшчотна. Здаём назад...

*Мілая мая, харошая!*
*Жыць не магу без цябе!*
*Ты самая найпрыгожая!*
*Шкада, што не для мяне!*

*Шкада...*

Што? Навошта ж перапыняць? Занадта проста? Дзіцячы садок? Зноў міма? Зноў не туды паехалі? Добра! Давёў! Атрымай! Сам напрасіўся! Цяпер — не крыўдуй!

*«Перавярнуць усё жыццё, зламаць, скрышыць любыя перашкоды, адолець нягоды, няўдачы, удары лёсу дзеля цябе — адзінай, жаданай, каханай! Ты — мая чараўніца! З табою спазнаў я рай! Рай — калі ты са мной! Рай — калі я з табой!..»* — гэта я ўжо спяваю. Бачыш, да чаго давёў? — нават голас прарэзаўся!

Чаму цішыня, я пытаюся? Дзе апладысменты? Дзе ўдзячнасць чулага, спагадлівага чытача? Ці зноўку не дагадзіў вашаму адмысловаму густу? А можа, вы аматар рэбусаў, загадак, дэтэктыўных забаў? Здагадаўся? Так і ёсць? Нарэшце! Што ж ты, нягоднік, адразу не прызнаўся? Добра, разбяромся. Загадкі, загадкі, загадкі, тайна злачынства... Так, так, так... Ёсць! Казачка! Вясёленькая!

*Жылі не тужылі двое: ён і яна. Пабраліся даўно, гадоў пятнаццаць назад, але дзяцей — пра якіх марылі і снілі! — так і не займелі. Не лёс! Зрэшты, жылі дружна. Добра зараблялі, хадзілі ў госці, тэатры, рэстараны. У водпуск ездзілі ў краіны далёкія і*

*цёплыя. Так год за годам, прыступачку за прыступачкай і адольвалі ў гэтым свеце, нікому не замінаючы.*

*Але аднойчы, калі жонка вярнулася з работы (як заўсёды раней за мужа) і зайшла ў хату, ёй адразу штосьці падалося дзіўным.*

*Ёкнула сэрца: «У яго ж быў пісталет!». Як ашалелая, кінулася на кухню. Нешта падказала: калі гэта здарылася, дык акурат там.*

*Муж ляжаў з прастрэленай галавой, але яшчэ дыхаў, глядзеў на яе. Хацеў штосьці сказаць, хутчэй — пра нешта спытаць.*

*І яна зразумела, пра што, і адказала. Расшпіліла пінжачок, прыспусціла спаднічку, павярнулася да яго бокам:*

*— Так відаць?*

*І ён пабачыў. За імгненне да смерці пераканаўся: цяжарная! І нават паспеў абрадавацца (ён быў добры — як і яна, між іншым), прашаптаў:*

*— Даруй, я зламаўся, я хацеў... — не дагаварыў.*

*Ён памёр.*

*Каханая закрыла яму вочы. Прысела, абняла.*

*— Я ведаю, чаго ты хацеў, любы, — ледзь чутна варухнуліся вусны. — Ты марыў, каб я нарадзіла, але не жадаў зміры́цца з думкаю, што зачаць я магу толькі ад другога. Замкнёны круг атрымаўся: я здрадзіла дзеля цябе, зрабіла тое, каб збылася твая мара і ты меў малога; ты памёр праз мяне: ведаў, што ніколі не зможаш даравать здраду, і не хацеў абрыдзець мне сваёй рэўнасцю і пакутамі...*

*Пачуўся званок.*

*«Малайчына, татачка, — падумала яна. І ўсміхнулася: — Толькі ж пунктуальны ты на сваю галаву».*

*Цяпер галоўнае — пазбавіцца ад нялюбага. Любага ўжо няма...*

*А татачка ўляцеў радасны, усміхаўся. Дарэмна: татачкам ён так і не стаў...*

Як табе гэткі сюжэцік? Што, зноў прэтэнзіі? Не зразумеў? Як жа цяжка табе дагадзіць! То — дзіцячы садок, то — не дацяміў. Чытач называецца, інтэлігентны чалавек! А можа, ты хочаш цішыні, цяпла, мора, адзіноты і лёгкіх бесклапотных прыгод? Так бы і сказаў! Хоць гэта ўсё роўна не да мяне. Гэта — да Даніэля Дэфо. Тут ён быў першы (з сучасных, так бы мовіць). Ім і застаўся. Так што прабач: надзеі не спраўдзіў. Але будзь спагадлівы: я ж стараўся як мог. Вельмі стараўся...

Вось гэтак заўсёды: захочаш скокнуць вышэй галавы, падняцца на прыступку, а ў выніку прыходзіш да класікі. Да Даніэля Дэфо. Усё ж класны быў хлопец!

## Партрэт

Вось вы — мастак, малады, таленавіты, смелы, дзёрзкі. Гэтак жа смела і дзёрзка вы забілі сваю багатую, у гадах, што вечна павучала вас, жонку. А перад тым, заўважым, паспелі намаляваць яе амалоджаны партрэт-камплімент (адзін з першых падарункаў — а як жа інакш да старой мымры падлабуніцца?). Ён і цяпер вісіць у спальні. Цудоўна прамаляваны, ваш гонар, адна з першых удач. І здымаць яго вам зусім не хочацца. Ды й пасля дзірку ў сцяне заштукоўваць.

І вось вы вольны шляхціц, забяспечаны, у росквіце сілаў — самы раз пажыць дзеля ўласнае асалоды.

І вы запрасілі яе — маладую, прыгожую, амаль, як і вы, пачаткоўку. І яна здзейсніла любоўны цуд, і вы — ля ейных ног. І ўсё як найлепш: воля, каханне, шчасце. І яна — такая спакусніца-чараўніца.

Але гэта для вас усё як найлепш. Для яе ж усё выглядае іначай: ёсць грошы, але як бы не зусім яе, ёсць віла, але як бы зусім не яе. Ні тое, ні гэтае. Лозунг жа прыгажуняў: усё альбо нічога!

І яна ідзе на ўсё.

І ўжо ваш аўтапартрэт ёй неахвота здымаць са сцяны.

## Хлопцы ўжо, відаць, зачакаліся?

Прахапіўся ў пяць. Толькі-толькі днела. Разбудзіў *ён*. Утаропіўся ў мяне вачыма, высмоктваў апошнія сокі. Я ўпершыню злавіў *яго* за працай. Зразумеў, чаму пасля смерці ейнага мужа кожную раніцу пачуваюся блага, а яна баіцца тут начаваць.

Шпурнуў будзільнік. Жалезная скрыначка не даляцела да *яго* некалькі дзюймаў, адскочыла, упала на падлогу, пакацілася: дзінь, дзінь.

«Ён у ахоўным полі, — сцяміў я. — З ходу — не ўзяць. Думай, Федзя, думай».

Ёсць ідэя: сернікі! Полымя праглыне і поле! Падпаліць крывасмока!

Устаю, усміхаюся (як бы кажу: ну хопіць на сёння, даражэнькі, ну хопіць), іду нібыта мыцца. Запальваю пліту — бы згатаваць кавы, але прыкурваю ад канфоркі газету. Тут жа — пакуль «сябра» не

датумкаў, што да чаго, — выплюхваю ў вочы-свярдзёлкі — толькі не прамахнуцца! — падрыхтаваную на ўсялякі выпадак (якое супадзенне!) шклянку спірту і ўслед пасылаю вогненныя «апошнія навіны». І — салют: яго партрэта больш няма!

А сам кіруюся дахаты. Не чакаю, пакуль тыя, што нічога не бачаць, мяне туды ў ненавіснай з дзяцінства кашулі да пят завязуць. Дый халасцяцкае, у родных сценах жыццё спакайнейшае будзе. І хлопцы, зноў жа, пакуль я сватаўся-жаніўся, напэўна, па себруку засумавалі…

## Як яны ўсміхаліся адно аднаму!

Яна: «Піць пачне з сямі-васьмі. Да адзінаццаці будзе “гатовы”. У дванаццаць адыдзе, захрапе, і вось тады…»

Ён: «Ляжа, як усе, хто шануе здароўе, у дзевяцьдзесяць. Да адзінаццаці пагартае якую-небудзь лухту, кшталту “Веданне свайго гараскопу — зарука даўгалецця”. Пад дванаццаць гарматай не разбудзіш. І вось тады…»

Яны сядзелі за невялікім столікам у «Макдональдсе». Прыгожыя, элегантна апранутыя, шчаслівыя. Быў выхадны дзень. Сонечна. Радасна. Яму зайздросціў увесь мужчынскі род, ёй — увесь жаночы.

«Вось тады, — скончыла яна, — і заб’ю яго…»

«Яе», — паправіў ён.

Як яны ўсміхаліся адно аднаму!

## Апошняе слова

Ён заехаў ёй поўху: яна, не папярэдзіўшы, адлучылася на некалькі гадзін і, як ён лічыў — здрадзіла. Але яна не здраджвала. Прынамсі, гэтым разам яна сапраўды была ў маці. Апошнім часам тая дрэнна пачувалася і папрасіла яе: «Хачу цябе ўбачыць, нешта сказаць. Баюся, што гэта будзе апошняе маё слова». На пратэсты дачкі дадала, што жартуе, але паўтарыла настойліва: «Прыйдзі, дачушка!»

«Мама казала праўду, — думала яна, — быццам у ваду глядзела: муж цябе ўдарыць, як толькі зойдзеш, а пасля папросіць прабачэння, збегае па кветкі, цукеркі, шампанскае...»

Так усё і адбылося. Але пад канец вячэры. Пасля ейных слоў: «Вось гэта мужчына! Такі, мабыць, не стоміцца да ранку!» — ён ускіпеў рэўнасцю да тэлевізійнага героя і зноў замахнуўся. Але ўдарыць не паспеў — вастрыё нажніцаў для стрыжкі рыбы ўвайшло яму пад рэбры.

Ён доўга не паміраў, а яна істэрычна смяялася.

Раптам супакоілася.

— Ледзь не забылася, — выцерла слёзы. — Як адыходзіла ад мамы, яна й сказала: «І апошняе табе маё слова, дачушка: перад тым як сесці вячэраць, пакладзі каля сябе што-небудзь вострае і доўгае...»

## Прызнанне

З нейкага часу яму пачало здавацца, што муж, які надта ж хваліць сваю жонку прылюдна (скажам, за бяседным сталом), робіць гэта не проста так, не з прычыны палкага кахання і пяшчоты да яе. Ча-

мусьці думалася, што такі чалавек у нечым вінаваты перад сваёю палавінай, тоіць нейкі страшэнны грэх і цяпер каецца, спрабуе загладзіць віну, адкупіцца. І толькі зараз, за святочным сталом, да яго дайшло, што тут да чаго: яны, гэтыя людзі, проста не спяць з жонкамі…

— Тата, твая чарга маму віншаваць! — прахапіўся ён ад голасу старэйшага сына.

— Але-але, мы чакаем, Алег Васілевіч, — падтрымалі госці. — Ваш тост.

Ён паволі падняўся з крэсла, нібы ажываючы, вяртаючыся ў святочную атмасферу, з якой, задумаўшыся, выпаў на колькі хвілін, ледзь чутна праверыў голас: «гм-гм», канчаткова ачуўся і — яго панесла:

— Скажу вам, сябры, шчыра: без маёй дарагой, ненаглялднай, мудрай, каханай жонкі я ў гэтым жыцці анічога б не дамогся. Толькі дзякуючы ёй…

— Вось гэта я разумею — каханне! — перапыніла яго жончына сяброўка. — Вось гэта прызнанне.

«Але, прызнанне, — мільганула ў ягонай галаве, — сапраўды, прызнанне…»

## Несправядлівасць

Яна ведала, што свет несправядлівы, але каб да такой ступені! І каб несправядлівасць закранула акурат яе, усё жыццё гатовую сустрэць любыя нягоды?

Не, свет не толькі несправядлівы, — свет нелагічны, непаслядоўны, бязглузды.

Яна прытрымлівалася рэжыму, жыла па распарадку: басейн, сон, масаж, прырода. Не працавала,

не ператамлялася, не нараджала, шанавала сябе: да сарака — ніводнай маршчынкі. Любіла сябе.

Вельмі любіла.

І яна, што берагла сваё здароўе як зрэнку вока, што здзьмухвала з сябе пылінкі, цяпер памірала, а ля ложка стаяў ейны муж. Сівы, аблыселы. Які ніколі не асцерагаўся, недасыпаў. Усё жыццё працаваў як вол, і таму быў вечна змэнчаны і ў пяцьдзесят — стары. Стары і стомлены.

І, стомлены, ён падаваў ёй есці, прыўзнімаў на падушках галаву, даглядаў яе, супакойваў, здабываў па аптэках лекі, працаваў уночы, каб аддзячыць дактарам і не прыйсці да яе ў палату з пустымі рукамі. Шмат працаваў. Цягнуў і цягнуў ярэмца.

Ён кахаў яе.

Яна памерла, але так і не зразумела, што свет не проста несправядлівы — ён татальна несправядлівы. Несправядлівы і да несправядлівасці, і да кахання.

## Як у Бога за пазухай

Шэсцьдзесят гадоў разам. Шэсцьдзесят гадоў жыцця як у Бога за пазухай. Ён быў інтэндант, генерал. Заўсёды заняты, заклапочаны, нават пасля выхаду ў адстаўку: «Не хачу, каб ты калі-небудзь зведала нястачу». А яна — пры ім: жонка, каханка, кухарка, прыслуга, сяброўка — усё разам.

Жыццё прамільгнула, як імгненне. Жыццё прамільгнула…

Яна выцяла яго. Моцна, наводліў. Пасля яшчэ і яшчэ. Па галаве. Біла і галасіла. У яго пайшла кроў. З рассечанай губы, з носа. А ён толькі бездапаможна ўсміхаўся. Паказаў вачыма на сервант. Там, у

верхняй шуфлядцы, ляжаў дамскі, інкруставаны слановай косцю пісталет. Падказка? Ён кіўнуў: давай!

Яна не вінаватая. Яна — здалася, зламалася, сарвалася: ён зноў вырваў шланг, праз які апаражняўся. Пад раніцу заснуў, павярнуўся на бок і — шланг зляцеў. Ці ж першы раз! Божа, зноў гэты смурод. Ён працінае, выварочвае, душыць…

Ён не варушыўся, астываў, а яна ўсё перакладвала пісталет з рукі ў руку, не магла прыйсці да памяці. Нарэшце ачомалася, села ў галовах на крэсла. Апошнія некалькі месяцаў амаль не ўставала з яго: чакала, спадзеючыся на цуд. Цяпер — усё. Уздыхнула: «Дзякуй Богу, канец. Даруй, любы. Даруй і павер: цярпела, але — не вытрывала. Гэта аказалася мне не па сіле. Але ты не хвалюйся, я — хутка».

Прайшла на кухню, узяла падрыхтаваную загадзя капсулку, паклала ў рот. Наліла ў шклянку вады. Запіла. Вярнулася ў спальню. Легла побач з ім. Была шчаслівая: зноў разам.

Ціха заснула.

## Я люблю любіць

Каханне!

Каханне — гэта найвышэйшы, дадзены нам Богам духоўны і душэўны дар. Найлепшае з набытага чалавекам на зямлі. Повязь развіцця і эвалюцыі.

Яно ап’яняе, змушае траціць галаву — і ўзносіць да нябёсаў. Робіць свет прыгожым. Рухае яго наперад. Скіроўвае ў будучыню.

Каханне — гэта надзея, мара і мроя, покліч

продкаў, прага дасканаласці. Усведамленне сэнсу жыцця. Найвышэйшае шчасце. Насалода. Самае светлае жаданне. Удача. Перамога. Удзячнасць. Слёзы і смех. Слёзы радасці. І ад душы смех.

Каханне — гэта Дабро.

Гэта — Рай.

Але ёсць пачуццё, мацнейшае за каханне, самае моцнае ў свеце пачуццё.

Рэўнасць!

Рэўнасць — гэта кара нябесная, найбольшае зло.

Рэўнасць, як і інтуіцыя, вышэй за розум. Але інтуіцыя дапамагае розуму, рэўнасць жа вядзе да яго страты.

Рэўнасць — гэта сатана з апраметнай, д'ябал, што пракраўся ў душу, завалодаў сэрцам, свядомасцю, плоццю.

Рэўнасць спусташае духоўна, адбірае сілы, нявечыць жыццё, лёс. У рэўнасці няма логікі. Яна адвеку алагічная: кахаеш чалавека і — лічыш яго здраднікам.

Рэўнасць — гэта атрута, змешаная з крывёю, ракавая пухліна, што спавіла і спаралізавала цела, змусіла яго гнісці. Жах памутнелага розуму, самакатаванне да бяспамяцтва.

Рэўнасць — гэта перамога рэфлексаў над інстынктамі. Але не ў саюзе з эвалюцыяй, а насуперак ёй.

Рэўнасць — гэта рэгрэс, дарога, якая вядзе ў нікуды.

Рэўнасць — гэта Пекла.

Гэта — нянавісць! Татальная нянавісць — нянавісць да блізкіх.

Я ненавіджу ненавідзець!

Я люблю любіць!

# ЧУЖАЗЕМЕЦ-І

Вязень ведаў, што не вытрымае катаванняў, але ведаў і іншае: у яго ёсць шанец — хворае сэрца. Яно не стрывае, здасца, згарыць, перастане біцца раней, чым развяжацца язык.

Яго білі прафесійна і доўга. Прайшла вечнасць, перш чым з палёгкаю ўсвядоміў: удараў не ўспрымае і ў прасторы не арыентуецца. Трызнілася — вось-вось узляціць: адбітае нутро страціла сувязь з целам, і яно здавалася бязважкім. Зачапілілася надзея: «Дасць Бог, так і памру, не раскрыўшы рота».

Два мокрыя ад поту малойчыкі адвалаклі вязня ў кут камеры. Адзін плюхнуў на акрываўленую галаву вадой з вядра, прабасіў:

— Так і будзеш у маўчанку гуляць?

— Нічога, — пасля невялікай паўзы адказаў за вязня другі. — У Доктара спяваць пачне. У яго і не такія салаўямі заліваліся. Пайшлі, мы сваё зрабілі… — Але нечакана павярнуўся і выцяў ляжачага нагой: — От, сука!

Вязень маўчаў.

На змену малойцам з'явіўся белы карлік. Зрэшты, не карлік — тыя складзены больш-менш прапарцыянальна, — а да смешнага каратканогі і таму нехлямяжы чалавечак у белым да пятаў халаце. Праўда, тым, хто ведаў карантыша Доктара, ніколі не прыйшло б у галаву, гледзячы на яго, засмяяцца: звычайна, у час стасункаў з кліентамі, весяліўся і хахміў ён. На шырокім твары Доктара нішто,

калі браць паасобку, здаецца, не адштурхоўвала: выразныя карыя вочы, прамы, амаль ідэальны нос, строгі квадратны падбародак, ярка-ружовыя, як у дзіцяці, рухавыя вусны. Але ўсё гэта было неяк зрушана, перамешчана і з гэтае прычыны твар быў нібыта сабраны і склеены з разнародных фрагментаў. Такая вось адмысловая пачварнасць.

За пачвараю ўвайшоў здаравіла ў шырокім трыко і з голым торсам — з той самай каманды разагрэўшчыкаў. Сёння яму выпала працаваць на пару з Доктарам.

«А карантыш — баязлівец! — пасміхнуўся ў душы вязень. — Адзін на адзін нават з напаўмёртвым баіцца застацца. Відаць, былі прэцэдэнты».

Здаравяк абарваў яго одум. Хапіў за лахманы, што засталіся ад адзення, падцягнуў да ўмураванага ў сцяну металічнага крэсла. Пасадзіў і прыціснуў рукамі-гірамі да спінкі. Хехекнуў:

— Чаму такі мокры? Ванну прыняў? — Не чакаючы адказу, пахваліў: — А трымаешся малайцом, хутка ачуняў, вынослівы. Цяпер расслабся пакуль, адпачывай, набірайся сіл. Яны табе хутка спатрэбяцца…

Вязень спадзяваўся, што сэрца не дацягне да таго моманту, калі ён апынецца на спецкрэсле — так назваў яго, убачыўшы ўпершыню. Прыслухаўся да сябе. Не, сэрца схавалася, затаілася — берагло сябе. Сэрца хацела жыць.

Здаравяк прыпнуў вязня да крэсла. Рамяні ўпіліся ў цела, сціснулі, спаралізавалі. Гэта падзейнічала: сэрца спалохалася, сарвалося, затрапяталася.

«Малайчына! — пахваліў яго вязень. — От і пасобіш мне. Можа, да самага страшнага і не дойдзе…» І замёр, убачыўшы столік са слясарна-меды-

цынскім інструментарыем, які падкочваў да яго карантыш.

Доктар узяў храміраваныя абцугі, якія пабліскваллі пад моцнай вузкаскіраванай лямпаю, і некалькі разоў развёў і звёў іх — размінаў пальцы. Абцугі ціха парыпвалі — скрэблі па мазгах.

— Думаў, кусаюцца толькі шалёныя сабакі? Ды не, — наблізіўся да яго вясёлы чалавечак. Паказаў да бляску выбеленыя зубы. Угледзеў: вязень сцяўся. Пасміхнуўшыся, задоўжыў паўзу: наталяўся асалодаю. — Значыць, так. Электроніка цябе не бярэ: ты яе, не дакранаючыся, выключаеш. Хімія, пігулкі, уколы табе таксама да лямпачкі — не прымае іх твой хітры арганізм. І хлопцы мае дарма двое сутак стараліся, спадзеючыся, што ў цябе сумленне абудзіцца. Застаецца адно — успомніць святую інквізіцыю. Яна заўсёды свайго дамагалася. А ўжо якія кліенты ў яе былі! Цярплівыя, скажу табе, кліенты, цярплівыя… А геніі якія... Адзін Джардана Бруна чаго варты... От бачыш, і па гісторыі прайшліся... Цяпер і па табе пройдземся... Ды не дрыжы, не торгайся! Балюча — толькі першы раз, пасля прывыкаеш. Я ж прывык…

«Ты не прывык, ты гэткім нарадзіўся. Сабака, нелюдзь, жывёліна! — вязень глядзеў карантышу ў вочы. — Калі здамся, здраджу, збаюся — стану такой самай жывёлінай».

Доктар прыціснуў да сцягна вязня пякуча халодную галоўку абцугоў.

— Ну што, будзем языком варушыць ці й далей нямым прыкідвацца? — Яшчэ памарудзіў: падкідваў апошні шанец. — Пакуль цябе прамацвалі знутры. Цяпер праверым звонку…

Сэрца ў вязня зноў ажыло, закалацілася, пайшло збівацца з рытму, захлынацца. Ён падахвоціў яго, шапнуў у думках: «Давай, давай...»

І тут пачвара шчоўкнуў абцугамі — вырваў са сцягна латку скуры з ружовымі нітачкамі мяса.

Маланка болю пранізала галаву вязня, але сэрца, ліха на яго, не разарвалося. Наадварот: зноў прыціхла, сціснулася, запаволіла бег. Разрывалася галава. Пачало муціць.

«Інсульт! — прамільгнула ў згасаючай свядомасці. — Божа, забяры мяне, забяры!»

— Не, даражэнькі, — абліў яго з вядра здаравяк па кіўку карантыша. — Без споведзі ад нас яшчэ ніхто не адыходзіў.

Ледзяная вада астудзіла галаву, і вязень роспачліва і ясна ўразумеў: такога разрывання цела па кавалачках яму доўга не вытрываць, ён здасца, расскажа ўсё — чаго ад яго патрабуюць і чаго не патрабуюць. Ягоны мозг не ўзарваўся, не заліўся крывёю з першага разу. З часам, казаў Доктар, прывыкаеш? Не, ён не настолькі моцны і хутчэй зломіцца, чым прывыкне. «Госпадзі, дай мне памерці да таго, як...»

Надзея заставалася па-ранейшаму адна — сэрца!

Але сэрца дарэшты заціхла, легла на дно.

Доктар апусціў абцугі ў высокую шклянку. Кроў павольна змешвалася з празрыстай вадкасцю, афарбоўвала яе ў колер маладога чырвонага віна. Патануў-знік у ёй і шматок скуры.

Карантыш выскаліўся:

— Значыць, абцужкоў таксама не баішся? Смелы, аднак! А як наконт пазуркоў? Спадабалася нямога курчыць? Нічога, рана ці позна галасок у цябе прарэжыцца.

Ён змяніў інструмент. Злавіўшы маленькай цёплай рукою вязнеў мезенец, адціснуў мякаць, старанна абцяў пазногаць пласкагубцамі, тузануў і залемантаваў, быццам той пазногаць вырывалі ў яго:

— А-а!

Гэта быў крык захаплення.

Маланка зноў ударыла вязню ў галаву. Але пранізала не па гарызанталі — з вуха ў вуха, як мінулы раз, а пеканула зверху. Упілася ў цемя і рассекла галаву напалам. Вязень не закрычаў: спаралізавала мышцы твару. З горла пайшла кроў. «У-у...» — загудзеў розум, зрываючыся ў бездань, але — утрымаўся на краі.

— Моцны арэшак, — расплыўся ва ўсмешцы карантыш. — Давядзецца сяброўкай вернай пакарыстацца. — Ён узяў са століка пілку-лобзік даўжынёю ў дзве пядзі. — Гэтая красуня да чаго хочаш дапілуе, — абрадаваў. — Во, глядзі, рука твая ля запясця прывязана, а мы яе зараз вызвалім. Праўда, не ўсю — сам разумееш, свабода вымагае ахвяр.

Доктар прыклаў пілку да рукі крыху ніжэй раменьчыка-жгута, зрабіў першую насечку. Скура распаўзлася, разаслала крывавую дарожку.

— Паехалі! — разануў ужо з націскам. — Туды-сюды, туды-сюды! — з асалодаю вадзіў пілой і вішчэў. — Глядзі, які я работнічак! Глядзі...

Калі пад пілою зашалясцела косць, вязень паплыў — каляровы малюнак перад вачыма ператварыўся ў чорна-белы, чорна-белы — у непраглядную ноч.

Здаравяк сваю службу ведаў, момант адчуў дакладна — зноў абліў вязня вадою:

— Не, герой, нумар з паскораным пахаваннем не пройдзе!

Холад вярнуў вязня да памяці. Ён зноў бачыў. Бачыў у колеры. Кроў — чырвоная. Буйвал-здаравіла — у сінім трыко і з рыжай валасатай грудзінай. «Не паміраю, — намагаліся і не маглі шапнуць сасмяглыя губы. — Пракляцце!»

Раптам за спінаю карантыша штосьці грымнула, задрыжэлі дзверы камеры.

Гру-ух-х! — разам з завесамі і прыліплай да замка-завалы тынкоўкаю ад сцяны аддзяліліся цяжкія акаваныя дзверы, рухнулі на здаравяка і ўціснулі яго ў падлогу. Канец адагнутай жалезнай шыны ўспароў яму бок.

У праёме паказаліся двое ўзброеных. Адзін, не марудзячы, гваздануў прыкладам аўтамата пачвару па галаве. Праломленая галава засмяялася.

Пасля другога ўдару ўхмылка з ружовых вуснаў зляцела, маленькія ножкі падагнуліся і карантыш бясшумна паваліўся. Ён ляжаў каля ног вязня, закаціўшы вочы. Быццам сабака, якога аддзячыў-пагладзіў за верную службу гаспадар. Сабакам ён і быў. Шалёным сабакам…

«Учэпісты, яшчэ крыху — і дамогся б свайго!» — глядзеў на замёрлага ката вязень.

І раптам злавіў сябе на думцы: «А мае выратавальнікі, хто яны? Што зробяць, калі падзялюся з імі вядомай мне інфармацыяй? Скарыстаюць яе дзеля дабра ці зла?»

— Не хвалюйцеся, — быццам пачулі яго нявыказаныя сумненні тыя двое. — Мы адразу раскрыем карты: нам вядома, хто вы і адкуль. Ведаем мы і тое, што праз сувязь са *сваім* светам вы здольны прадказваць будучыню (акрамя сваёй) на бліжэйшыя дваццаць чатыры гадзіны. Зараз развяжам путы, і вы пачуеце пра нашы планы…

Вязень траціў прытомнасць. Ён яшчэ не паспеў усвядоміць, што вызвалены, быў ва ўладзе нясцерпнага болю, але дзесьці ў глыбіні душы ўжо нарадзілася, расло гэтае ганарлівае пачуццё: ён выжыў, вытрываў, застаўся чалавекам!

Цяпер ён не жадаў смерці — хацеў жыць! Чаго б гэта ні каштавала — жыць! Наперакор усім вылюдкам і пачварам — жыць! Жыццё — цудоўнае!

Радасць і шчасце перапоўнілі яго, падхапілі, панеслі. І сэрца, якое выцерпела нечалавечыя пакуты, не скарылася, калі скараліся розум і цела, не вытрывала абрынутага патоку свабоды — захлынулася…

Выратавальнікаў насцярожыла, што галава чужаземца раптам упала на грудзі. Адзін з іх узяў яго за руку: пульс адсутнічаў.

— Вады! Хутчэй! — закрычаў, спрабуючы хоць што-небудзь зрабіць.

Усё было дарэмна.

Выратавальнікі так і не даведаліся, што адбудзецца заўтра — 11 верасня 2001 года.

А Душа чужаземца ляцела да неба.

Неўзабаве закружылася ўслед за Зямлёю. Кружылася і чакала.

Чакаў свайго часу і я.

І час надышоў. Я вырваўся на волю, і Душа ўвайшла ў мяне, ускалыхнула сэрца — адарыла жыццём.

Так я нарадзіўся. Папраўдзе — ажыў ён, чужаземец.

# ЧУЖАЗЕМЕЦ-II

Вастрыём ляза кат ускалупнуў вочы закутага ў панцыр-сетку чужаземца. Левае, за ім — правае. Без супыну прыняўся за вушы. Калі шураваў нажом, вушы, аддзяляючыся ад галавы, агідна сіпелі, і ката пацягнула на ваніты. «Старэю», — падумаў. Языком і глыткамі паветра ён спрабаваў стрымаць, запхнуць рвоціну назад. Справіўся. Прадоўжыў работу. Кароткімі, але ўхопнымі — з насечкамі на канцах — абцужкамі вырваў у палонніка ноздры.

Прыглядзеўся: палоннік — жыў.

«Ну і ну! — шалеў ад асалоды. — Такі доўга працягне! Дастойным чэрнь відовішчам уп’ецца!»

Скарыстаўшы той жа інструмент, усунуў у рот палонніка пачарнелую медную лейку. З апаскаю прыняў паднесены коўш з расплаўленай смалою. Нахіліў. Трымаў-скаліўся: палілося!

Брудна-бурае варыва ўварвалося ў нутро палонніка, але праз імгненне паперла назад, з шыпеннем расцякаючыся і ўпіваючыся ў шчокі вакол тырчэлай у роце лейкі. З пустот на месцы вачэй, носа і вушэй хлынула кроў.

Ну як? Хапіла?

Палоннік жыў.

Знявечанае цела паднялі, аблілі-абмылі ледзяною белаю жыжкаю і пацягнулі на плошчу. Пад радасны лямант нецярплівага натоўпу «Рэж! Рэж! Рэж!» прыкавалі да звязанага з бярвенняў памоста.

Прадоўжыў кат з ног. Спачатку адсек ступні, пасля — крыху ніжэй каленяў і, нарэшце, дабраўся да сцёгнаў.

Другая нага адвалілася толькі пасля шостага ўдару.

Палонны качаўся ў лужыне сваёй крыві, але — жыў.

Кат, не марудзячы, пайшоў далей. У два прыёмы адсек рукі: спачатку — кісці, пасля — вышэй локцяў.

Страшны абрубак курчыўся, але — жыў.

Тое, што засталося ад палоннага, падчапілі крукам за рэбры і падвесілі на тоўстай галіне старога дуба. Бегалі вакол, смяяліся: «Га-га-га! Га-га-га!». Білі абрубак палкамі, — думалі, лупцуюць мёртвага, а ён — жыў.

Заўважыўшы, што абрубак дыхае, яго сарвалі з крука, агаліўшы дзве рабрыны, — і накінулі на шыю пятлю. Другі канец вяроўкі прывязалі да жарабіцы, нецярплівай даўгагрывай красуні, і пусцілі неўтаймоўную наўскач. Жарабіца доўга ўхілялася ад бізуноў, лятаючы, быццам вецер, але на захадзе сонца стамілася. Пападала і асіплая, прытомленая доўгім экстазам зграя. Бліжэйшых з іх скруціла: кавалак зрэзанага, абадранага да касцей цела торгаўся.

Жывы!

Зграя зараўла, загалёкала, завыла:

— Д'ябал! Д'ябал! Д'ябал!

Над квадратам біямасы ўсплыла і засвяцілася аблачынка — Душа палонніка. Трохі павісеўшы над нерухомым знявечаным кавалкам-целам, Душа-аблачынка паступова падымалася, адыходзіла ў нябёсы.

Неўзабаве закружылася ўслед за Зямлёю. Кружылася і чакала.

Чакаў свайго часу і я.

І час надышоў. Я вырваўся на волю, і Душа ўвайшла ў мяне, ускалыхнула сэрца — адарыла жыццём.

Так я нарадзіўся. Папраўдзе — ажыў ён, чужаземец.

# ЗМЕСТ

## КРЫМІНАЛЬНЫЯ АПАВЯДАННІ

АПАВЯДАННІ ПРА КАХАННЕ

ЗАПІСЫ

БОНУС
(з чорнага сшытка)

